Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 42 (4586) 22 кастрычніка 2010 г.

## У нумары:





# Народнае — значыць прафесійнае

На IX абласным фестывалі "Напеў зямлі маёй", які праходзіў у Мар'інай Горцы, Гран-пры Мінскага аблвыканкама — аўтобус "Нёман" — атрымаў узорны эстрадны аркестр Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік — Леў Канаплянік).



Уявіце сабе, колькі каштуе такі падарунак і, магчыма, не дужа разбіраючыся ў коштах, паразважайце на тэму, а ці так лёгка зрабіць падобнага кшталту набытак нават аддзелу культуры. Не кажучы ўжо пра калектыў самадзейнасці ці Дом культуры... Традыцыяй стала правядзенне ў Пухавіцкім раёне абласнога фестывалю народнай творчасці "Напеў зямлі маёй". У памяці — ранейшыя святочныя імпрэзы, якія збіралі і мноства гледачоў, і выяўлялі новыя таленты. Жыхары горада заўжды ахвотна цісНуліся ў глядзельную залу мясцовага палаца культуры. Ніколькі не з меншым жаданнем, чым на канцэрты нават эстрадных славутасцей. Мар'іна Горка не пакрыўджана сустрэчамі з "зоркамі". Канцэрты "Песняроў", Валянціны Талкуновай, Аляксандра Саладухі — усё гэта было тут і шмат з кім яшчэ сустрэчы адбудуцца. Словам, патрэбы ў сустрэчах з мастацтвам задавальняюцца на любы густ. Неабавязкова і ў Мінск спяшацца. Хіба што — на выступленне якой суперзоркі. Але ж што значаць замежныя гастролі, калі ёсць магчымасць паслухаць, убачыць сваё, роднае, не меней багатае колерамі, адценнямі, настроямі, самім жыццём, генетычна адкрытым і зразумелым многім і многім пакаленням нашых прашчураў.

Вялікую асалоду, душэўную шчодрасць, надзвычайную шчырасць абуджалі знаёмствы ці не з усімі калектывамі, што выходзілі сёлета на мар'інагорскую сцэну. Высокі прафесіяналізм, жаданне паказаць сённяшняе асэнсаванне народнай творчасці, часам выключны клопат у адстойванні архаічнага і старадаўняга — і здзіўлялі, і радавалі, і натхнялі на многія развагі. Маладзечанцы, валожынцы, бярэзінцы, любанцы, капыляне, ды і ўсе астатнія ўдзельнікі свята, выкладваліся напоўніцу. Бо яны не проста самадзейныя артысты, а — хутчэй прафесіяналы. Нават у тым выпадку, калі не працуюць у штаце ўстаноў культуры. Пра самаахвярнасць, высокі плён штодзённай руплівасці работнікаў культуры гаварылі на адкрыцці фестывалю міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, начальнік упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Анатоль Акушэвіч, намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Віктар Шчэцька. У краіне падрыхтавана выключная па сваёй значнасці праграма "Культура Беларусі", разлічаная на наступныя пяць гадоў, праграма, дзе адзначаны галоўныя кірункі па развіцці духоўнага жыцця, у тым ліку — і па пашырэнні ўжытку народных традыцый. Музычнае, песеннае, танцавальнае мастацтва, несумненна, выйдуць на новыя абсягі прафесіяналізму.

Ці не парушае гэта імкненне захаваць нешта блізкае да зямлі, побытавае, самадзейнае?.. Пра гэта давялося паразважаць з некаторымі сталымі ўдзельнікамі абласнога фестывалю "Напеў зямлі маёй". Былі самыя розныя думкі. Арганізатары, кіраўнікі культурна-асветніцкага жыцця лічаць, што захаванне народнай традыцыі, ушанаванне фальклорных і спаконвечных багаццяў народа ў галіне духоўнай культуры — справа няпростая, з тых, што патрабуюць асаблівага шчыравання, і тым болей не разлічаная на масавыя старанні. Сапраўды, не разумець гэтага нельга.

Самыя добрыя эмоцыі выклікалі выступленні на сцэне тых, каго пасля аўтарытэтнае журы вызначыла пераможцамі, лаўрэатамі. Але зразумела, што здабытае лепшымі калектывамі — гэта і прафесіяналізм, які нельга прыўнесці ў кожны сельскі клуб і нават палац культуры кожнага аграгарадка. Можна, вядома ж, сказаць, што, маўляў, да лепшага варта імкнуцца, што таксама правільна. Але відавочна і іншае — высокі ўзровень дасягнуць пад сілу сапраўды прафесіяналам, тым, хто ставіць народную традыцыю на аснову прафесіяналізму, адпаведна — укладвае ў развіццё калектываў сродкі і час. Мы жывём у прасторы, якая хутка мяняецца, паддаецца ўплывам неверагодна далёкім тэрытарыяльна, але і блізкім, дзякуючы новым інфармацыйным рэсурсам. І літаральна нічога нельга забараніць, цяжка нечаму выставіць бар'еры і межы. Ды, відаць, і не трэба. Выпрабаванне часам — самы лепшы бар'ер і самыя строгія абмежаванні ці забарона. Народная ж культура, якую сёй-той лічыць усяго толькі рэліктам, і на абласным, раённым узроўнях — частка прафесійнай работы. І, відавочна, у Мінскай вобласці, як нідзе, разумеюць гэта. Таму штогод і ўражвае фестываль "Напеў зямлі маёй" сваімі фарбамі, сваімі знаходкамі і адкрыццямі.

Вось і сёлета захапілі, здзівілі сваім майстэрствам народны вакальны ансамбль "Пліса" ДК Смалявіцкай птушкафабрыкі (кіраўнік Канстанцін Герашчанка), народны інструментальны ансамбль "Нясвіжскія лыжкары" (кіраўнік Уладзімір Сухавей), народны ансамбль танца "Крупіца" Крупіцкага цэнтра культуры Мінскага раёна (кіраўнік — заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Георгій Чорны). Пра лыжкароў дык нельга не адгукнуцца асобна. Ім, заліхвацкім штукарам, можна ехаць на любы фальклорны фестываль Еўропы ці ўвогуле свету. І здзівяць, і ў палон пачуццяў захопяць, і ўрок майстэрства пакажуць. Згаданыя калектывы таксама атрымалі высокія ўзнагароды. Адзначаны быў асобна і ансамбль "Дружбакі" Дружненскага дома культуры (Пухавіцкі раён) — за яркі гумар, тэатральнае майстэрства. Між іншым, гаспадары на фестывалі вылучаліся неаднойчы. І не толькі за высокі ўзровень падрыхтоўкі свята. А найперш — за майстэрства народных калектываў, якія прадстаўлялі Пухавіччыну.

Па традыцыі журы фестывалю ўзначальваў народны артыст СССР Ігар Лучанок. У Мар'іну Горку, Пухавіцкі раён, да земляко ў ён прыязджае як да самых блізкіх людзей. Тут — яго бацькоўскі дом. Тут усе ведаюць і паважаюць Ігара Міхайлавіча. І, выступаючы на адкрыцці фестывалю, ён выказаўся пра тое, што "Напеў зямлі маёй" жыць і радаваць пухавіччан, артыстаў і культурна-асветніцкіх работнікаў Міншчыны будзе вечна. І мы таксама на гэта спадзяёмся.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

На здымку: начальнік упраўлення культуры Мінаблвыканкама Анатоль Акушэвіч уручае Гран-пры кіраўніку ўзорнага эстраднага аркестра Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў Льву Канапляніку.

Фота Анатоля Басава

## Пункцірам

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Мікіту Міхалкова з 65-годдзем.

• Міністр культуры Беларусі Павел Латушка сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Эдуардам Шапірам. У ходзе перамоў разглядаліся пытанні перспектыўнага развіцця беларуска-ізраільскіх адносін ў сферы культуры: выступленні беларускіх калектываў на канцэртных пляцоўках Ізраіля, сумесныя кінапраекты ў сферы дакументалістыкі і наладжванне кантактаў паміж мастацкімі музеямі дзвюх краін.

• Беларускія навукоўцы і ўсе тыя, што ўсур'ёз займаюцца вывучэннем беларускай гісторыі, атрымалі шчодры падарунак ад выдавецтва "Беларуская навука". Тут пабачылі свет адно чатыры кніжныя навінкі. Гэта трохтомнік У.Конана "Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі", "Беларуская літаратура X — XV стст.", "Мсціслаўскае княства і ваяводства ў XII — XVIII стст." А. Мяцельскага і "Марцінкевіч герба Лебедзь: дакументы і матэрыялы пра класіка беларускай літаратуры XIX ст. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча".

• Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Нацыянальная бібліятэка Турцыі падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Яно прадугледжвае прадастаўленне свабоднага доступу да калекцый абедзвюх бібліятэк, развіццё міжнароднага кнігаабмену для распаўсюджвання бібліятэчных фондаў, рэалізацыю сумесных праектаў па навуковым даследаванні манускрыптаў, арганізацыю кніжных выставак, устанаўленне сувязей у сферы распаўсюджвання інфармацыі, навукі і культуры.

• Пераможца "Еўрабачання-2009", нарвежац беларускага паходжання Аляксандр Рыбак, і пераможца дзіцячага "Еўрабачання-2005", беларуска Ксенія Сітнік, праспяваюць дуэтам на адкрыцці дзіцячага "Еўрабачання-2010" песню пад назвай "Прывітанне, Еўрабачанне!" А беларускі канкурсант Данііл Казлоў са сваёй кампазіцыяй "Месяцавае святло" выступіць пад нумарам 12.

• Канцэртам "Італьянскае музычнае барока" з удзелам "Бахаўскага гуртка" Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Мінску завяршыла работу VII Акадэмія старажытнай музыкі. Канцэрт адбыўся ў Нацыянальным мастацкім музеі. У праграму былі ўключаны творы Скарлаці, Вівальдзі, Карэлі. У праекце бралі ўдзел вядомыя выкладчыкі замежных кансерваторый, музыканты і музычныя крытыкі з Італіі і Францыі.

• Буйны скарб старажытных манет часоў Лівонскай вайны знойдзены ў Верхнядзвінску. Такой знаходкай нумізматы абавязаныя салдату тэрміновай службы. Вяртаючыся з групай саслужыўцаў з экскурсіі па горадзе, ён заўважыў непадалёк ад касцёла Раства Дзевы Марыі, дзе вядуцца земляныя работы, мяшэчак, што вытыркаўся з зямлі. У мяшэчку аказалася 392 манеты, датаваныя 1557 — 1564 гадамі.

• Віцебская абласная філармонія ў партнёрстве з медыцынскімі ўстановамі Віцебска падрыхтавала цыкл канцэртна-пазнавальных праграм для будучых мам "Сатканць душу з нот". Новы музычны праект пазнаёміць слухачак з творамі сусветнай і нацыянальнай музычнай спадчыны, якія, на думку спецыялістаў, спрыяльна ўздзейнічаюць на жанчыну і яе будучае дзіця. А яшчэ мамы змогуць навучыцца тут спяваць калыханкі.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Актуальна

# Журналістыка як лад жыцця

У камернай атмасферы залы пасяджэнняў Рэспубліканскага Дома журналіста без залішняй пампезнасці, па-дзелавому і мабільна творцы правялі XII з'езд грамадскай арганізацыі "Беларускі саюз журналістаў". У дакладзе старшыні БСЖ Анатоля Лемяшонка і садакладзе яго першага намесніка Рыгора Сакалоўскага былі пазначаны асноўныя праблемы, з якімі даводзіцца сутыкацца майстрам пяра штодня, і тое, што ўдалося вырашыць за міжз'ездаўскі перыяд.



На форум сабраліся тыя, хто праблемы здольны падняць на належным, дзяржаўным узроўні — а менавіта сталыя прадстаўнікі прафесіі, у каго за плячыма — сотні артыкулаў, і зусім не інфармацый-карацелек. Прынамсі, па стажы працы ў СМІ найбольш было тых дэлетагаў, хто працуе ў сферы звыш 20 гадоў. З'езд атрымаўся прадстаўнічым: пры тым, што ў прафесійным саюзе цяпер больш як 2 тысячы чалавек, на форум было абрана 75 дэлегатаў. 54 з іх працуюць у газетах, 2 — у часопісах, 5 — на радыё і тэлебачанні, астатнія — у інфармацыйных агенцтвах, Інстытуце журналістыкі БДУ ды ў іншых установах. Такім чынам, усе структуры, дзе запатрабаваная альбо адбываецца навучанне прафесіі журналіста, былі прадстаўленыя.

Як пазначыў у справаздачным дакладзе старшыня БСЖ Анатоль Лемяшонак, за мінулы перыяд удалося вырашыць асноўную задачу: адрадзіць ды ўмацаваць аўтарытэт і самой грамадскай арганізацыі, і прафесіі, прадстаўнікі якой сваім талентам, даходлівым і вобразным словам дапамагаюць краіне ў яе паўсядзённым жыцці. Дарэчы ў гэтым — і сталы прафесійны досвед кожнага майстра пяра, і намаганні створаных інстытутаў. Да прыкладу, заняткі ў грамадскай Акадэміі журналістыкі дапамагалі, асабліва пачаткоўцам, спасцігаць таямніцы прафесіі, бо многія ж гаварылі: на жаль, страчана традыцыя настаўніцтва, яна трымаецца цяпер, бадай, толькі на асабістых стасунках. Заняткі акадэміі праходзілі ў творчых калектывах, у рэдакцыях, на іх запрашаліся прадстаўнікі мясцовых уладаў, асабліва — начальнікі ўпраўленняў і аддзелаў ідэалогіі ў рэгіёнах: наладжваўся дыялог творцаў і ўлады.

Журналісцкая прафесія як ніводная іншая, напэўна, адчувае тэхнічныя змены. Гісторыяй сталі і цяжкавагавыя (па 6 кілаграмаў) рэпарцёрскія магнітафоны карэспандэнтаў радыё, і зналыя "лейкі", спадарожніцы творцаў у камандзіроўках. Цяпер рэдакцыі заклапочаныя камп'ютарным забеспячэннем, фота, аўдыётэхнікай. Прагучаў голас і "шматтыражак" — газет, якія існуюць на прадпрыемствах. Іх база ды тыражы часта нават пераўзыходзяць рэспубліканскі друк. Але ў журналісцкай супольнасці ім таксама ёсць што абмяркоўваць.

Бясспрэчна, закранаэлі пытанні творчасці. Клапаціліся пра тое, у прыватнасці, пра што пісаў "ЛіМ" — што знікаюць са старонак жанры нарыса, фельетона, памфлета. І што раніца, на жаль, не ва ўсіх беларусаў пачынаецца з газеты. Мо з-за таго, што, бывае, не належным чынам наладжана супрацоўніцтва з поштай, часцей — таму, што людзі, асабліва маладыя, для чытання абіраюць альтэрнатыўныя крыніцы інфармацыі і шмат часу бавяць у Інтэрнэце, які, між іншым, па аператыўнасці канкурырує з газетамі і электроннымі СМІ.

Цяпер журналістыка набывае іншыя рысы, і гэтая з'ява таксама патрабуе асэнсавання. Што ж новага ў саюзе? За мінулы перыяд, да прыкладу, у БСЖ уступіла каля 400 прафесіяналаў, многія з іх — маладыя, хто паверыў у кампетэнтнасць творчага аб'яднання. Маладзеючы на вачах, журналістыка між тым творча сталее: цяпер амаль удвая ў параўнанні з мінулымі гадамі павялічылася колькасць уганараваных рознымі ўзнагародамі БСЖ.

У рабоце з'езда прынялі ўдзел першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, першы намеснік старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў.

У звароце, прынятым на заканчэнні форуму, Беларускі саюз журналістаў заклікаў усіх калег, як айчынных журналістаў, так і замежных, хто расказвае пра жыццё ў Беларусі, памятаць пра кодэкс прафесійнай этыкі, не ставіць палітычную мэтазгоднасць вышэй за паняцці абавязку і гонару.

Між іншым, тыдзень таму ў краіне прэзентавалі новы сайт БСЖ. (http://buj.by). Тут будуць размешчаны навіны саюза, блогі вядомых журналістаў, інфармацыя пра творчыя конкурсы і міжнародныя праекты, нават пра вакансіі ў рэдакцыях.

Старшынёй Беларускага саюза журналістаў на наступны перыяд аднагалосна абраны Анатоль Лемяшонак, яго першым намеснікам — Рыгор Сакалоўскі.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: бліц-інтэрв'ю перад з'ездам старшыні БСЖ Анатоля Лемяшонка.

Фота аўтара

## Імпрэзы

# Сімпатыя, што стала дружбай

У свеце не так ужо шмат краін з праваслаўнай гісторыяй і культурай. Таму, безумоўна, нам цікава назіраць адно за адным. Непакоіцца пра лёс адзінаверцаў у сучасным свеце, знаёміцца з іх мінулым, далучацца да каштоўнасцяў іх мастацтва і літаратуры. Шляхі, па якім крочылі праз стагоддзі грэкі-кіпрыёты і беларусы, нячаста сыходзіліся. Але тым не менш, у двух гэтых народаў так шмат агульнага!

Прэс-канферэнцыя старшыні таварыства "Кіпр — Беларусь" Рагіраса Канстанціну ў сталічным Доме дружбы супала з нацыянальным святам рэспублікі Кіпр — 50-годдзем з дня абвяшчэння Кіпра незалежнай дзяржавай. Аднак, не толькі радасныя матывы гучалі ў размове ў гэты дзень. Непакой, заклапочанасць будучыняй кіпрыётаў пачулі ўдзельнікі канферэнцыі. Асобным лейтматывам — захаванне помнікаў архітэктуры і мастацтва, найкаштоўнейшых гістарычных рарытэтаў.

У размовах з беларускімі журналістамі Рагірас Канстанціну неаднойчы выказаўся, што знешняя і ўнутраная палітыка, якую абрала Беларусь, яму глыбока сімпатычная. Бо гэта палітыка не разбуральная, а стваральная. І сённяшняе кіраўніцтва Кіпра таксама дае права грамадзянам гэтай дзяржавы спадзявацца на хуткія стабільныя перамены. Безумоўна, дружба, падтрымка і ўзаемадапамога паміж Кіпрам і Беларуссю цяпер — гэта самае натуральнае, што магло ўзнікнуць. І мы ўжо дапамагаем адно аднаму. Беларускія спецыялісты прадпрыемства "Цэнтрэнергамантаж" былі запрошаны для будаўніцтва трох энергаблокаў электрастанцыі на Кіпры (цяпер разам з кіпрыётамі яны ўзводзяць энергаблок электрастанцыі ў Грэцыі). А кіпрскі бок робіць усё магчымае, каб летні адпачынак у гэтай цёплай краіне быў для беларускіх турыстаў зручным па арганізацыі і не надта дарагім. У межах жа культурных сувязей — гастролі прафесійных і непрафесійных артыстаў на Кіпры і Беларусі. Два такія калектывы — самадзейны кіпрскі "З любоўю" і фальклорны беларускі "Купалінка" выступалі ў Доме дружбы ў той дзень.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Сустрэчы

# Паэзія не мае межаў

Літаратурнаму клубу "Натхненне" пры Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў, які ўзначальвае паэтэса Вольга Сакалова, ужо больш як пятнаццаць гадоў. На яго пасяджэнні прыходзяць людзі розных прафесій і характараў. Удзельнікі клуба часта ладзяць сустрэчы з чытачамі, запрашаюць да сябе ў госці пісьменнікаў, выдаюць свае паэтычныя кнігі. Яны сталі пастаяннымі ўдзельнікамі разнастайных мерапрыемстваў у літаратурных музеях Якуба Коласа і Янкі Купалы, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Чарговую творчую вечарыну клуба было вырашана правесці ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Таму што паэзія не мае межаў і сярод аматараў яе нямала людзей навукі. Вечарына адбылася пры амаль поўнай зале. Незвычайна цёпла былі прынятыя тут паэты-пачаткоўцы Л. Бурдыка, В. Барысава, В. Шпакевіч, В. Малышкін, М. Мазурэнка. Была прэзентавана на гэтым свяце паэзіі таксама першая кніга вершаў супрацоўніцы бібліятэкі і адначасова актыўнага члена клуба Наталлі Сантаровіч "Путь к себе". Кульмінацыяй вечара стала выкананне песень на словы членаў клуба артыстамі Т. Кашчавай і М. Барджэевым.

Вольга СМЫК

## Конкурсы

# «Брама мар» запрашае

Творчая лабараторыя "Крытык", якая дзейнічае пры кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, абвясціла пачатак адкрытага конкурсу літаратурнай творчасці студэнтаў пад шматабяцальнай назвай "Брама мар". Паўдзельнічаць запрошаныя не толькі студэнты БДУ, але і навучэнцы іншых ВНУ краіны — так ініцыятары конкурсу спадзяюцца выявіць і падтрымаць таленавітую моладзь.

Куратар праекта Уладзімір Капцаў, кіраўнік творчай лабараторыі "Крытык" і дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, лічыць конкурс добрым сродкам для правядзення самаацэнкі маладых творцаў у адпаведнасці з іхнімі здольнасцямі: "Кагосьці мы на гэтым конкурсе "адкрыем", а кагосьці мо й "закрыем", адным дадзім стымул развівацца, іншым — нагоду задумацца, паставіцца да сябе крытычна".

Конкурс будзе праходзіць у тры этапы. Першы, які ўжо разгарнуўся, уключае збор тэкстаў — кожны студэнт можа даслаць на конкурс свой літаратурны тэкст па пяці намінацыях: проза, паэзія, драматургія, крытыка, пераклад. Гэтыя тэксты будуць разгледжаныя журы, у склад якога ўвойдуць выкладчыкі Інстытута журналістыкі і вядомыя беларускія літаратары. Другі этап пачнецца ў лістападзе — усе ахвотныя будуць запрошаныя на журфак, дзе цягам тыдня пройдзе пяць тэматычных семінараў (па адным дні на кожную намінацыю), так што можна будзе даведацца пра сакрэты майстэрства пісьменнікаў, атрымаць ад іх творчыя заданні і нават напрасіцца на крытычны разгляд уласных твораў. Трэці этап уключыць адбор фіналістаў — па пяць чалавек у кожнай намінацыі, чые тэксты будуць прызнаныя лепшымі. Пасля таго, як фіналісты пройдуць адмысловыя творчыя выпрабаванні, будзе вызначаны пераможца ў кожнай намінацыі. Быць найлепшым, атрымаць прызнанне — само па сабе няблага, да таго ж арганізатары абяцаюць прызы і спрыянне ў публікацыі твораў.

Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

## Літ-абсягі

У мінскай краме "Кніжны салон" адбылася прэзентацыя зборнікаў вершаў, што ўбачылі свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва", — Раісы Баравіковай "Сад на шляпке возлюбленной", Валянціны Паліканінай "От первого яблока", "Живое зерно", "Да будет день...", "За плотью слов", Юрыя Сапажкова "На просторе слова" і перакладзеная ім з англійскай мовы кнігі Хаміля Джабрана "Пророк".

# Узоры чароўнага калейдаскопа



Перакладаць паэзію — справа нялёгкая. Асабліва калі гаворка ідзе пра такія блізкія мовы, як руская і беларуская. Перакладчык бярэ на сябе вялікую адказнасць, таму што кожны беларускі чытач можа параўнаць яго працу з арыгіналам і грунтоўна давесці, ці ўдалося перадаць з дапамогай сродкаў іншай мовы вобразную насычанасць і мілагучную чароўнасць паэтычнага слова, напал пачуццяў, няроўнае дыханне душы і строгі рытм верша.

Паэт і перакладчык Юрый Сапажкоў гэта выпрабаванне вытрымаў. Гэта пацвердзілі шчодрымі апладысментамі госці свята — настаўнікі, бібліятэкары і паэты, прадстаўнікі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва"...

"Паэтычны калейдаскоп" — такую назву мела прэзентацыя — сапраўды здзіўляў прысутных нечаканымі ўзорамі. Вершы — глыбока лірычныя, інтымныя, пра падобнае да сыходу лавіны каханне — у перакладзе чыталі самі аўтары, здзіўляючы залу новымі адценнямі знаёмых радкоў. Аўтар сур'ёзных палітычных дэтэктываў Сяргей Трахімёнак выканаў пад гітару кампазіцыю на вершы Анатоля Аўруціна, Валянціны Паліканінай і Мікалая Шыпілава. Па просьбе прысутных Алесю Бадаку, вядучаму, давялося чытаць свае вершы. Запрасілі выканаць свае творы гасцей – Віктара Шніпа, Рагнеда Малахоўскага і Уладзіміра Лобача, зборнікі якіх вокамгненна знаходзіла на палічках крамы, каб паказаць чытачам, дырэктар "Кніжнага салона" Соф'я Жыбулеўская.

"Кніжны салон" святкуе свой першы маленькі юбілей — на вуліцы Калініна, 5 ,ён прапісаўся паўгода таму. Па запатрабаванні душы гэту нялёгкую справу распачала філолаг Ала Зміева. Побач з ёю ўлюбёныя ў сваю справу, адданыя сэрцам кнізе людзі. Атмасфера сапраўднага салона, якую ім удалося стварыць, дорыць надзею, што паэзія калі-небудзь перастане быць захапленнем вузкага кола прыхільнікаў і тыражы паэтычных зборнікаў істотна павялічацца.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: аўтары паэтычных зборнікаў (злева направа): Валянціна Паліканіна, Юрый Сапажкоў, Раіса Баравікова.

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Гэта ўжо класіка!

Поспех шоу на Брадвеі — падзея выключная. Папулярныя мюзіклы могуць ісці дзесяцігоддзямі, як "Коткі" Э. Л. Уэбера (амаль 30 гадоў на сцэне — сапраўдны рэкорд); атрымоўваць прэстыжныя прэміі, як "Я спяваю пра цябе" Дж. Гершвіна (прэмія Пулітцэра 1931 г.); спалучаць рок і Біблію, як "Ісус Хрыстос — суперзорка" Э. Л. Уэбера; або пераасэнсоўваць эпічныя падзеі, як "Аіда" Э. Джона (у аснове мюзікла — бессмяротная опера Дж. Вердзі). Нават у СССР, дзе прынцыпова не было месца "заходнім спакусам", нараджаліся знакамітыя "Арфей і Эўрыдыка" А. Журбіна, "Юнона і Авось" А. Рыбнікава. Яго ж "Зорка і Смерць Хаакіна Мур'еты"… Кажуць, сакрэт мюзікла — у арганічным спалучэнні музыкі з выразнай драматургіяй, раскошай дэкарацый і абаяльнасцю персанажаў. Аднак, найперш ён запамінаецца менавіта музыкай. Пакідаючы межы тэатральнай пастаноўкі, яна пачынае існаваць самастойна.



Канцэртная праграма "Мелодыі са знакамітых мюзіклаў", поўная натхнення і пластыкі пачуццяў, па-брадвейску ярка і эмацыянальна адкрыла новы канцэртны сезон у горадзе над Сожам. Разам з эстрадна-сімфанічным аркестрам Гомельскай абласной філармоніі (мастацкі кіраўнік і дырыжор Станіслаў Шнып) выступалі заслужаная артыстка Расіі, салістка Валгаградскага дзяржаўнага тэатра "Царыцынская опера" Ганна Дзявяткіна, салісты аркестра — лаўрэат міжнародных конкурсаў Сяргей Якуш, лаурэат міжнародных конкурсаў Андрэй Коласаў, Ксенія Трышына, Канстанцін Гарошка, Вікторыя Шныр, Марына Казлоўская, Вольга Каралёва, Юрый Валюк, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксандра Сцяпанава (удзельніца праекта "Маладыя таленты Гомельшчыны"), а таксама студыя сучаснага танца "Legie" пад кіраўніцтвам Юліі Брыгадзірэнкі.

У суправаджэнні аркестра гучалі і з першых нот зачароўвалі знакамітыя "The Phantom of the opera" з мюзікла "Прывід Оперы" Э. Л. Уэбера (дуэт Ганны Дзявяткінай і Андрэя Коласава), арыя Зоркі з рок-оперы "Зорка і Смерць Хаакіна Мур'еты" А. Рыбнікава (у выкананні Андрэя Коласава); уражвалі кранальныя "Summertime" з "Поргі і Бэс" Дж. Гершвіна (у выкананні Аляксандры Сцяпанавай) і арыя Фрэдзі з мюзікла "Мая цудоўная лэдзі" Ф. Лоў (саліст Канстанцін Гарошка). Ахіналі воблакам мрояў меладычныя "Think of me" з "Прывіду Оперы" і "Memory" з "Котак" Э. Л. Уэбера (праспяваныя Ганнай Дзявяткінай). Дарылі светлыя пачуцці рамантычныя "Лётчыкі" з мюзікла "Норд-ост" Г. Васільева (трыо Андрэя Коласава, Канстанціна Гарошкі ды Юрыя Валюка), "Le temps des cathedrales" з вядомага музычна-сцэнічнага твора "Сабор Парыжскай Божай Маці" Р. Качыантэ (сола Сяргея Якуша). А яшчэ здзіўлялі лёгкасцю гарэзлівыя фрагменты з "Кабарэ" Дж. Кандара, "42-й вуліцы" Г. Урона, клікалі ў віхуру падзей "Каралі начной Вероны" з мюзікла "Рамэа і Джульета" Ж. Прэсгурвіка, песні з нашумелага "Чыкага" Дж. Кандара. "Брадвейская" праграма атрымалася па-славянску энергічнай і шчырай. Неверагодны кантакт артыстаў з публікай трымаўся на працягу ўсяго канцэрта.

Упершыню філарманічны сезон у Гомелі пачаўся з такой не акадэмічнай імпрэзы. З аднаго боку, зварот да новага для філармоніі жанру мастацтва абумоўлены патрэбамі сучаснай аўдыторыі. З другога, творчасць вымагае пастаяннага руху наперад. І, магчыма, у XXI стагоддзі ўчора яшчэ "несур'ёзны" мюзікл упэўнена назавуць класікай.

Яніна ЧАРПУХІНА-АНДРЭЕВА
г. Гомель

На здымку: фрагмент канцэртнай праграмы.

## Повязі

# Мецэнацтва — жыве

Напрыканцы мінулага года супрацоўнікі Ашмянскага краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча наладзілі цесныя стасункі з Мікалаем Карнілавым — маскоўскім мастаком, калекцыянерам, мецэнатам, журналістам, пісьменнікам, прэзідэнтам міжнароднай асацыяцыі "Мастацтва народаў свету", стваральнікам музея Пеўня ў горадзе Петушкі (Уладзімірская вобласць). Мікалай Зосімавіч заснаваў прыватную галерэю "Нікор". Сёння на постсавецкай прасторы працуе 37 яе філіялаў.



"Першая і пакуль адзіная ў Беларусі міні-галерэя "Нікор" адкрылася і ў нас, — паведаміла дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея Жана Іванова. — Хаця, здавалася б, часы мецэнацтва ўжо прайшлі. Але гэта не так. Прынамсі, сёння мы маем каля 400 мастацкіх работ (жывапіс, графіка, скульптура), якія былі падараваны нашай установе Мікалаем Карнілавым. Іх стварылі мастакі Сярэдняй Азіі і Расіі ў розныя часы, пачынаючы з 40-50-х гадоў мінулага стагоддзя. Ёсць карціны і самога мецэната, які зрабіў мастацкі падарунак таксама Ашмянскай школе-інтэрнату і цэнтру сацыяльнай дапамогі ў аграгарадку Жупраны".

З дзяцінства Мікалай Карнілаў марыў паехаць у Ташкент. Трапіў жа ў старадаўнюю сталіцу Узбекістана толькі ў трыццаць два гады. Працаваў у розных месцах, пісаў вершы і апавяданні. Але толькі тут знайшоў сябе як творца — стаў вядомым журналістам і мастаком".

У Каракалпакіі (Узбекістан) ён знаёміцца са стваральнікам музея мастацтваў Ігарам Савіцкім і "захворвае" на збіральніцтва. Многія тутэйшыя творцы дораць яму свае работы. Потым гэты няўрымслівы чалавек стварае газету "Искусство народов мира" і асацыяцыю з аднайменнай назвай. І працягвае займацца жывапісам. Значнае месца ў яго творчасці па-ранейшаму займае Каракалпакія, яе краявіды, людзі.

Як жа знайшлі адно аднаго музей і галерэя "Нікор"? Гэтае сяброўства нарадзілася дзякуючы журналісту-аглядальніку з Вільнюса Альгірдасу Плукісу, які не раз бываў на Гродзеншчыне і прапанаваў Мікалаю Карнілаву наведаць Ашмяны, якія яму вельмі спадабаліся.

У хуткім часе калекцыянер прыехаў у беларускі райцэнтр. Пазнаёміўшыся з музеем і яго супрацоўнікамі, мясцовымі ўладамі і жыхарамі горада, вядомы расійскі мецэнат вырашыў зрабіць ашмянцам найкаштоўнейшы падарунак. Тым больш, што плошчы музея, які знаходзіцца ў прыгожым старадаўнім будынку, ды яшчэ ў цэнтры, дазволілі размясціць адразу больш як 200 мастацкіх работ з галерэі "Нікор".

Раіса МАРЧУК

На здымку: работу Мікалая Карнілава "Вяртанне" з серыі "Мая Каракалпакія" можна ўбачыць у Ашмянскім краязнаўчым музеі.

## З-пад пяра

**Скончаны прыём** твораў для ўдзелу ў літаратурным конкурсе маладых літаратараў "Новая беларуская фантастыка. Конкурс быў абвешчаны Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Мэта яго — прыцягнуць увагу чытачоў да беларускай фантастычнай літаратуры, адкрыць для шырокай грамадскасці новых таленавітых аўтараў і даць ім магчымасць апублікаваць свае творы. Зарэгістраваны 67 удзельнікаў конкурсу. Яны прапанавалі журы 114 твораў фантастычнага жанру, у тым ліку 11 раманаў і 44 аповесці.

Уладзімір КУЛІЧЭНКА

**У Рагачоўскай** цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла творчая сустрэча з пісьменнікамі-землякамі "Душою гавару і сэрцам". Сярод запрошаных былі Ніна Пінчук, Уладзімір Шпадарук, Міхаіл Міронаў і Міхась Сліва. Вядучыя вечарыны — загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу цэнтральнай раённай бібліятэкі Таццяна Голубева і метадыст гэтага аддзела Вольга Бондарава — расказалі пра творчасць землякоў, а пісьменнікі чыталі свае творы, дзяліліся творчымі планамі, уражаннямі ад новых кніг. Знакамітая рагачоўская спявачка-бард Ірына Марчанка парадавала слухачоў цудоўнымі песнямі на словы паэтаў-землякоў.

Міраслаў КАМЕНСКІ

**Падстава для радасці** і задавальнення з'явілася ў шматлікіх прыхільнікаў творчасці таленавітага кампазітара і спевака Чэслава Немана. Зроблены першыя крокі ў стварэнні музея знакамітага земляка ў доме яго бацькоў у Старых Васілішках на Лідчыне. Будынак, які раней значыўся на балансе спажывецкай кааперацыі, перададзены аддзелу культуры райвыканкама. Загадчыкам будучага клуба-музея прызначаны У. Сянюта. Разам з іншымі неабыякавымі землякамі ён праявў карпатлівую працу па зборы экспанатаў: фотаздымкаў, лістоў і іншых дакументаў, звязаных з імем Чэслава Немана, а таксама сведчанняў пра яго сям'ю. Дом абсталяваны мэбляй 1940 — 1950-х.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ

**Многія мінчане** і госці сталіцы наведалі выстаўку, прысвечаную жыццю і дзейнасці Надзеі Грэкавай, якая экспанавалася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Безумоўна, такія выстаўкі як нішто іншае садзейнічаюць выхаванню нашай самасвядомасці і з'яўленню пачуцця гонару за сваю радзіму. Надзея Грэкава нарадзілася сто гадоў таму ў Мінску ў сям'і рабочага-чыгуначніка і дасягнула самых вялікіх палітычных вышынь. У 1938 — 1947 гадах яна займала пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, у 1949 — 1952 — сумяшчала пасады міністра харчовай прамысловасці БССР і першага намесніка міністра харчовай прамысловасці РСФСР. Выстаўка была падрыхтавана пры дапамозе сына і пляменніка Надзеі Рыгораўны.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

**Выстаўка** дыпломных работ студэнтаў кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў адкрылася ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" пад агульнай назвай "35 год БДУ культуры і мастацтваў". Кожны твор варты ўвагі гледачоў, запрашае спыніцца і спазнаць усе дэталі, ацаніць вобраз ці сімвал, якія выразна адлюстроўваюцца ў тэкстыльных кампазіцыях — "Чары" Юліі Рыжук, "Аэрны край" Андрэя Валавіка, "Замілаванне" Марыі Кандрацені, "З вараг у грэкі" Ганны Аўсеевай. Але не толькі габелены, пано, вышываныя і тканыя работы упрыгожваюць адну з залаў галерэі. У экспазіцыі прысутнічае і кераміка — дэкаратыўны ансамбль Юліі Арловіч "Велікоднае" і дэкаратыўная пластыка Вікторыі Макарэвіч "Гарадскія кветкі".

Дар'я ШОЦІК

# Ці будуць у нас фрылансэры?

**Гутарка з Ягорам КОНЕВЫМ, дацэнтам кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, кандыдатам філалагічных навук, бясспрэчна, цікавая і літаратарам, але гэтым разам яна прысвячаецца будзённым праблемам менавіта сучаснай журналістыкі. Дыскусіі пра стан і тэндэнцыі яе развіцця заўсёды актуальныя, хаця і нячастыя. І зазвычай яны адбываюцца ў вузкаспецыялізаваным асяродку практыкаў, а не на старонках друку. Наш суразмоўца разважае пра тое, што бачыцца становўчага ў прафесіі рэпарцёра, чаго бракуе сучасным летапісцам. І, зразумела, чым ёсць сусветная журналістыка сёння.**

— Ягор Фёдаравіч, вы — аўтар метадычнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ па спецыяльнасці "журналістыка" — "Міжнародная журналістыка. Уводзіны ў спецыяльнасць". А на самай справе — яны для пачаткоўца вельмі цяжкія — уваходзіны ў журналістыку? І калі б пісаліся "ўводзіны ў журналістыку" з разлікам на масавага чытача, яны нечым адрозніваліся б?

— Мяркую, знаёмства з журналістыкай у прынцыпе не можа быць "цяжкім", паколькі журналістыка — з'ява масавая і папулярная. Што ж датычыць згаданага вамі вучэбна-метадычнага дапаможніка, то яго першую частку яшчэ 11 гадоў таму напісаў доктар гістарычных навук, прафесар Іван Сачанка. Другую частку мы стварылі разам, над трэцяй я працаваў самастойна.

І чым болей збіраў, сістэматызаваў і рэдагаваў матэрыял па дадзенай тэме, тым больш разнастайнай і ўсебаковай падавалася яна мне. Многія з метадаў і прыёмаў замежных журналістаў (маю на ўвазе прадстаўнікоў мас-медыя развітых краін) можна смела запазычваць і нашым карэспандэнтам. Але поруч з карысным заўсёды знаходзіліся заганы, якія зусім не абавязкова пераймаць.

Напрыклад, у японскіх рэдакцыях, калі журналіст дапусціў памылку, яго будуць публічна зневажаць не толькі начальнікі, але і сябры-калегі. У буйнейшых выданнях Краіны Узыходзячага Сонца штодня адводзіцца чвэрць гадзіны на "барацьбу з недахопамі", пасля якой вінаватыя карэспандэнты адчуваюць сябе, бы жаба пад танкам. Такая сістэма (жорсткае спагнанне за драбязу, каб не дапусціць у будучым буйных памылак) выхоўваецца ў японцаў з дзяцінства.

У паўднёвакарэйскіх выданнях падазрона ставяцца да супрацоўнікаў, у штодзённым рацыёне якіх маецца не толькі рыс і рыба, але і мяса. Там мяркуюць, што мяса выпрацоўвае ў арганізме чалавека такія хімічныя элементы, якія пазбаўляюць падначаленага павагі да сваіх начальнікаў. Як разумееце, кар'ера аматара ялавічыны і парасяціны ў тамтэйшых СМІ не мае перспектыў. На амерыканскіх каналах дзейнічае сістэма, паводле якой "зорка"-вядучы будзе атрымліваць мільённыя ганарары за сваю абаяльную ўсмешку, а яго памочнікі, якія выконваюць практычна ўсю працу (збіраюць інфармацыю, складаюць і рэдагуюць тэкст паведамленняў і г.д.) — у тысячу разоў меней.

Насуперак стэрэатыпным уяўленням многіх студэнтаў, журналістыка за мяжой не з'яўляецца высокапрыбытковай прафесіяй.

Пэўна, самай цяжкапераймальнай для нашай сістэмы СМІ з'явілася б методыка падтрымання высокага каэфіцыента карыснай дзейнасці сярод супрацоўнікаў. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што напрыканцы кожнага года звальняюць 5 працэнтаў (у перыяд эканамічнага ўздыму) або 10 працэнтаў (у крызісны час) штатнага персаналу. (Падкрэслю, гаворка датычыць папулярных выданняў, дзе штогадовы заробак складае 60—90 тысяч долараў. У рэгіянальных выданнях, дзе звычайна зарабляюць 2—3 тысячы, журналіст можа затрымацца і на пару дзесяцігоддзяў.) "Скарачэнне штатаў" адбываецца звычайна пад Каляды, калі стомленыя за год людзі менш схільныя скандаліць і абражаць калег.

У выніку атрымліваецца, што на кожнага штатнага журналіста прыпадае ў сярэднім 17—19 беспрацоўных, якія з гонарам называюць сябе фрылансэрамі ("вольнымі журналістамі"). Трэцяя частка паведамленняў у газетах і часопісах – гэта, як правіла, плён творчасці "фрылансэраў". (Яшчэ трэць – навіны і каментарыі інфармацыйных агенцтваў, а на долю штатнікаў прыпадае тая газетная або часопісная плошча, якая засталася свабоднай ад рэкламы.) Праца фрылансэраў надзвычай выгодная для друку. Людзі прадстаўляюць збольшага эксклюзіўны матэрыял, але не маюць права ані на сацыяльны пакет, ані на медыцынскую страхоўку, ані на пенсію – толькі на ганарар.



> Чаму нашы сучасныя нацыянальныя тэлеканалы ўяўляюць збольшага кальку з расійскіх НТБ або ГРТ? Ды таму, што нашы студэнты добра ведаюць рускую мову і часцей глядзяць гэтыя каналы. Калі стануць часцей глядзець якасныя тэлеперадачы Бі-Бі-Сі або Пятага канала Францыі, то потым пераймуць тамтэйшыя ўзоры.

— Для нашых умоў такі замежны досвед не зусім прымальны, бо з цяжкасцю ўяўляю, каб звольнены журналіст пагадзіўся стаць фрылансэрам. І на гэта ёсць розныя прычыны…

— Так, і беларускія ганарары наўрад ці кагосьці заахвоцяць да пошуку эксклюзіву або праўдзення журналісцкага расследавання. Працей сысці шукаць высокі заробак у іншыя сферы дзейнасці.

Але і з дасягненняў буйнейшых краін можна сеё-тое засвоіць. Напрыклад, у пачатку 1950-х англійскія журналісты з жалем высветлілі, што эпоха брытанскай велічы завяршылася, Злучанае Каралеўства ўжо не імперыя, а ўсяго толькі выспа ў Атлантыцы. Для супрацоўнікаў СМІ гэта канкрэтна азначала, што болей яны не атрымаюць ад урада значных асігнаванняў на развіццё і не змогуць канкурыраваць з амерыканцамі ў мабільнасці ды ахопе сусветных падзей. Аднак пасля кароткатэрміновай разгубленасці брытанцы сталі развіваць той аспект журналісцкай дзейнасці, якім не маглі пахваліцца канкурэнты з іх колішняй калоніі — аналітыку. Той журналісцкі слоган гучаў прыблізна так: "Няхай мы не самыя багатыя, затое самыя разумныя". Галоўны ўхіл у навінах быў зроблены не на іх перказе, а на іх аналізе, тлумачэнні прычын, прагнозе наступстваў і да т.п. Па той прычыне каментарыі Reuters або BBC запатрабаваныя ў розных кутках свету не менш, чым прадукцыя іх галоўных канкурэнтаў — амерыканскіх інфармацыйных агенцтваў AP і UPI.

Можна і далей пераказваць, што яшчэ маглі б запазычыць або адхіліць нашы рэдакцыі, тэлерадыёканалы і агенцтвы навінаў. Аднак, падазраю, не за гарамі той незайздросны перыяд, праз які праходзілі мас-медыя ўсіх краін Еўропы. Гэта перыяд, калі дзяржава будзе скарачаць фінансавую дапамогу друку, і колькасць перыядычных выданняў істотна паменшыцца. Аднак "інфармацыйнай катастрофы", упэўнены, не адбудзецца, паколькі Стары Свет знаходзіцца на ўздыме развіцця новых СМІ — сеткавых. І тыя журналісты, якія страцяць пасаду ў "традыцыйнай" газеце, змогуць, калі займеюць ахвоту, скарыстаць свой досвед у айчыннай інтэрнэт-прасторы.

— Можна прадбачыць, што і там сярод жанраў журналістыкі часцей запатрабаванымі будуць інфармацыйныя ды аналітычныя… Менавіта з мастацка-публіцыстычнымі, да якіх належаць эсэ, нарыс, замалёўка, фельетон, памфлет адбываецца непрадказальнае: яны знікаюць з ужытку. Чаму?

— Той з аўтараў, хто хоча працаваць у жанры эсэ або нарыса, і цяпер працуе. Акрамя ўласнай ахвоты, тут нішто замінаць не стане. Напрыклад, ужо не першы год на старонках "Комсомольской правды" друкуюцца матэрыялы Васіля Пяскова, якія спалучаюць элементы эсэ, замалёўкі ды нарыса. Рысы партрэта і нарыса прысутнічаюць у матэрыялах, якія змяшчаюцца на старонках "Аргументов і фактов" у рубрыцы "Лёсы". Каб працаваць у галіне мастацка-публіцыстычных жанраў, трэба мець, па-першае, талент, па-другое, пэўны ўзровень мастацкай культуры, па-трэцяе, гатоўнасць ахвяраваць на такую дзейнасць пазапрацоўны час, па-чацвёртае, фінансавую стымуляцыю (бо калі карэспандэнт за немудрагелістае інтэрв'ю і за нарыс атрымлівае аднолькавы ганарар, няцяжка здагадацца, да якога жанру ён адчуе большую схільнасць).

> "Чацвёртая ўлада" — гэта мара, якая надае сэнс дзейнасці ўсім, хто звязаны з журналістыкай: і тых, хто працуе ў рэдакцыях, і тых, хто рыхтуе кадры для рэдакцый. І пакуль існуе такая цудоўная мара, кожны сумленны ўчынак, які мы здзяйсняем у сваёй прафесійнай дзейнасці, ідзе на карысць не толькі нам, а і ўсяму грамадству.

Я шчыра зычу маім студэнтам, каб удасканальвалі веды ў англійскай мове і часцей глядзелі кабельныя амерыканскія або брытанскія тэлеканалы. Бо калі студэнты з цягам часу становяцца тэле- або радыёначальнікамі, то пераймаюць узор тых каналаў, якія глядзелі ў часы юнацтва. Чаму нашы сучасныя нацыянальныя тэлеканалы ўяўляюць збольшага кальку з расійскіх НТБ або ГРТ? Ды таму, што нашы студэнты добра ведаюць рускую мову і часцей глядзяць гэтыя каналы. Калі стануць часцей глядзець якасныя тэлеперадачы Бі-Бі-Сі або Пятага канала Францыі, то потым пераймуць тамтэйшыя ўзоры.

Аднак я не бачу тут асаблівай нагоды для засмучэння. З друку рысы мастацка-публіцыстычных жанраў удала перамяшчаюцца ў іншыя сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, рысы эсэ і замалёвак яскрава "прапісаліся" ў благасферы, а элементы нарыса і памфлета відавочныя ў цыкле перадач "Подых планеты" або ў некаторых спецыяльных праектах АНТ. Таму я схільны меркаваць, што анічога нікуды не знікае – але прымае новыя формы ў новых умовах.

— Падобна, галоўная матывацыя цяпер у журналістыцы не ўлічвае клопату пра душу чалавека. У матэрыялах прасочваюцца альбо камерцыйныя інтарэсы, альбо забаўляльныя, губляецца давер да аўтара. Сапраўды, не да духоўнага?

— Іншая справа, што журналістыка як грамадскі інстытут мусіць не столькі перажываць за душу нейкага індывідуума, колькі няспынна падтрымліваць адпаведны "інфармацыйны клімат" сярод насельніцтва.

Каб паспяхова ажыццяўляць сваю місію, журналістыка павінна імкнуцца да ідэалу "чацвёртай улады". Гэту канцэпцыю сфармуляваў у сваёй перадавіцы ў 1852 годзе рэдактар лонданскай газеты "The Times" Джон Дылейн. Сутнасць яе заключалася ў тым, што журналісты абавязаны завяваць такі аўтарытэт у грамадстве, каб іх не западозрылі ў залежнасці ад выканаўчай, заканадаўчай або судзейскай уладаў. Гэта, маўляў, надасць маральнае права журналістам як "чацвёртай уладзе" кантраляваць дзейнасць трох галінаў уладаў, асуджаць іх прадстаўнікоў за здраду нацыянальным інтарэсам і г.д.

Для сучаснай журналістыкі канцэпцыя "чацвёртай улады" тое ж самае, што Нагорная Пропаведзь для хрысціянскай цывілізацыі. Але ці шмат ведаеце вы людзей, якія не парушаюць Дзесяць Запаведзяў? Тое ж датычыць і журналістаў. Багата такіх, якія пыхліва ўяўляюць сябе "чацвёртай уладай", ганьбяць кожнага, на каго нацкуе іх рэдактар, і бароняцца спасылкай на Дэкларацыю ААН пра свабоду слова (якую наўрад ці чыталі, бо ў яе тэксце свабода выказванняў непарыўна звязана з адказнасцю за свае словы). Між тым, каб займець права крытыкаваць іншых, трэба найперш паклапаціцца пра ўласную маральнасць. Аднак, паколькі такі шлях вымагае значных высілкаў, то працей бурчэць, што, маўляў, няма ў нас свабоды слова, замест таго, каб паклапаціцца пра якасць уласнага матэрыялу.

Канцэпцыя "чацвёртай улады" не губляе актуальнасці ўжо амаль паўтара стагоддзя і, пэўна, яшчэ не хутка яе страціць."Чацвёртая ўлада" — гэта мара, якая надае сэнс дзейнасці ўсім, хто звязаны з журналістыкай: і тых, хто працуе ў рэдакцыях, і тых, хто рыхтуе кадры для рэдакцый. І пакуль існуе такая цудоўная мара, кожны сумленны ўчынак, які мы здзяйсняем у сваёй прафесійнай дзейнасці, ідзе на карысць не толькі нам, а і ўсяму грамадству.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Фота Віктара Зайкоўскага

## Анкета пісьменніка

# Літаратура ствараецца на стагоддзі



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка з'яўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

Паэт Міхась БАШЛАКОЎ:

1. Не ведаю, як наконт пісьменніка-вешчуна ісціны, але тое, што літаратура спакон веку іграла ў грамадстве вельмі важную ролю, фарміравала чалавека як асобу, гэта сапраўды так. На вялікі жаль, літаратура здала свае перадавыя пазіцыі ў грамадстве і не па віне пісьменнікаў аказалася на задворках. З'ява, дарэчы, ненармальная. І што мы маем у выніку? На замену сапраўднай класічнай літаратуры, якая фарміравалася стагоддзямі, прыйшла так званая эрзацлітаратура, альбо бульварнае "чтиво". Паглядзіце, якой нізкапробнай літаратурай запоўнены паліцы кнігарняў, і асабліва гэта адчуваецца на перыферыі. Беларускую кнігу там днём з агнём не знойдзем ды і, увогуле, кнігу добрага ўзроўню і густу. Адбылася падмена паняццяў. Мастацкую літаратуру бязлітасна кінулі пад жорны рынку і камерцыі. І на радасць многім мелюцца — перамолваюцца апошнія здабыткі нашай літаратуры, і шмат хто пры гэтым бубніць пра выжыванне літаратуры ў рыначных умовах як пра найвялікшае дасягненне. Поўны абсурд! Мастацкая літаратура — не вобла ў прыкуску да піва. Сапраўдная літаратура ствараецца для душы чалавека. Кожны твор, кожная кніга разлічаныя менавіта на свайго чытача. Кнігі не могуць і не павінны раскупляцца імгненна, як модныя калготкі. Сапраўдная літаратура ствараецца не на дзень-два, а на дзесяцігоддзі ці нават стагоддзі. І рынак тут ні пры чым. Тое, што застаецца на вякі, не падлягае ніякім рыначным адносінам. Так што не трэба блытаць божы дар з яешняй.

2. Адказ на другое пытанне вынікае з адказу на першае. Паколькі літаратура перастала быць важным фактарам у фарміраванні чалавека, то зразумела, што ў грамадстве адбылося падзенне нораваў. Для таго, каб гэтага не адбывалася, культура ўвогуле і літаратура ў прыватнасці павінны быць прыярытэтнымі ў грамадстве. У тым грамадстве, дзе высокі ўзровень культуры, — высокія вынікі і ў эканоміцы. Усё ўзаемазвязана. Не можа быць высокага ўзроўню жыцця, калі культура ў грамадстве на самым нізкім узроўні. Гэта як аксіёма.

3. А што, у нас назіраецца сёння грамадская актыўнасць пісьменнікаў? Дзе вы яе бачылі?

4. Па-першае, як мне здаецца, на старонках газет і часопісаў нарыс як жанр літаратуры застаўся недзе ў тых далёкіх гадах. Аднаўляць трэба, ствараць, пісаць.

А па-другое, чаму толькі нарыс? А крытыка? А проза? А паэзія, нарэшце, куды падзелася? Лічу, што "ЛіМу" трэба больш смела падымаць гэтыя зарослыя травой і быльнягом пласты нашай літаратуры.

# На правах старэйшага айчыннага

**Неўзабаве завершыцца 2010 год, пакінуўшы нам новыя духоўныя набыткі. На старонках айчынных літаратурна-мастацкіх выданняў змешчана нямала твораў, якія па праве будуць прэтэндаваць стаць побач з літаратурнымі дасягненнямі папярэдніх гадоў. Ёсць яны і ў часопіса "Полымя". Гэта працяг ужо шырокавядомай хронікі Уладзіміра Гніламёдава "Валошкі на мяжы", першая частка рамана Алеся Рыбака "На раздарожжы", старонкі рамана Зінаіды Дудзюк "Слодыч і атрута" і, безумоўна, "Грузінская аповесць" са спадчыны Івана Шамякіна. Пра тое, з якімі творчымі набыткамі часопіс "Полымя" выходзіць на фініш бягучага года, расказвае галоўны рэдактар выдання, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы Мікола Мятліцкі.**

Як ужо змаглі заўважыць нашы чытачы, бягучы год быў пазначаны на палымянскіх старонках цэлым шэрагам вартасных публікацый. Друкаваліся паўнаважкія празаічныя і паэтычныя творы, больш адметнымі і цікавымі становяцца многія рубрыкі, пастаянным рэдакцыйным клопатам з'яўляецца работа з маладымі аўтарамі. Шырэйшымі сталі і міжлітаратурныя кантакты. У рубрыках "У лучнасці братняй" і "Галасы свету" апублікаваны і паэтычныя, і празаічныя творы многіх шырокавядомых аўтараў. Безумоўна, часопіс будзе працягваць друкаваць лепшае з беларускай сучаснай літаратуры, створанае як прызнанымі майстрамі слова, так і пачынаючымі аўтарамі, і ў завяршальным квартале года. Так, ужо ў дзясятым нумары чытач пазнаёміцца з працягам рамана У. Гніламёдава "Валошкі на мяжы", героі якога, вярнуўшыся ў родную Пруску, сталююць сваё годнае чалавечае жыццё; прачытае своеасаблівую аповесць-дзённік Адама Глобуса, дзе вобразна акрэслены і пазначаны многія сучасныя праблемы, абразкі старэйшай нашай пісьменніцы Лідзіі Арабей, а таксама новыя вершы Васіля Макарэвіча, Алены Багамолавай і Алы Клемянок. Рубрыка "Галасы свету" прадстаўляе гэтым разам турэцкую літаратуру. Змешчаны творы трох аўтараў розных часоў — Джалалэддзіна Румі, які жыў у XIII стагоддзі і тварыў на персідскай мове, класіка турэцкай паэзіі XX стагоддзя Архана Велі (Каныка) і нашага сучасніка, сусветнавядомага турэцкага пісьменніка і філосафа Мухамеда Фехтулаха Гюлена. Такая цікавасць да турэцкай літаратуры абумоўлена тым, што ўсё болей і болей нашых суайчыннікаў наведвае гэту паўднёвую заморскую краіну і хацелася б, каб не толькі турыстычная экзотыка адкрывалася ім. Каб яны ведалі і пра духоўныя набыткі, змаглі пачуць самую душу сягоння дружалюбнага нам народа.

Ужо стала абазначылася на старонках часопіса рубрыка "Навуковыя публікацыі". Тут друкуюцца артыкулы па літаратуры і мове нашых прызнаных навукоўцаў-філолагаў, а таксама выпрабоўваюць свае творчыя сілы студэнты і аспіранты — будучыя імяніты даследчыкі роднай літаратуры і мовы. Так, у дзясятым нумары часопіса дзеліцца ўласнымі назіраннямі за паэтыкай У. Дубоўкі Таццяна Маціохіна. Развіццю сучаснай літаратуры прысвечаны артыкулы ў рубрыцы "Крытыка і літаратуразнаўства". Іх аўтары Таццяна Аўдоніна і Казімір Камейша звяртаюцца да творчасці Аляксея Дударава і Віктара Гардзея. Зацікавяць чытача і ўспаміны пра бацьку, напісаныя сынам Васіля Віткі Вісарыёнам Крысько, які, на жаль, пайшоў ужо з жыцця, але, на шчасце нам усім, пакінуў цёплыя, усхваляваныя ўспаміны не толькі пра роднага яму чалавека, прызнанага майстра слова, аднак і пра той час, у якім жыў і тварыў пісьменнік. А гэта яшчэ і хвалюючыя падзеі даваеннага і ваеннага жыцця. Сустрэчы з нашымі класікамі, у тым ліку і з Кузьмой Чорным.

У сувязі з тым, што з верасня сталі дзеючымі новыя правілы беларускай мовы, часопіс распачаў рубрыку "Родная мова", у якой ужо ў вераснёўскім нумары з артыкулам "Беларуская мова ў сучасным свеце" выступіў адзін з аўтараў-распрацоўшчыкаў удакладненага беларускага правапісу, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, член рэдкалегіі часопіса "Полымя" Аляксандр Лукашанец. Як і рубрыка "Культура мовы", рубрыка "Родная мова", спадзяёмся, стане даволі значнай на старонках часопіса. Тут змогуць выказацца па пытаннях развіцця роднай мовы і яе месцы ў нашым грамадстве многія вядомыя і пачынаючыя аўтары — на прыкладах руплівага даследавання паказваць усё хараство роднага слова. Ужо ў нумары, які пабачыць свет у гэтым месяцы, пра метафарыстычнасць паэтычнай мовы разважае вядомы даследчык, доктар філалагічных навук Васіль Старычонак.

У 11—12 нумарах часопіса мы апублікуем новы раман вядомага пісьменніка Міхася Южыка "Леапард на балконе". Як і яго папярэдні раман "Лесвіца", што таксама друкаваўся ў "Полымі", новы твор па-мастацку перагортвае старонкі нашага сягоннішняга жыцця. Яго героі — нашы сучаснікі. У цэнтры аўтарскай увагі гісторыя маральнага падзення маладога чалавека з забяспечанай сям'і, у якой бацькі, на жаль, думалі толькі пра здабыццё матэрыяльных выгод у жыцці. Мяркуем, што раман пісьменніка, зацікаўленага станам духоўнага развіцця нашага грамадства, выкліча і значны грамадскі рэзананс, бо многіх сягоння хвалююць і датычаць падобныя праблемы. Новыя апавяданні Віктара Супрунчука і празаічны дэбют Юліі Зарэцкай таксама, думаю, не застануцца па-за чытацкай увагай. Як і вершы Міколы Маляўкі, Рагнеда Малахоўскага, Ігара Пракаповіча, Аляксандра Быкава.



Мы ўжо шырока анансавалі ў друку праўядзенне своеасаблівых урокаў па роднай літаратуры ў рубрыцы "Школьныя далягляды". Першы з іх, пададзены ў адзінаццатым нумары часопіса, прысвячаецца творам для дзяцей нашага народнага песняра Якуба Коласа. Лістапад — месяц нараджэння класіка. І мо таму было мэтазгодна распачаць рубрыку ў новым навучальным годзе менавіта з разгляду твораў Коласа. Тым болей, што нядаўна споўнілася 75-годдзе з дня выхаду ў свет адной з самых любімых беларускай дзятвой коласаўскіх паэм "Міхасёвы прыгоды". Вось мы і звярнуліся да "віноўніка" напісання гэтага твора — малодшага сына песняра Міхася Міцкевіча, вядомага ў краіне чалавека, доктара тэхнічных навук, прыгадаць многае і пра месца дзеяння твора, нашу Пухавіччыну, і пра саміх герояў, сяброў яго маленства. А таксама пра гэты і іншыя творы Коласа для дзяцей пра незабыўнае першае знаёмства з імі скажуць нашы вядомыя пісьменнікі М. Маляўка, В. Гардзей, К. Камейша, дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская і, зразумела ж, вучні і настаўнікі 98-й мінскай школы, якія не першы год праяўляюць вялікую цікавасць да творчасці Якуба Коласа, не толькі вывучаюць яе на ўроках, але і рэгулярна наведваюць коласаўскі музей, родныя мясціны песняра.

У лістападзе літаратурная грамадскасць Беларусі адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, пісьменніка, дарагога ўсім пакаленням, асабліва моладзі. Мы пабывалі на яго радзіме ў гістарычнай Оршы, наведалі яго літаратурны музей. Таму вельмі разнастайныя матэрыялы прапануем нашым чытачам з гэтай нагоды. У рубрыцы "Навуковыя публікацыі" — артыкул вядомага даследчыка літаратуры Яўгена Гарадніцкага "Паэтыка і эстэтыка Уладзіміра Караткевіча", успамінамі пра слыннага майстра слова і яго ўдзел у памятным валожынскім вяселлі дзеліцца Вячаслаў Рагойша, друкуецца інтэрв'ю, якое ўжо ў далёкім 1980-м даў У. Караткевіч сягоння вядомай даследчыцы балгарска-беларускіх літаратурных сувязей, выкладчыцы ўніверсітэта ў Плоўдзіве Розе Станкевіч і якое ў свой час друкавалася ў балгарскай газеце "Культура" і не страціла сваёй актуальнасці і сягоння. Таксама друкуем лісты Васіля Быкава да Уладзіміра Караткевіча, падрыхтаваныя супрацоўнікамі бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І, нарэшце ў рубрыцы "Наш край" аўтарка з Оршы Г. Юркевіч расказвае пра родны горад пісьменніка і яго літаратурны музей.

Творчасць нашага пастаяннага аўтара, члена рэдакцыйнай калегіі часопіса Уладзіміра Гніламёдава, у тым ліку і раман "Усход", які пабачыў упершыню свет на старонках "Полымя", вылучана на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры. Безумоўна, мы не можам не падтрымаць кандыдатуру нашага слыннага аўтара. Тым болей, што яго творчасць вызначаецца не толькі мастацкай дасканаласцю, аднак і вялікай гістарычнай дасведчанасцю. Пра гэта і гаворыць у сваім артыкуле вядомая даследчыца літаратуры, кандыдат філалагічных навук Вольга Русілка.

У даўнім творчым сяброўстве з часопісам — вядомы пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янка Сіпакоў. Не толькі арыгінальныя творы, але і многія пераклады ён рэгулярна прапануе часопісу. Мы змяшчалі яго пераклады з антычнай паэзіі, з ведычнай паэзіі Індыі, а зараз, дванаццатым нумары, будзе друкавацца своеасаблівы "дзённік настрою", дзе сталая мудрасць мяжуе з лірычным захапленнем, дзе столькі хвалюючай памяці і трапных жыццёвых назіранняў. Палюбіліся чытачу і гутаркі-дыялогі Зіновія Прыгодзіча. Яны пазначаны глыбіней ведання творчасці суразмоўцы, далікатным, пачцівым стаўленнем да яго творчай асобы, праекцыяй на сам час, у якім жывуць і твораць удзельнікі дыялога — прадстаўнікі розных відаў мастацтва. Так, у шостым нумары за бягучы год чытач змог пазнаёміцца з жыццёвай і творчай пазіцыяй мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага. У дванаццатым нумары пойдзе гаворка пра айчынны тэатр, яе З. Прыгодзіч вядзе з аўтарытэтным чалавекам сваёй справы Валерыем Анісенкам.

Яшчэ на памяці ў кожнага нашага суайчынніка 600-годдзе Грунвальдскай бітвы, якое, як подых гераічнай мінуўшчыны, адзначалася ў ліпені. Цэнтрам гістарычнага ўзнаўлення падзей стаў Навагрудак, дзе страчаліся вядомыя гісторыкі сумежных краін, а таксама сіламі прадстаўнікоў рыцарскіх клубаў былі ўзноўлены і паказаны ваярскія дзеі нашых продкаў. Часопіс "Полымя" браў удзел у гэтым гістарычным доследзе, у шостым нумары былі змешчаны матэрыялы "круглага стала" па Грунвальдскай бітве 1410 года. А наведаўшы Навагрудак, знаёмячыся з яго старажытнасцю і сучаснасцю, мы не маглі не наведаць і славуты музей Адама Міцкевіча. Яго дырэктар, вядомы краязнаўца Мікалай Гайба пагадзіўся расказаць на старонках часопіса пра Навагрудак часоў Адама Міцкевіча. Гэты артыкул — у дванаццатым нумары ў рубрыцы "Наш край", на першай старонцы вокладкі — у традыцыйным фотаакне — здымак самога навагрудскага музея Адама Міцкевіча. Паэтычным словам завяршаюць бягучы год Віктар Гардзей, Юрка Голуб і Віктар Шніп.

Вось яно тое, чым багаты сягоння часопіс. А мы жывём ужо клопатамі пра год наступны. Многае знаходзіцца ў рэдакцыйным партфелі, а многае і на рабочым стале пісьменнікаў. Шчыра запрашаем усіх да больш плённага супрацоўніцтва.

Запісаў Максім МІХАЙЛАЎ

Фота Кастуся Дробава

Калаж Віктара Калініна

# Пунсовыя ветразі феадасійскага ўзбярэжжа

Восенню кожнага цотнага года ў Феадосіі, дзе ў 1920-я гады жыў Аляксандр Грын, праводзяцца прысвечаныя творцу канферэнцыі. 21-я міжнародныя "Грынаўскія чытанні-2010" былі прымеркаваныя да 130-годдзя з дня нараджэння пісьменніка і 40-годдзя Феадасійскага літаратурна-мемарыяльнага музея Аляксандра Грына. Сёлета ў іх браў удзел беларускі пісьменнік Сяргей Трахімёнак.

— Чатыры гады таму я адпачываў у Феадосіі і зайшоў у музей Аляксандра Грына. Яго дырэктар Алена Святлічная запрасіла мяне на чытанні. Тады прысутнічаў там у якасці госця. Паколькі сёлета я выступаў з дакладам "Чырвонае ў творчасці А. Грына", у мяне быў статус паўнапраўнага ўдзельніка.

— Ці адчуваўся на грынаўскіх чытаннях "беларускі след"?

— Сапраўды, на чытаннях, акрамя прадстаўнікоў Расіі, Украіны і нават Узбекістана, былі і беларусы. Як вядома, постаць рускага пісьменніка-рамантыка Аляксандра Грына трывала звязана з нашай зямлёй. Яго бацька Сцяпан Грынеўскі, выхадзец з Беларусі, удзельнічаў у паўстанні 1863 года, за што быў высланы ў Сібір. А ў 1919 годзе пісьменнік служыў у Чырвонай Арміі пад Віцебскам, дзе пісаў свае знакамітыя "Пунсовыя ветразі". Дарэчы, у Беларусі жыў даследчык біяграфіі Грына Сяргей Талкачоў, у якога быў самы грунтоўны архіў з матэрыяламі пра пісьменніка, і асабліва па яго беларускіх каранях. Пасля смерці Сяргея лёс гэтага архіва невядомы. Што датычыць выступленняў, дык кандыдат філалагічных навук, грынавед Ларыса Мельнікава выступала з дакладам "А. С. Грын: слова — вобраз".

— Што прывяло вас да даследавання творчасці Грына?

— Наўрад ці я магу назваць гэта даследаваннем творчасці пісьменніка. Гэта толькі даклад, які заснаваўся на дарэвалюцыйных апавяданнях пісьменніка ды пяці буйных творах, напісаных ужо пасля кастрычніка 1917 года. А таксама на працах даследчыкаў творчасці Грына. Тэма была мне вельмі цікавая. Чырвоны колер з'яўляецца самым распаўсюджаным у прозе пісьменніка пасля сіняга. А з адценнямі валентнасць чырвонага вышэй, чым у сіняга, і, як лічыць Л. Мельнікава, складае "66 да 48".

На першы погляд, даследчыкам лёгка растлумачыць гэта жаданнем сына ссыльных адмовіцца ад самадзяржаўных колераў. Нават знакамітая феерыя "Пунсовыя ветразі" спачатку мела назву "Чырвоныя ветразі". Але гэта не так.

—І ўсё ж, чаму вы сталі займацца менавіта Грынам?

— Некалі ў дзяцінстве я літаральна хварэў яго кнігамі. Дзівіла мяне ўласцівасць прозы Грына: ты нібы бачыш тое, што бачыў ён і жадаў, каб гэта ўбачыў і яго чытач. Крыху пазней я пачаў шукаць тлумачэнне гэтаму, акцэнтуючы ўвагу на фармальна-лагічных заканамернасцях. Зрабіў высновы, што, напэўна, Грын або яго продкі жылі там, дзе жылі мае продкі. Як ні дзіўна, гэтая здагадка пацвердзілася. Потым былі іншыя пісьменнікі, і Грын неяк адышоў на другі план. І вось наведванне яго музея і ўдзел у грынаўскіх чытаннях прымусілі мяне вярнуцца да яго ўжо ў сталым узросце і пагледзець на яго творчасць па-іншаму.

Гутарыў
Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Прырода, радзіма, жыццё...

## Лад паэзіі Міхася Пазнякова

Міхась Пазнякоў — постаць шматгранная: паэт, празаік, крытык, перакладчык, публіцыст; піша ён творы таксама і для дзяцей, і, апрача таго, з'яўляецца аўтарам некалькіх лексікаграфічных прац (напрыклад, "Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы"). У розных паводле роду і жанру творах праглядваецца адзін характар — адкрыты, спакойны, далікатны і зычлівы. І цэласны — пры ўсіх сваіх асаблівасцях і адметнасцях.

Ён верна сябруе з рыфмай, не любіць парушаць памер, трымаецца страфы, не злоўжывае метафорыкай і асацыятыўнасцю, словам, пыл у вочы не пускае. Тым не менш, мае дадатныя вынікі. Зрэшты, у Пазнякова знойдуцца і верлібры, ды і наогул яго паэтычная творчасць вызначаецца шматстайнасцю ў фармальным плане. Пры гэтым перавага аддаецца ўсё ж класічным формам (трыялет, песня, мініяцюра).

Вершы Пазнякова, выяўляючы прыкметы часу, часцей за ўсё напісаны ў традыцыйных формах роздуму, назірання, жанравай сцэнкі, эцюда, закранаюць душу сваёй шчырасцю, пачуццёвай непасрэднасцю, спавядальнасцю інтанацыі, імкненнем гаварыць пра самае сутнаснае, у жыццёвым вопыце перажытае. Ад непасрэдных уражанняў да глыбокага абагульнення, — такі шлях спасціжэння быцця і паэтычнага выказвання з'яўляецца найбольш характэрным і натуральным для Пазнякова.

У паэзіі Пазнякова можна вылучыць тры асноўныя напрамкі або стылі: лірычны, публіцыстычны і сатырыка-гумарыстычны. (У публіцыстычных творах паэт адкрыта і непасрэдна звяртаецца да чытача, выказваючы свае погляды, адносіны да таго, што адбываецца ў нашым жыцці.)

Адной з найважнейшых для Пазнякова лірычных тэм з'яўляецца тэма малой радзімы, роднага кута, вёсачкі, у якой нарадзіўся, правёў маленства, дзе пражылі свой век бацькі. Пазнякоў не пагаджаецца з папрокамі за зварот да тэмы вёскі, якая нібыта занадта часта з'яўляецца ў творах беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў. Паэт спасылаецца на той велізарны генетычны досвед многіх і многіх пакаленняў вяскоўцаў, які ён адчувае за сабой, які імкнецца ўвасобіць у сваіх творах. Для яго гэта не проста тэма, а выяўленне ў паэтычным слове стану сваёй душы, узнаўленне ў вершаванай форме таго, што перажыта, адчута ў сапраўднасці.

У недасяжным, мройлівым свеце ўявы і ўспаміну ўсё такое ж, як і раней: гэтаксама няспешна цячэ жыццё ў будзённых клопатах ("Косіць за градамі тата, / Дранікі мама пячэ..."), па заведзеным парадку здзяйсняецца кругазварот у прыродзе. Ды рэальнасць непазбежна абрывае сненні, вяртае з віртуальных вандровак у мінулае. У вершы "Туга" да ўзвышанай паэтычнай інатацыі прымешваецца горыч страт.

У спусцелую вёску, дзе рос,
Я прыехаў з далёкай сталіцы
І прыйшоў да самотных бяроз
Дарагім землякам пакланіцца.
Мама, цесна ў магілцы тваёй?..
Не абняць цябе больш мне ніколі...
Тата, плача каса пад страхой,
Жвір цябе не адпусціць да волі...

У пабудове пазнякоўскага верша, яго выразнай меладычнасці, рытміка-інтанацыйнай упарадкаванасці выяўляецца ўплыў мастацкіх традыцый айчыннай паэзіі (і ўсходнеславянскай — у цэлым). Гучанне паэтычнага радка адпавядае той пачуццёвай плыні, якая працякае праз яго. Традыцыйныя вершаваныя памеры — у гэтым таксама можна пераканацца, чытаючы творы Пазнякова, — здатныя перадаць шырокую гаму пачуццяў, адчуванняў, настрояў сучасніка.

У сапраўднай паэзіі павінен, як вядома, адбіцца смак часу — Пазнякоў-публіцыст верны жыццю, яго фарбам, галасам, супярэчнасцям. Ён востра ўсведамляе хаос і трагізм жыцця, несправядлівасць свету. Яму блізкія раны Косава, ён спачувае пакутам Ірака, чалавечаму гору, суперажывае лёсу дзяцей-сірот.

У наш час як ніколі актуальны заклік, з якім звяртаецца паэт да ўсіх, хто здольны пачуць яго, — "Тварыце, людзі, на зямлі дабро..." — так называецца адзін з раздзелаў новай кнігі Пазнякова "Святое правіла..." (2008). Дабро ж, якое ў сённяшнім свеце ў такім дэфіцыце, неад'емнае ад сваіх спрадвечных спадарожнікаў — ісціны і красы. Дабратворнае ўздзеянне на свядомасць сучасніка, як лічыць паэт, па-ранейшаму здольнае аказваць мастацтва, і ў першую чаргу класічнае, якое нясе ў сабе гарманізуючы пачатак.

У паэзіі Пазнякова значнае месца займае тэма літаратурнай творчасці. Стаўленне да літаратурных традыцый, да ўсяго што звязана з літаратурным працэсам, мастацкім развіццём, выяўляецца найперш у паэтычых яго твораў. Аднак у многіх з іх непасрэдна выказваюцца адносіны да тых або іншых літаратурных з'яў. Часцей за ўсё гэта адбываецца ў форме літаратурнай пародыі, эпіграмы. Гэтыя творы складаюць прыкметную сатырыка-гумарыстычную плынь у паэзіі Пазнякова. Слова паэта, — вострае, дасціпнае, часам саркастычнае, з'едлівае, — выяўляе яго адносіны да шматстайных праяў жыцця, паказвае ў нечаканым ракурсе розныя тыпы і характары. Найбольш трапныя і ўдалыя атрымоўваюцца ў Пазнякова творы сатырыка-гумарыстычнага плана ў лаканічнай, сціслай да некалькіх радкоў форме.

Наогул трэба заўважыць, што паэт, гаворачы аб самым істотным і важным, імкнецца выказаць свае ўяўленні і адчуванні ў лаканічнай, нават афарыстычнай форме. Мінімалізацыя вобразна-выяўленчых сродкаў, як адна з вызначальных рыс сучаснага літаратурнага працэсу, якраз добра адпавядае ладу паэзіі Міхася Пазнякова, дзе даверлівасць інтанацыі, душэўная адкрытасць спалучаны з сур'ёзнасцю размовы з чытачом.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ,
Яўген ГАРАДНІЦКІ

# Ніхто нікому не здраджваў

Інтрыгуе і ўступнае слова ад аўтара, дзе твор часткова пераказваецца, і пераказ абрываецца на самым, як і належыць "займальнаму аповеду", цікавым месцы...

"Апантаны жаданнем мець сыноў, Ягайла мусіў ужо ў даволі паважным узросце адважыцца на чацвёрты ў сваім жыцці шлюб, на гэты раз з маладой ліцвінскай князёўнай Соф'яй з роду Гальшанскіх (тэрмін ліцвін у рамане азначае беларус)... Не памыліўся Вітаўт, які высватаў Ягайлу маладую князёўну, нарадзіла яна сыноў. Але раптам спалохаўся сам Вітаўт: што нарабіў? Няўжо сваімі рукамі пазбавіў сябе магчымасці ўзысці на польскі каралеўскі пасад? І тады ён гучна абвінаваціў Соф'ю Гальшанскую ў здрадзе свайму мужу каралю польскаму Ягайлу. А што было далей — пра тое ў творы".

"Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку" — такую (не без інтрыгі) назву мае раман Анатоля Бутэвіча — "займальны аповед пра каханне 17-гадовай беларускай князёўны Соф'і Гальшанскай і 70-гадовага караля польскага Ягайлы".




Пачынаецца раман ці не з самай напружанай ноты: Генрыка — рыцара, якога і падазраюць у здрадзе каралю, — вядуць на допыт. Шлях ад вязніцы да дыбы герой праходзіць перапоўнены кранальнымі ўспамінамі з дзяцінства. У свядомасці героя пачынаюць усплываць тэксты: калыханкі, што некалі спявала маці, байкі... Тэксты гэтыя ўплятаюцца ў плынь аповеда хаатычна, часам збыткоўна, але ў дадзеным выпадку такая хаатычнасць апраўдана: увядзенне іншародных тэкстаў спрыяе раскрыццю хараватага стану вязня, які "адвык не толькі ад натуральнага святла, але і ад свежага паветра, ад цяпла", і плынь свядомасці якога ўжо не кантралюецца ім самім.

Да таго ж напрыканцы твора чытач даведаецца, што ў час, калі Генрыка абвінавачвалі ў здрадзе каралю, у яго далёкай роднай хаце адбываліся дзіўныя рэчы. Так, напрыклад, курыца спявала пеўнем, хлеб у печы разваляўся ды іншае. Гэтыя дзівы паводле народных павер'яў нічога добрага не прадказвалі. Першай затрывожылася Дабраслава — маці Генрыка. І менавіта яна намагалася абараніцца ад бяды, паўстаць супраць лёсу і ўратаваць такім чынам сына. Такое хаатычнае прыгадванне Генрыкам родных спеваў, апавяданняў і невытлумачальная, а таму і невыносная, матчына трывога за лёс сына ствараюць асаблівае сэнсавае і настраёвае поле, што арганічна лучыць гэтыя два эпізоды і дапамагае раскрыць супярэчлівы вобраз Шадзібора-Генрыка (Шадзібор — імя, якое герой насіў да пасвячэння ў рыцары, калі ён пра рыцарства чуў толькі з чужых аповедаў).

Дарэчы, адчуваецца, што аўтар добра арыентуецца не толькі ў тагачасных гістарычных падзеях, але і добра знаёмы са скарбніцамі вуснай народнай творчасці. Яго героі часам выдаюць сапраўдныя "перлы". Так, напрыклад, Шадзібор-Генрык, разважаючы (у апісанай вышэй манеры) над сваім ураваннем і роляй у гэтым раптоўным збаўленні Соф'і Гальшанскай, мяркуе так: "Але ці не кідае гэта вырaзны цень на яе, ці не ўмацоўвае пераканання ў недазволенай сувязі з рыцарам? Бач, не спалохалася яшчэ большай паганоскі, заступілася. Заступілася, бо ведае, што Генрык не вінаваты? Ці проста пашкадавала? Але што гэта зменіць? Яго ж усё адно будуць катаваць, дапытваць. Бо калі гаспадыня захоча зрабіць з малака сыр, яна не пытаецца пра рэцэпт у каровы..." Пераход да відавочна зніжанага стылю тут даволі нечаканы, асабліва пасля кніжных выразаў кшталту "ўмацоўвае перакананне ў недазволенай сувязі"...

Яшчэ адзін цікавы з пункта гледжання стылістыкі прыклад: "Сіла гэтая можа змяніць стан спраў не толькі ў Еўропе. З аб'екта чужой палітыкі Польшча ўпэўнена стала суб'ектам сваёй уласнай, непараможным іграком на еўрапейскім полі". Мэтазгоднасць ужывання кніжных слоў "суб'ект", "аб'ект", штампаў "стан спраў", "ігрок на полі" ў гістарычным рамане таксама спрэчная. З гэтых жа стылістычных прычын нестасоўным бачыцца і скарачэнне "і г.д., і да т. п." пры пералічэнні зямель, якія былі ва ўладанні Ягайлы і, адпаведна, Соф'і: "Гаспадыня, значыць, не адно шыкоўнага Вавельскага замка-палаца, а і Кароны з Княствам, усіх зямель польскіх, літоўскіх, рускіх, жамойцкіх і г.д., і т.п."

Гэта накont стылістыкі...

Наступную гераіню аўтар паказвае таксама ці не ў самы хвалюючы для яе момант у жыцці: "сэрца Соф'і радасна трапятала, вочы гарэлі шчаслівымі агеньчыкамі... А чаму б і не! Такі гонар выпаў сямнаццацігадовай напаўсірацінцы..." — шлюб з каралём польскім і літоўскім Ягайлам.

Соф'я шчаслівая сваім раптоўным шчасцем: яшчэ ні разу не пабачыўшы, яна ўжо кахае свайго будучага мужа, а знаходзячыся побач з ім, цяжка стрымлівае свае гарачыя парыванні. Такой яна бачыцца аўтару.

З перыпетыямі папярэдніх трох шлюбаў Ягайлы (з польскай каралевай Ядвігай, нямецкай графіняй Ганнай Цылейскай і польскай кашталянкай Элжбетай Граноўскай) Соф'ю (і чытача) знаёміць каралеўскі пісар Станіслаў Цёлак (такі своеасаблівы кароткі пераказ падзей, адаптаваны для новай каралевы).

Безумоўна, кароль, каралева і ўсе падданыя чакаюць спадчынніка. Спадчыннік нараджаецца, апроч радасці, гэта шмат у каго выклікае здзіўленне. І падазрэнне ў здрадзе каралевы. Каралева вымушана публічна апраўдвацца. Абвінавачванне афіцыйна скасоўваецца.

...Дык здраджвала ці не?

Што "каралева не здраджвала", у рамане даводзіцца ў першую чаргу праз унутраныя маналогі герояў. Не праз сюжэт (хаця перад прачытаннем рамана думалася, што "займальнасць аповеда" павінна трымацца перш за ўсё на дзеянні; у адваротным выпадку ёсць рызыка неапраўдана "гармазіць" твор, пазбаўляючы яго дынамізму).

"Плыні" думак у герояў "цякуць" пераважна ў адным рэчышчы: гэта звычайна маналогі, насычаныя шматлікімі пытаннямі (часта рытарычнымі), звернутымі да сябе, да лёсу. Яшчэ адзначым, што стрыжань такіх унутраных разваг герояў звычайна трымаецца на супрацьпастаўленні тыпу "так — але", "канечне — і ўсё ж", "безумоўна — аднак"; і блукаюць героі ў лабірынтах свайго "я" найчасцей у пошуках апраўдання для сябе і віны — для іншых. Часам бывае складана вызначыць, дзе праходзіць мяжа паміж уласна-аўтарскім словам і выказваннямі герояў. У такіх выпадках пра ўнутраныя маналогі герояў можна казаць толькі ўмоўна.

Вось так, напрыклад, Ягайла ўсё больш заблытваецца ў сваіх абвінавачваннях у адрас жонкі: "...жыве, як у Бога за пазухай, і гэтага, аказваецца, мала. Праўду кажуць: не давай патолі маладой жонцы. Ды як тут не дасі, калі гаспадарскія справы вымушаюць то ў Княства адлучацца, то па землях Малой і Вялікай Польшчы часта і падоўгу ездзіць? Праз гэта і не дагледзеў, не дапільнаваў. Але чаму кароль павінен пільнаваць сваю жонку? Няўжо жарсць так разбірае, што не можа дачакацца мужа?". "А што Соф'я?" А Соф'я ў наступным абзацы разважае наступным чынам: "Выходзіць, праўду казалі людзі, што хварэе на рэўнасць. І, відаць, невылечна. Калі заззлуе, вінаваціць усіх і ва ўсім, без разбору. Няўжо забыўся, што ранейшыя намаганні заканчваліся нічым? Жонкі заўсёды мелі рацыю, ніколі не заставаліся вінаватымі."

Здзіўляе надзвычайная сугучнасць інтанацый мужа і жонкі (нават сама пабудова выказванняў). Гэткіх "сугучнасцей" ў рамане багата. Галасы герояў часам вельмі падобныя адзін да аднаго, і тады яны зліваюцца ў адну ноту. Губляецца індывідуальнасць... І нават калі ўжо раскрываць у такім ключы ўсіх герояў — з падрабязным выкладам унутраных хістанняў-хваляванняў — то чаму б не даць слова і Вітаўту? Гэтая асоба праз увесь твор згадваецца толькі ў прамовах іншых герояў і застаецца "за кулісамі". Напрыклад, пра трагічныя абставіны забойства яго бацькі Кейстута (той быў задушаны па загадзе Ягайлы) мы ізноў даведваемся з плыні думак-здагадак Ягайлы: "Не, ён зусім не хацеў гэтага. Тыя ж зайздроснікі-крыжакі самі ўсё і ўчынілі"... Цікава было б выслухаць і Вітаўта.

Вядома, што раман будзе мець другую частку — "Паміж Княствам і Каронай", таму нашым заўвагам мы нададзім статус менавіта заўваг, а не заключнага слова.

Наталля ПАХОМЧЫК

# Гісторыю, як і кнігі, пішуць асобы

**Сталася так, што я быў выдавецкім рэдактарам мастацка-дакументальнай кнігі Алеся Марціновіча "Пяшчота апалага лісця" і, прызнаюся, чытаў даволі аб'ёмны рукапіс з неаслабнай увагай і цікавасцю, бо ў апошнія два дзесяцігоддзі гэты пісьменнік, вядомы крытык і літаратуразнаўца, нечакана адкрыўся яшчэ адной яркай гранню свайго бліскучага таленту. Ён піша гісторыю Беларусі, прытым не агульнымі словамі, якімі "наструганa" ўжо безліч адвольных гістарычных твораў. Піша канкрэтную Беларусь, піша яе гісторыю ў асобах, што, безумоўна, і цяжка, і накладна, хаця быць першаадкрывальнікам — справа надзвычай ганаровая.**

Менавіта з гэтага шэрагу новая кніга А. Марціновіча "Пяшчота апалага лісця", што пабачыла свет дзякуючы выдавецтву "Мастацкая літаратура". Важкі, унушальны том з аўтарскай серыі "Гісторыя ў асобах", дарэчы, выдатна аформлены. На вокладцы партрэт маладой жанчыны з прыемнымі рысамі твару, танклявай, у якой адчуваецца элегантнасць паводзін і непрыхаваная грацыёзнасць. Але яно і не дзіўна: у афармленні выкарыстана вядомая карціна Уладзіміра Савіча "Партрэт Ірыны Паскевіч". Зноў жа, фрагмент карціны на вокладцы з'явіўся невыпадкова, таму што княгіня – гераіня аднаго з мастацка-дакументальных апавяданняў "Таямнічая дама: трыўмф і …".

Жыццё неардынарнай жанчыны, чый партрэт увасобіў У. Савіч і пра каго расказвае пісьменнік, нясе ў сабе нямала патаемнага, загадкавага, што патрабуе свайго далейшага асэнсавання. Ірына Паскевіч была дачкой графа Івана Варанцова-Дашкава, а потым, стаўшы жонкай аднаго з прадстаўнікоў славутага роду Паскевічаў, на многія гады звязала свой лёс з Беларуссю, у прыватнасці, з Гомелем. Надзвычай інтэлігентная і высокаадукаваная жанчына, Ірына Іванаўна ведала асабіста многіх пісьменнікаў, з натхненнем працавала ў галіне мастацкага перакладу, прынамсі, пераўвасобіла па-французску "Вайну і мір" Льва Талстога. Адначасова чуйна ўлоўлівала першыя прыкметы развіцця капіталістычных адносін у грамадстве. Гэта дзякуючы ёй на Добрушскай папяровай фабрыцы ўпершыню ў Расійскай імперыі быў уведзены 8-гадзінны рабочы дзень, пачала працаваць першая на Беларусі электрастанцыя, тут жа, у Добрушы, была адкрыта адна з першых у нашай краіне тэлефонных станцый. Ды, калі можна так сказаць, трыумф І. Паскевіч працягваўся толькі да гістарычных падзей, якія, кажучы словамі Майна Рыда, "перакулілі свет". Апошняя княгіня, а менавіта так называлі Ірыну Іванаўну гамяльчане за яе дабрыню, спагаду, дабрачынную дзейнасць, была ў паслярэвалюцыйны перыяд забыта, а таму памірала ў нястачы.

Алесь Марціновіч, расказваючы пра гэтую выдатную жанчыну, уводзіць у сюжэтную канву твора вытрымкі з вершаў Якава Палонскага, з якім яна сябравала і які дарыў ёй свае кнігі з аўтографамі. Элегічнасць паэтычных радкоў вельмі добра стасуецца з тым настроем, што авалодвае табой, калі далучаешся да лёсу славутай княгіні. Так, у вершы "На магіле" паэт выказвае ўпэўненасць, што праз сто гадоў да забытай магілы прыйдуць закаханыя, "посмотрят вдаль, поникнув головою, // и темных листьев шум, задумавшись, поймут". Тым самым аўтар кнігі праводзіць аналогію з Ірынай Паскевіч, імя якой хоць ужо і вернута з небыцця, у прыватнасці, згаданы вышэй партрэт У. Савіча ўпрыгожвае залу ўрачыстых пасяджэнняў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля — таго самага, уладальнікам якога княгіня некалі была са сваім мужам, ды, на жаль, пра яе ведаюць яшчэ далёка не ўсе, а многія і не здагадваюцца, наколькі багатая наша зямля на славутых людзей. Пісьменнік, між тым, выказвае ўпэўненасць, што "з'ява гэтая — часовая. Пройдзе час і яны таксама, кажучы словамі Палонскага, задумаўшыся, зразумеюць шум зялёнай лістоты нашай мінуўшчыны, а тым самым спазнаюць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны".

Мне здаецца, што словы гэтыя ў дачыненні да напісанага самім А. Марціновічам набываюць сімвалічнае гучанне. Акурат жа ён уласнай творчасцю, раскрываючы лёсы выдатных яе прадстаўнікоў, і дапамагае "спазнаваць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны". Кніга "Пяшчота апалага лісця" паспяхова працягвае аўтарскую серыю "Гісторыя ў асобах", а яна, гісторыя наша, прынамсі, будзе няпоўнай і без Аўрама Весялоўскага — аднаго з тых, хто патрапляе пад пушкінскае вызначэнне "птенцы гнезда Петрова". Але калі пра іншых "птенцов" напісана шмат, дык А. Весялоўскі абыдзены ўвагай, яго імя нават не згадваецца ў беларускіх энцыклапедыях. А, між іншым, ён нарадзіўся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, як і многія ліцвіны, разам з бацькам апынуўся ў Маскве. Быў асабістым сакратаром Пятра І, а потым знаходзіўся на дыпламатычнай службе. Наколькі гэта цікавы чалавек, сведчыць сама назва мастацка-дакументальнага нарыса "Быў рэзідэнтам, стаў дысідэнтам". Сюжэт твора вострадынамічны, часам з'яўляецца нават займальны, прыгодніцкі элемент, што, безумоўна, сведчыць пра ўменне аўтара пісаць глыбока псіхалагічна, ствараць цэласны партрэт таго ці іншага выхадца з Беларусі, а гэта толькі прыцягвае чытацкую ўвагу, павышае цікавасць да нацыянальнай гісторыі. Таму невыпадкова свой экскурс у даўніну аўтар пачынае з апавядання "Гаючы глыток сурыны", якім адкрываецца кніга "Пяшчота апалага лісця".

Гераіня твора — скіфская царэўна Скрэва, якая жыла яшчэ ў VІІ стагоддзі да н. э. У прыватнасці, звесткі пра яе ёсць у "Вялесавай кнізе". Менавіта мы, беларусы, можам лічыць Скрэву сваёй прамаці, бо па адной з версій ад яе і пайшлі крывічы — адно са старажытных славянскіх плямёнаў, якое жыло на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У гэтым творы Алесь Марціновіч, добра ведаючы гісторыю, у тым ліку і самую даўнюю — тую, што знаходзіцца за смугой стагоддзяў, а яшчэ дзякуючы багатай творчай фантазіі, змог прадугадаць, як маглі разгортвацца тагачасныя падзеі, якім быў побыт нашых продкаў, што цікавіла іх, што хвалявала.

Першапраходцам выступіў аўтар кнігі і ў мастацкім нарысе пра Браніслава Пілсудскага ("Піль-Су — сябра айнаў"). Імя гэтага чалавека, які ў адной асобе спалучаў рэвалюцыянера, даследчыка Сахаліна, этнографа, аднаго з нямногіх у свеце, хто прысвяціў усё сваё жыццё вывучэнню і даследаванню мовы айнаў, ніўхаў, оракаў, доўгі час замоўчвалася. Прычына ў тым, што ён быў старэйшым братам Юзафа Пілсудскага, а ў пасляваеннай Польшчы, тым больш, у Савецкім Саюзе да польскага




маршалка ставіліся негатыўна, заадно па сваяцтве "перапала" і Браніславу. Затое ў Японіі Б. Пілсудскі ўспрымаецца не інакш, як нацыянальным героем, яго імя ўключана нават у школьныя падручнікі. Цяпер несправядлівасць паступова ўхіляецца. З пачатку 80-х гадоў у Польшчы працуе міжнародны камітэт па захаванні і выданні навуковай спадчыны Браніслава Пілсудскага, у горадзе Паўднёва-Сахалінску (Расія) у 1991 годзе яму пастаўлены помнік, адкрыты Цэнтр па вывучэнні ягонай навуковай спадчыны. Неаднойчы згадвалася імя Б. Пілсудскага і на міжнародных чытаннях, прысвечаных Іосіфу Гашкевічу, што ладзяцца ў Беларусі. Даследчык сівой даўніны не проста выкарыстоўвае ўжо вядомыя факты, а і называе шмат новых. Напісанае ім — гэта захапляльнае падарожжа ў мінулае, твор, пабудаваны на дакументальнай аснове, хочацца чытаць, і перачытваць.

З гэткім жа задавальненнем знаёмішся з лёсам яшчэ аднаго нашага земляка — Івана Сініцкага ("Ад Смаргоні да Новай Зеландыі"), які стаў першым беларусам, пакаральнікам Ціхага акіяна, і адначасова зрабіў першае падрабязнае апісанне гэтай краіны ў кнізе "Новая Зеландыя. Падарожныя ўражанні". Мастацкі нарыс, ці, лепш сказаць, апавяданне Алеся Марціновіча, як і шмат якія яго творы, дынамічны, багаты на цікавыя абагульненні, прыводзяцца запамінальныя факты, у выніку чаго складваецца ўражанне, што нібыта сам знаходзішся ў гэтым экзатычным кутку планеты.

Ярка прасочваецца, запамінальна падаецца і жыццё народнай артысткі Расіі Ірмы Яўнзем, якая, дарэчы, яшчэ ў 1923 годзе атрымала званне ганаровай артысткі Беларусі. Адбылося гэта за пяць гадоў да таго, як афіцыйна ў рэспубліцы былі ўведзены заслужаныя і народныя званні, атрымліваецца, што Ірма Яўнзем — першая заслужаная артыстка нашай краіны ("Росквіт "маладой зямлі"). Але ж, чаму "маладая зямля"? Менавіта так перакладаецца прозвішча Яўнзем з латышскай мовы. Ураджэнка Мінска, яна назаўсёды захавала любоў да Беларусі, з задавальненнем выконвала беларускія песні. Усяго ж у яе рэпертуары гучала… Нават не верыцца, але факт застаецца фактам: у рэпертуары Ірмы Яўнзем было больш як 5 тысяч узораў песеннай творчасці не менш як 60 народаў свету. Многія і многія з іх спявачка выконвала ў арыгінале.

Расказваючы пра Ірму Пятроўну, пісьменнік асабліва засяроджвае ўвагу на яе стаўленні да Беларусі, да ўсяго беларускага. Красамоўнае наступнае прызнанне І. Яўнзем: "… Нідзе я не чула такіх песень, як у гэтым краі, дзе нарадзілася і вырасла". Знаёмая з многімі знакамітымі людзьмі, сярод якіх былі М. Фрунзе, М. Горкі, Р. Ралан і іншыя, яна з асаблівай павагай ставілася да беларусаў. У прыватнасці, вельмі высока цаніла майстэрства Ларысы Александроўскай, падтрымала на пачатку творчага шляху Віктара Вуячыча. Вольгу Шутаву. Гаворачы пра ўсё гэта, А. Марціновіч знаходзіць свежы падыход, яркія фарбы, каб кожным разам ненавязліва нагадаць, што такія людзі, як І. Яўнзем, — наш нацыянальны гонар. Беларуская зямля ў гэтым сэнсе – таксама "маладая зямля". Маладая, таму што, які перыяд у гісторыі ні возьмеш, абавязкова напаткаеш імёны, вартыя ўвагі і пашаны. Значыць, беларуская зямля мае невычэрпныя сілы, якія далі жыццё выдатным людзям, у тым ліку і тым, пра якіх улюбёна, па-мастацку дасканала расказвае А. Марціновіч у кнізе "Пяшчота апалага лісця".

Сярод яе герояў, апроч названых, — Францыск Скарына ("Зробленае — лекі душэўныя"), Антоній Тызенгаўз ("Горад-сонца ў марах і наяву"), Мікалай Ніціфароўскі ("Ведаў народ, як самога сябе"), Зыгмунт Урублеўскі ("Мог быць Нобелеўскім лаўрэатам") і іншыя. Усяго васемнаццаць постацей вымалёўваюцца перад чытачом, быццам жывыя.

Кніга "Пяшчота апалага лісця" — надзіва годны працяг усяго напісанага Алесем Марціновічам у асэнсаванні падзей як глыбокай даўніны, так і тых, што адбываліся бліжэй да нашага часу. Гэтае асэнсаванне ідзе праз лёсы выдатных сыноў і дачок Бацькаўшчыны — чыё імя на слыху, аднак найчасцей пісьменнік асэнсоўвае жыццёвы шлях людзей, якія незаслужана забыты, хаця заслугоўваюць да сябе нашага ўдзячнага стаўлення, бо зроблена імі вельмі і вельмі шмат дзеля таго, каб беларусы заставаліся беларусамі. Героі твораў пісьменніка не толькі тыя, хто нарадзіўся на беларускай зямлі і назаўсёды звязаў з ёй свой лёс, але і тыя беларусы, як і ўвогуле ўраджэнцы Беларусі, якія шмат папрацавалі на карысць іншых народаў, на карысць іншых краін. Зноў жа, аўтар глыбока і ўсебакова асэнсоўвае жыццё знакамітых людзей, хто нарадзіўся ў іншых краях, ды наша зямля стала для іх блізкай і дарагой.

Гэта ж праўда: гісторыю, як і кнігі, пішуць асобы. Усяго Алесь Марціновіч расказаў амаль пра 300 асоб, без якіх немагчыма ўявіць сабе гісторыю Беларусі. Па сутнасці створана асобная паліца гістарычных кніг аднаго аўтара, а тры ягоныя кнігі маюць сімвалічную назву — "Хто мы, адкуль мы…" Дарэчы, яны склалі змест аднайменнага трохтомніка, выпушчанага ў 2008 годзе выдавецтвам "Беларусь", што само па сабе ўнікальная з'ява, бо такія свайго роду зборы твораў жывых літаратараў цяпер не выходзяць. Кніга "Пяшчота апалага лісця" сваім зместам таксама напамінае пра тое, хто мы і адкуль мы родам. Ужо ў гэтым яе вялікае патрыятычнае і выхаваўчае значэнне. Калі ж прыняць пад увагу і высокую мастацкую якасць апавяданняў і нарысаў, змешчаных у кнізе, можна толькі падзівіцца, як плённа і паспяхова працуе пісьменнік на карысць сённяшняй Беларусі. Тут міжволі згадваеш адно з выказванняў Вальтэра: "Айчына — гэта край, дзе палаянкай душа". Душа Алеся Марціновіча — канечне ж, у роднай Беларусі, у яе мінулым, у ягоных цудоўных кнігах. Мінуўшчыну ён і адкрывае праз гісторыю ў асобах, і робіць гэта дзеля таго, каб зжылося ў нас нацыянальнае беспамяцтва, якому, на жаль, навокал яшчэ багата прыкладаў.

Віктар ГАРДЗЕЙ

# Сонцу насустрач

Сумныя журботныя вершы (нават з пярчынкай) у зборніку В. Рагаўцова ёсць. Няма безаблічных, безнадзейных. Раскоша аналогій і паралеляў у кнізе "Імгненне і вечнасць" (Мінск, "Кнігазбор" 2010) абумовіла, мне здаецца, філасафічнасць вершаў, раскаванасць радка, забяспечыўшы выяву ўзаемасувязі лірычнага героя з сусветам. А яшчэ паралелізм. Паралелізм паэзіі В. Рагаўцова, заснаваны на асацыятыўным увасабленні зместу, удала спрацоўвае на ідэю неадольнасці жыцця, у якім "любіш розумам, а кахаеш душой".

Некалі Амар Хаям сцвярджаў, што душа ў ягонай паэзіі жыве паводле закона цудадзейнага ліхтара. Душа ў створаным Рагаўцовым Эдэме пясціцца ў промнях сонца і напоўнена ўнутранай мелодыяй:

Душа і Розум...
Два чалавечыя полюсы.
Дзве іпастасі.
Душа прагне ўзлёту.
Розум — спакою.
Розумам спазнаеш свет,
Душою —
Чалавека ў ім.

Спалучаючы думку і пачуццё, аўтар зборніка аддае перавагу беламу вершу.

Несумненна, В. Рагаўцоў адчувае ўплыў класічнай лірыкі Усходу. Самабытнае і ёсць народнае — гэта аўтарская канцэпцыя набывае моц, калі паэт распачынае дыялог з чытачом пра зямное:

Зямля — з хлебам
грымоты — з бліскавіцай
месяц — з небам
з борам — ігліца
вечнасць — з імгненнем
ластаўка — з летам
дрэва — з карэннем
А чалавек — з цэлым светам.

Важна тое, што В. Рагаўцоў, у пошуках гармоніі чалавека і прыроды, сфармуляваў у вершах, пазбягаючы дэкларатыўнасці, канцэпцыю месца (бацькоўская хата, ластаўкі над бацькоўскім котлішчам, святло таполі-нявесткі каля варот), надаўшы паэзіі інтравертыўны напрамак (погляд у сябе). Дзякуючы гэтаму, з улікам маральнай ацэнкі з'яў, паэт распавёў пра святасць хрысціянскіх каштоўнасцей:

Стаць бы
нам на калені
перад бацькамі жывымі
як — пры маленні.

Нават адно толькі слоўка ("жывымі"), перайшоўшы ў падтэкставую плынь верша, шмат аб чым скажа чытачу. Ідучы ад агульнага да прыватнага, аўтар зборніка, уступіўшы ў дыялог з чытачом, абгрунтаваў ідэю ўсечалавечнасці.

Ідэя гэта разглядаецца паэтам як духоўны набытак пра фактар ачышчэння душы. Хаця В. Рагаўцову аказаліся ў зборніку пад сілу вышэйшыя формы паэтычнага самавыяўлення (трыялет, дыптых, элегія, акраверш), паэт (на сёння доктар навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта) усе ж схіляецца ў бок псіхааналізу, даўшы прастор моўнай стыхіі, заснаванай на вобразных параўнаннях.

Разбураючы звыклыя стэрэатыпы, аўтар паспяхова апелюе ў зборніку да традыцыйнай народнай культуры. Паглядзіце, як хораша паказаны рух душы дарослага і дзіцяці, зачараванага казкай, у вершы "Я наказаў свайму сыночку", выкарыстаўшы беларускія прымаўкі.

Я наказаў свайму сыночку
— Не хадзі, мой каток,
у лясочак!
Там калматы лясун блукае
ён цябе напужае.
Не хадзі, мой сынок,
у лясочак
Не хадзі, любы мой
галубочак!
Там жыве ліхі ваўкалака
Ён спалохае — будзеш плакаць!

Дайсці, дацягнуцца да вечнасці можна, распачаўшы шлях з вытокаў, з чалавечага пазнання, пачынаючы з абнаўлення душы. Пра яе, прыгожую, удзячную, пакутлівую, далікатна распавёў аўтар зборніка "Імгненне і вечнасць".

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ



Васіль ЖУКОВІЧ

* * *

Пасля Парыжа
я моцна ўражаны
адным чалавекам ссівелым,
які, седзячы ля па'езда высокага дома
на лаўцы штодня,
нагадвае мне радзнаўскага "Мысляра".
Праўда, калі той падпёр галаву
адною рукою,
то гэты сваю падпірае аберучч,
нерухомы, як помнік.
Відаць, думы цяжкія
заселі ў яго галаве;
Пэўна, страціў ён сваю спадарожніцу
недзе ў сяле,
і яго дзеці забралі да сябе ў горад.
Так, ён сельскі: свой пінжак
не здымае нават у спёку.
Ён і сядзіць на нізкай лаўцы,
зусім блізка да зямлі —
у адрозненне ад радзнаўскага
"Мысляра".

* * *

Люблю чытаць партрэт я Украінкі,
Класічна строгі і таму прыгожы;
Чытаю вусны мілыя, якія
Не звядаюць нідзе й ніколі стомы
Так палка прамаўляць да Украіны;
Чытаю вочы думныя, з журбінкай,
Чароўна-пранікнёныя такія
(Яны, відаць, далёка дужа бачаць,
Хутчэй за ўсё
то Бацькаўшчыны долю);
Чало мыслярскае чытаю чуйна,
Увенчанае зграбнаю прычоскай, —
І думаю пра Маўку-гераіню,
Такую мрою зорную, святую!
Чытаць люблю
партрэт сардэчнай Лэсі:
душа праменіць з чыстага аблічча
і свеціць німб адвечнай БЕРАГІНІ.

## Ніна Мацяш — у іншасвет

З укарэненасці разлогай —
у яркую ўкаранаванасць,

каб у выспелы момант
увесь плён свайго росту
лёгка ссыпаць у прыгаршчы ветру:

абдуванчык,
дзьмухавец,
малачаінка сонцагаловая!

Ніна Мацяш
(З кнігі "У прыгаршчах ветру")

Люблю ў красавіку палюбавацца
Залатым разлівам абдуванчыкаў
І ўспамінаць сонечную цябе,
І думаць пра тое,
Што вецер свабоды
Панясе ў цёплых прыгаршчах
Плён духоўнага росту твайго
Ў гожыя душы людзей.
Невыпадкова
Твой дзьмухавец, абдуванчык
Мае форму жаночага роду —
Малачаінка!
А яшчэ ж яна — сонцагаловая!..

Здаецца, яна безабаронная,
Нібыта яна і прапашчая:
Потым з ветрам кудысь паляціць…
Што ж так радуе вока і сэрца
Залацісты лужок веснавы?
Я стаю і любуюся стойкасцю красак:
"Вось яна, несмяротнасць красы!"

Кніг тваіх прад вачыма суквецці…

* * *

Мая душа адпачывала
З табою.
Без цябе тужыў.
І, чуйная, ты адчувала,
Як я табою даражыў.

А развяла нас злая доля.
Хай знае белы свет аб тым,
Пра што не чула ты ніколі, —
Як многа значыла мне ты!

* * *

Бяссонне.
Сем зорак — як дзіва начное
Ў шырока-высокім гатэльным акне.
Загадкай ці знакам сузор'е такое
Заззяла так чыста ў чужой старане?

Нябёсаў пытанне
спасцігнуць мне трэба:
Што чэрпае, што спажывае душа?..
Празрыста і я запытаюся ў Неба:
Што з зорнага мне
абяцаеш каўша?

На нашай зямліцы
так вольна, так пышна
Разросся палын і расцвіў, і таму
Прашу: не давай ты гаркоты мне лішняй,
Ах, слодычы лішняе сам не вазьму!



Таццяна ЛЕЙКА

* * *

Я прыеду ў твой горад
і ўцех, і нягод.
Пагляджу — а мінула
ўжо тысяча год.

Тут мы музыкай лета
хмялелі з табой,
а сягоння спраўляе
свой баль лістабой.

А сягоння імгла
і шалеюць вятры
там, дзе мы вандравалі
да самай зары.

Пахаджу па алеях
хоць пару гадзін.
Нумар твой набяру:
— Не сумуеш адзін?

— Не сумую. Жыву.
А чаму б і не жыць!
Мне і ночка як дзень,
мне і дождж не імжыць.

* * *

З пяшчотных вуснаў, любы мой,
мне ўжо не вырвацца палону.
Я не хачу ісці дамоў,
пакуль мне дождж цалуе скроні.

Ступаць па лужах басаніж —
нібы змываць бяду і смутак.
І я пайду, як гэты дождж
па вуліцах ідзе нячутна.

Ад парасонаў мітусні
павее казкаю прыгожай.
Вярнуць цябе ў былыя дні
ніхто на свеце ўжо не зможа…

О, жыць бы! Каяцца й грашыць,
свой узваліўшы крыж на плечы,
ды вольная душа ляціць,
як матылёк, святлу настрэчу.

* * *

Не разбудзяць цябе тэлефона гудкі.
Ты прабач: развучылася з часам смяяцца.
Напішы для мяне хоць чатыры радкі,
каб змаглі мы, як колісь,
з табой зрыфмавацца.

То нібыта грашу, то ніякай віны.
Мне то хочацца жыць,
то жыццё як забава.
Раскажы мне хоць раз свае новыя сны…
Бачыць іх без цябе — досыць сумная справа.

* * *

Мне гэта сустрэча як новая рана.
Расталіся позна. Спаткаліся рана.
Ўсе тыя гады, як цябе забывала,
стаяць паміж намі… Ды як жа іх мала!

З галінкай алівы — навошта сустрэча?
Такі ты прыстойны: не туліш за плечы.
Прыгожыя жэсты — сталічная школа…
Ды толькі былога няма арэола.

А быў жа! Паглядам цябе асвятляла.
За радасць — любіла, за боль – прабачала.
Гарачае сэрца – ў халодныя рукі…
Шкада мне той жарсці,
шкада мне той мукі.

Былое вярнуць? – Сто разоў я вяртала…
Ты помнік – тады не сыходзь з п'едэстала.

* * *

Маё жыццё, жыццё жывое,
баліць мне ранай нажавою.

І чорна-белая зіма
так прыгнятае, як турма.

І чорна-белыя ўспаміны
бы сум-туга ля дамавіны.

Маё жыццё – не ратаванне!
Нібы за кратамі каханне.

Я ад разлукі да разлукі
бягу, заломваючы рукі,
пакуль бяжыць пад сінявою
маё жыццё, жыццё жывое...

* * *

Ў лістападзе, як у сне, –
ні ўзлятаць, ні апускацца,
ні сыходзіць, ні вяртацца…
Без цябе журботна мне.

Ў лістападзе, бы ў раі, –
нам не трэба анічога.
Толькі яблык, што ад Бога,
і каханне – на дваіх.

Не зайздросці, не грашы
і прымі не ў пакаранне
лісце жоўтае расстання
і чырвонае – душы.

* * *

Бывай, бывай… Зямлю ўсю завалiла
гаручым снегам.
Што шукаць прычыны?!
Я не Юдзіф табе і не Даліла,
ды і цябе загубіць не жанчына.

Развітваюся гэтак, як умею:
каторы раз пайду, каб зноў вярнуцца.
Жанчыны ёсць.
Як глянеш – захмялееш.
Яшчэ да іх ты зможаш прыхінуцца…

Аднойчы я ўзлунаю лёгкім ценем,
як свята над бязрадаснасцю будняў.
Ўсё скончыцца – і па тваім хаценні.
Аднойчы, як мяне ужо не будзе.

З рускай пераклаў
Мікола ШАБОВІЧ



Фота Алесі Стасевіч



Рыгор БАБЧАНОК

## Дэбют

Рыгор БАБЧАНОК нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Ленін Жыткавіцкага раёна. Скончыў Смілавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум і заінжынерны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Працуе дырэктарам аграпрадпрыемства ў Ельскім раёне. З вершамі ў "ЛіМе" выступае ўпершыню.

### Матуля

Кранаю вуснамі далоні
Матулі роднае свае
І адчуваю, як ніколі,
Што дабрыня крыніцай б'е.

Як поўніць сэрца, дорыць крылы
Сустрэчы гэтай вышыня!
Выток маёй жыццёвай сілы —
Матуля родная мая.

Матуля ласкаю бясконцай
Сагрэе ў слотную пару.
Святло жыцця, нібыта сонца,
Я з рук матуліных бяру.

### Родная вёска

Прытулілася да лесу
Вёска родная мая.
Патанула ў кветках бэзу,
Ў дзіўных песнях салаўя,
У лугах, што пахнуць мёдам,
Ў кроплях чыстае вады…
Мне б сюды, адкуль я родам,
Зноў вярнуцца.
Назаўжды.

* * *

Як і людзі, паміраюць
Вёскі, бы на віражы.
Толькі вёсак не хаваюць
І не ставяць ім крыжы.

Іх аднойчы пакідаюць
Бы ад нейкае бяды,
Людзі едуць, уцякаюць,
Нібы ў рай, у гарады.

Вёскі пакрысе знікаюць,
Зарастаюць вішняком…
А хтось хату забірае,
Што стаяла пад замком.

Хата стане потым дачай —
Не згарыць хоць у агні!
А душа баліць і плача,
Толькі памяць закрані.

### Возера Зашырскае

Мой куток Палесся —
сэрца майго краю!
Люстра паднябесся залягло ў цішы.
Возера Зашырскае, лепшага не знаю,
Маеш ты сцяжынку да маёй душы.

Возера Зашырскае — радасць і надзея,
Як на пакаянне, да цябе іду.
Гледзячы ў прастору, ад красы нямею,
І змываюць хвалі смутак і бяду.

Прыйдзецца далёка недзе апынуцца,
Па табе заўсёды буду сумаваць.
Возера Зашырскае,
мне б сюды вярнуцца,
Ўпасці на калені, бераг цалаваць.

### Журавы

Каля хаты на парозе
Чую сумнае "курлы".
Па знаёмай ім дарозе
Паляцелі журавы.

Да паўднёвых небасхілаў,
Сакавітае травы,
Бы ў кулак сабраўшы сілы,
Паляцелі журавы.

Паляцелі, як заўсёды,
Да далёкіх берагоў,
Холад роднае прыроды
Падганяе журавоў.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

22 кастрычніка 2010 г.

Выпуск 19

У постсавецкія часы, калі назва крамы нярэдка ніяк не адпавядала яе зместу, магчымасць сустрэць побач кнігі, вопратку, посуд, касметыку і г.д. часам здзіўляла, часам раздражняла. Потым жыццё паступова стала напаўняцца новымі рэаліямі. Газеты, якія пачалі імкліва павышаць тыражы, з'явіліся на стэлажах многіх гастраномаў. А калі ў нашым штодзённым лексіконе ўмацавалася слова "гіпермаркет" — крама, у якой можна набыць усё ці амаль усё — ад друкаванай прадукцыі там таксама не адмовіліся. Багата ілюстраваныя часопісы, папулярныя каляровыя выданні, газеты занялі палічкі нароўні з астатнімі таварамі.



# Партрэт у люстэрку гіпермаркета

## Кніга як тавар

У гіпермаркеты "ГИППО", "Карону", "Бігз" і "Прастор" ідуць звычайна ўсёй сям'ёй — з-за пакета малака наўрад ці хто згодны адстаяць у чарзе. А значыць, пэўны час на прагулку па зале выдзелены, а наведвальнікі гіпермаркета настроеныя пазнаёміцца з прапановамі і спланаваць далейшыя пакупкі.

Кніжная секцыя ў кожным з гіпермаркетаў займае дастаткова вялікую плошчу. А вось знаходзіцца ў розных месцах памянёных крам — у цэнтральных, дзе побач шмат кнігарняў, пачынаць з яе экспазіцыю не варта, але ў гіпермаркеце "Прастор", што недалёка ад кальцавой дарогі, гэтая секцыя — першая ад увахода, і самыя першыя яе палічкі — дзіцячыя альбомы, размалёўкі…

Кнігі ўладкаваныя на стэлажах адпаведна тэматыцы, часопісы і газеты – на спецыяльных стойках. Размяшчэннем прадукцыі займаюцца спецыяльна падрыхтаваныя людзі.

Пра тое, як арганізаваны гандаль друкаванымі выданнямі, расказвае вядучы спецыяліст аддзела ўпраўлення асартыментам кіравання рознічнага гандлю "БелВиллесден" Тацццяна Сліж: "Гіпермаркет — вялізная тэрыторыя, дзе прадстаўлены шырокі асартымент тавараў. Калі фарміруюцца групы тавараў, улічваецца магчымасць максімальнага задавальнення запатрабаванняў пакупнікоў. І паколькі ў нас неспецыялізаваная кніжная крама, вядзём пастаянны маніторынг, вывучаем попыт, аналізуем продаж, сочым за навінкамі, інфармацыю пра якія даюць Інтэрнэт і выстаўкі-продажы, таму на нашых палічках заўсёды самыя новыя і папулярныя выданні. Сёння ў нашым асартыменце кніжнай прадукцыі літаратура на ўсе густы — руская, беларуская і замежная проза, паэзія, дэтэктыў, фантастыка, мемуары, дзіцячая літаратура і літаратура па псіхалогіі, бізнесе, дызайне, замежных мовах, для аматараў агародаў і кулінарыя".

## Партрэт пакупніка

Для каго ж адмыслова складаецца кніжная палічка гіпермаркета? Тацццяна Сліж адказвае: "Асартымент падбіраем, арыентуючыся на моладзь і пакупнікоў сярэдняга ўзросту з розным узроўнем даходаў, таму нават самыя патрабавальныя змогуць знайсці нешта для сябе ў нашых гандлёвых залах. Пільна сочым за тым, што найперш прываблівае пакупнікоў, калі яны выбіраюць аўтара, жанр і від кніжнай прадукцыі. І ў выніку кожны месяц продаж кніжнай прадукцыі расце".

Найперш наведвальнікі гіпермаркетаў — клапатлівыя бацькі. Таму на кніжных палічках шырока прадстаўлена дзіцячая літаратура, прычым, адзначае Тацццяна Мікалаеўна, беларускія выданні не саступаюць па якасці расійскім. У дзіцячым асартыменце "ГИППО" ў асноўным прадукцыя беларускіх выдавецтваў ("Книжный дом", "Юнипресс"), устойлівым попытам карыста-




юцца размалёўкі і шматлікія выданні па развіцці дзіцяці, а таксама гатовыя хатнія заданні для школьнікаў, адаптаваныя менавіта для беларускай школьнай праграмы.

Беларускія пакупнікі па-ранейшаму лічаць кнігу адным з лепшых падарункаў. Асартымент кніжных палічак пастаянна абнаўляецца, у залежнасці ад сезону мяняецца тэматыка. Напрыклад, да навагодніх свят узрастае попыт на падарункавыя выданні, кнігі па кулінарыі. Да Дня маці і Дня настаўніка пакупнікі ахвотна набываюць кнігі па дзелавым этыкеце, стылі, прычосках і да т п.

Частыя госці — моладзь. Студэнтам прапануецца спецыялізаваная літаратура айчынных выдавецтваў (па маркетынгу, бухгалтарскім уліку, фінансам, рэвізіі і аўдыце, матэрыялазнаўстве, лагістыцы і г. д.), аўтары якой — выкладчыкі беларускіх ВНУ.

Пакупнікі хочуць быць юрыдычна адукаванымі, таму ў наяўнасці невялікія кнігі і брашуры, падрыхтаваныя спецыяльна для беларускага спажыўца: "Трудовой контракт", "Взгляд со стороны работника", "Брачный договор: советы юриста", "Развод. Как сделать это грамотно", "Всё, что нужно знать о наследовании, завещании, дарении", "Общение с ГАИ на дорогах: советы юриста автомобилисту", "Как правильно купить автомобиль: советы юриста". А паколькі сярод жыхароў і гасцей сталіцы, якія зазірнулі ў гіпермаркет, шмат падарожнікаў і аўтааматараў, ёсць карты гарадоў і аўтамабільных дарог Беларусі.

## Прагноз на заўтра

Кніга ў гіпермаркеце атрымала пастаянную прапіску. Пры ўважлівым вывучэнні запыту масавага пакупніка яна не знікне са спажывецкага кошыка. Тацццяна Сліж упэўнена: "Беларуская кнігадрукаваная прадукцыя ўтульна пачувае сябе ў гіпермаркеце. Па-за яго сценамі застаецца толькі той сегмент, у які ўваходзіць вузкаспецыялізаваная літаратура. Па яе пакупнік пойдзе ў кніжную краму. Усё астатняе ён павінен знайсці ў нашай сетцы, пабудаванай з улікам запыту пакупніка і кан'юнктуры рынку".

Падсвядома пакупнік прывучаецца да думкі, што кніга — такі ж складнік паўсядзённасці, як і тавары з суседніх палічак, і не прамінае менавіта гэтую частку гандлёвай залы. У выніку ў спажывецкім кошыку друкаваныя выданні суседнічаюць з пральным парашком, упакоўкай кавы, пячэннем, сокам і да т.п. З аднаго боку, нельга не ацаніць, як зручна, не губляючы дадатковага часу, набыць штосьці пачытаць: новы дэтэктыў, газету з праграмай тэлеперадач, часопіс з карыснымі парадамі і мноствам гісторый з жыцця "зорак". З другога — знікае асаблівы настрой, які ахоплівае ў кніжнай краме з яе строгімі палічкамі. У гіпермаркеце кніга падпарадкоўваецца суровым законам гандлю — тавар павінен быць запатрабаваным і хутка разыходзіцца. Значыць, у першую чаргу на палічкі трапляе масавая літаратура – любімыя народам "Сумеркі", кнігі Дар'і Данцовай і да т.п., і пра выхаванне густу гаворку весці немагчыма. Хаця праблема не новая, яшчэ класік рускай паэзіі з вялікім жалем адзначаў падобную сітуацыю і марыў пра часы, калі "народ Белинского и Гоголя, а не милорда глупого с базара понесёт".

Чыста тэхнічны момант бухгалтарскіх узаемаразлікаў выконвае тут далёка не апошнюю ролю. Гіпермаркету куды больш зручна набываць 50—60 найменняў у аднаго гандляра, чым весці складаныя разлікі з маленькімі выдавецтвамі, якія могуць прапанаваць 5—6 пазіцый. Хаця выдавецтвы шчыра зацікаўленыя ў тым, каб іх літаратура была навідавоку і згодныя працаваць з гіпермаркетамі са значнымі скідкамі. Але паўплываць на гандлёвую палітыку немагчыма — "дзяржавы ў дзяржаве" падпарадкоўваюцца толькі жорсткім правілам санэпідэмстанцыі, што дакладна рэгулююць, якія тавары з якімі побач павінны знаходзіцца. Наяве класічны прыклад выцяснення буйнымі прадпрыемствамі дробных. Кніжных крам і выдавецтваў у тым ліку.

Бліжэйшая перспектыва назіраецца ў суседняй Расіі — буйныя выдавецтвы робяцца адначасова і гандлярамі, адчыняюць сеткі ўласных крам. І несумненная перавага іх прадукцыі ў першую чаргу ў тым, што ў пагоні за прыбыткам не губляецца якасць: у штаце выдавецтваў не зніжаюць выдаткі за кошт адсутнасці рэдактараў і карэктараў, як гэта паўсюдна робіцца ў маленькіх прыватных выдавецтвах г. Мінска.

Для тых жа аматараў кніг, каму неабходны "вузкі сегмент" іншай літаратуры, прыйдуць на дапамогу Інтэрнэт і выданні, якія праінфармуюць пра кніжныя навінкі, але пра гэта мы пагаворым наступным разам.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: ля кніжных палічак у "ГИППО".

Фота Кастуся Дробава

## Зваротная сувязь

# Надакучылі гэтыя... пошукі!

Да паслуг тых, хто сёння хоча зрабіцца аўтарам кнігі і мае на гэта грошы, дзяржаўныя і прыватныя выдавецтвы. А вось чытачу адшукаць патрэбную кнігу куды больш складана. Здавалася б, ва ўмовах канкурэнцыі паміж шматлікімі выдаўцамі павінна ісці змаганне за якасць у першую чаргу. Але, на жаль, гэта не так. Многія выдавецтвы адмовіліся ад такой штатнай адзінкі, як карэктар. Ды і рэдактарская праца пакідае жадаць лепшага.

У кніжным акіяне цяжка арыентавацца — у крамах няма тэматычных планаў айчынных выдавецтваў (як мне паведамілі ў ААТ "Белкніга", яны атрымліваюць усяго 20 экзэмпляраў), а значыць, патэнцыяльны пакупнік не можа даведацца пра літаратуру на тэму, якая яго цікавіць. У выніку рашэнне, колькі асобнікаў той ці іншай кнігі заказаць, прымаюць некалькі супрацоўнікаў гандлёвай сеткі, што ўскладняе шлях чытача да кнігі пры наяўнасці такога асартыменту. Хацелася б паскардзіцца і на адсутнасць візітовак, і на вялікія чэргі ў мінскім "Букіністе", з-за якіх цяжка падоўжыць жыццё друкаванага выдання.

Дрэнна, што ў кнігарнях не вядуць улік чытацкіх запытаў і адмоў, адсутнічаюць стэнды новых паступленняў, якія аднаўляліся б раз на месяц, што болей няма ў сталічнай "Акадэмкнізе" спецыяльнага стэнда з новымі творамі беларускіх навукоўцаў. Калі паўсюдна ідзе гаворка пра прасоўванне тавараў, чаму кніга застаецца па-за ўвагай?

Нельга зрабіць папярэдні заказ на кнігу і гарантавана атрымаць яе, як гэта было раней. Аднойчы ў Чыкага мне спатрэбіўся зборнік маладога беларускага паэта. У краме, дзе пра яе запытаўся, мяне папрасілі пакінуць візітоўку, і літаральна праз дзень кніга была дастаўлена. Не так даўно я паспрабаваў знайсці твор Леаніда Зубарава "Пророчество Казинца", імя гэтага чалавека, Героя Савецкага Саюза, арганізатара і кіраўніка мінскага падполля, дарэчы, носяць адна з вуліц і плошча сталіцы. Ні ў крамах Мінска, ні ў бібліятэцы імя Льва Талстога, якая паблізу майго дома, яе не аказалася... Цяжка было адшукаць па просьбе сяброў з Расіі "Энеіду навыварат" і "Тараса на Парнасе". Зараз шукаю "Крылатыя словы" Ф. Янкоўскага і "Сказ пра Лысую гару". Мы гаворым пра патрыятычнае выхаванне, а ў кніжных крамах цяжка знайсці ўспаміны ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. У 2008 годзе ўбачыла свет кніга ўспамінаў франтавіка Мікалая Тараненкі "Влюблённые в жизнь". Грамадзянін Беларусі, Мікалай Іванавіч узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі, аўтар 6 кніг, апошняя з якіх была надрукавана ў Маскве, а вось у кнігарнях Мінска пра яе нават не чулі.

Вельмі добра, што з'явіўся "Кніжны свет"! Ён дапаможа чытачу на шляху да кнігі. Карысна было б даваць на яго старонках інфармацыю пра выданні, якія яшчэ толькі плануецца падпісаць у друк.

Яўген ПРЭСМАН

# Сучасныя кампазітары: першы мультымедыйны праект

**Яўген Глебаў, Сяргей Картэс, Андрэй Мдзівані, Ігар Лучанок — вядомыя кампазітары, творчая дзейнасць якіх цесна звязаная з Беларуссю. Кнігі пра гэтых творцаў выйшлі ў 2009 г. у серыі “Современные белорусские композиторы” выдавецтва “Вышэйшая школа”.**

Змест кніг гэтай серыі ў прынцыпе прадказальны: біяграфія кампазітара, творчы партрэт, спіс сачыненняў, пералік вядомых выканаўцаў твораў. У прадмовах аўтар Таццяна Мдзівані, кандыдат мастацтвазнаўства, звяртаецца да гісторыі сучасных музычных жанраў, рэпрэзентуе творчасць кампазітараў у кантэксце сусветнай культуры. Праект з’яўляецца “інтэгратыўнай работай пра беларускую прафесійную кампазітарскую творчасць у асобе яе галоўных прадстаўнікоў і ўтрымлівае літаратурны тэкст, аўдыё-, відэа- і выяўленчы матэрыял”. Кнігі невыпадкова нагадваюць памерам каробку ад дыска: кожная мае электронны дадатак з аудыёфрагментамі музычных твораў, відэафрагментамі канцэртаў і пастановак, фатаздымкамі кампазітараў.

Таццяна Мдзівані — і аўтар кніг, і ўкладальнік дыскаў. І самі кампазітары, і Ларыса Глебава — удава Яўгена Глебава – актыўна дапамагалі ў працы над праектам: прыносілі запісы музычных твораў, згадвалі асноўныя падзеі жыцця. Аднак з-за закона аб аўтарскім праве на дыску нельга было змяшчаць творы цалкам, таму давялося абмежавацца толькі фрагментамі.

Канцэпцыя серыі была распрацавана Таццянай Мдзівані сумесна з дырэктарам выдавецтва “Вышэйшая школа” Аляксандрам Нячаем; аналагаў гэтаму праекту пакуль няма. Кнігі прыйдуцца да густу не толькі беларускім меламанам, але і паспалітаму студэнцтву: іх змест адпавядае праграмам тых ВНУ, дзе вывучаюць нацыянальную мастацкую культуру.

“Каб было працей успрымаць тэкст, я пісала аблегчанай мовай, выбірала яркую, зразумелую музыку, — распавядае Таццяна Герасімаўна. — Натуральна, на дысках змешчаны лепшыя творы кампазітараў, кожны творца прадстаўлены максімальна поўна — у тых жанрах, у якіх ён быў сапраўды моцным”.

Імёны кампазітараў, да творчасці якіх трэба звярнуцца ў першую чаргу, былі вызначаныя паводле навучальных праграм — надалей жа плануецца выдаць кнігі, прысвечаныя жыццю і творчасці М. Аладава, У. Алоўнікава, А. Багатырова, Г. Вагнера, Р. Пукста, Ю. Семянякі, Я. Цікоцкага.

Выдавецтва ўпершыню ўзялося за праект такога кшталту, — таму, на жаль, з-за тэхнічных прычын на дысках ёсць некаторыя памылкі. Да таго ж, каб заняць усю “дарожку” адзін і той самы аўдыё- ці відэафрагмент паўтараецца некалькі разоў.



Добра было б, каб у наступных кнігах серыі мультымедыйны дыск меў уласную вокладку са спісам змешчаных на ім сайтаў – і, безумоўна, варта спадзявацца, што праца над серыяй будзе працягнута. Бо парадокс, на які звяртае ўвагу Таццяна Герасімаўна, — высокі ўзровень творчасці беларускіх кампазітараў і кепскае веданне яе сучаснымі беларусамі — безумоўна варты вырашэння. Галоўнай жа мэтай Таццяны Мдзівані было стварэнне высокага іміджу краіны: вельмі істотна, каб за мяжой існавала адэкватнае ўяўленне пра развіццё беларускай музычнай культуры.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

Калаж Віктара Калініна

# Кому быть живым и хвалимым

Юрий Поляков. “Гипсовый трубач, или Конец фильма”, Астрель, 2008 г.
Юрий Поляков. “Гипсовый трубач: дубль два”, Астрель, 2010 г.

Новый роман Юрия Полякова обращен прежде всего к тем, для кого любимым произведением этого писателя, имя которого стало известным после первой же публикации несколько десятилетий назад, остался культовый “Козлёнок в молоке”, посвящённый собратьям-писателям. И опять беспроигрышный вариант — новый роман из жизни творческой интеллигенции: на этот раз его героями выступают писатель и кинорежиссёр: портрет на фоне эпохи. Временная дистанция между выходом в свет “Козлёнка в молоке” и “Гипсового трубача” — те самые пятнадцать лет в жизни страны и мира, которые были просто перенасыщены важнейшими событиями; проследить изменения в психологии людей, эти катаклизмы переживающих, — достойная задача для писателя. Их и фиксирует автор в своём новом романе.

В палитре творческих средств Ю. Полякова преобладают сатирические краски, сгущаясь от романа к роману, местами тяготея к политической сатире, но всегда находят точный образный ряд (для выведения из организма накопившейся в нём горечи и желчи, как признается сам автор в одном из интервью).

Требуется гражданское мужество для изображения сотрудничества одного из главных персонажей романа — писателя Кокотова с так называемым Фондом Сэроса, хотя именно в этом эпизоде соль крупновата. Жёсткие требования к соискателям грантов по дискредитации всей доперестроечной действительности толкают талантливого писателя к оригинальной перелицовке смысла известной с детства книги А. Гайдара “Тимур и



его команда”: главные положительные герои книги — на самом деле страстные борцы со сталинским режимом. Этим абсурдным сюжетом, которым возмутились даже хозяева “грант-дамы”, автор романа подводит вплотную к теме оборотничества: уж если Тимур — не пионер-герой, то и каждый, возможно, не тот, за кого себя выдаёт, а нечто прямо противоположное.

Композиция романа напоминает плутовской роман: основная линия сюжета представляет собой ствол дерева, а вставные новеллы — его ветки, они добавляют объемность повествованию. Эта конструкция помогает избежать линейности и упрощённости, которыми грешит скороспелая авантюрная проза — прочитал и закрыл навсегда. Не так обстоят дела с прозой, которую мы обозначили как “ветвистую”: вставные новеллы имеют различную ценность для сюжета, например “Песьи муки”: история о том, как соседи сублимируют накопившуюся агрессию через своих собак, характеризует нравственную деградацию общества. Для сюжета романа, повествующего об истории написания киносценария по рассказу Кокотова, соавтором и вдохновителем выступает кинорежиссёр Жарынин, история, им рассказанная, будто бы не имеет прямого отношения, но учитывая, что два главных героя романе — люди творческие и рассказывание историй есть составляющая часть их профессии, вставные новеллы вписываются в композицию естественно; соавторы постоянно провоцируют друг друга на ответвления от непосредственной работы по превращению рассказа в киносценарий.

Одним из главных достоинств писателя Ю. Полякова является язык, подтверждая наблюдение, что только бывшие поэты могут писать такую прозу, в которой каждое слово имеет вес, несёт повышенную нагрузку, как в стихах. Это язык точный, отшлифованный, не чурающийся современной лексики и вульгаризмов. Это безжалостный язык человека, живущего без иллюзий — по отношению и к себе, и к другим.



Особенно ненавистна автору демагогия, которая снова ядовитой ползучкой оплела и угробила лучшие замыслы и упования народа. История про то, как из среднего, сильно пьющего артиста был слеплен памятник мужественного борца с режимом, а рассекреченные списки штатных осведомителей, в которых было найдено его имя, придали его облику налёт страдания за “вынужденное” стукачество — один из примеров в романе торжествующей демагогии!

Есть в романе и существенные неточности, к примеру — имя пионера Марата Казея почему-то связывается автором с горным пейзажем, а ведь это наш, белорусский герой!

Тем не менее, роман “Гипсовый трубач”, предварительно растащенный на цитаты, непременно займёт достойное место на книжной полке, среди самых остроумных книг, для широкого круга любителей чтения, потому что писатель помогает взглянуть в увеличительное зеркало на самих себя, чтобы посмеяться и удручиться вместе с ним. А иногда, хоть и крайне редко, испытать и другие, возвышенные чувства: «А. Л. ощутил вдруг в самых дальних, клеточных глубинах своего тела такую тоскливую любовь к этой земле, что тёплая слеза умиления скатилась, холодея, по щеке”.

Текст рецензии был написан сразу почти по прочтении, то есть по выходе романа, но не опубликован. И вот через год выходит нетерпеливо ожидаемое верными почитателями продолжение “Гипсовый трубач: дубль два”. И не разочаровал почитателей известного писателя: та же напряжённость основной сюжетной линии, касающейся судьбы “Ипокрении”; наоборот, в дело отчуждения лакомого кусочка собственности включаются всё более высокие властные структуры. Жизнь не стоит на месте, и автор, находящийся внутри борьбы противоречивых общественных сил, пытается, местами эзоповым языком, художественно, в образах, временами почти узнаваемых, отразить ту самую расстановку сил в обществе. Но не только этим интересно продолжение романа: по-прежнему блестяще прописаны вставные новеллы, которые доставляют читателю истинное наслаждение. И только больше горечи и сарказма отличает вторую часть “Гипсового трубача”.

Любовь ТУРБИНА

# Авангард — чытачу

Музей кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі прапанаваў сваю прастору для выставачнага праекта “Авангард — Кнізе”, адкрыццё якой адбылося ў сярэдзіне кастрычніка.

Рэалізацыя праекта стала магчымай пры непасрэдным удзеле знаўцы авангарда і калекцыянера Леаніда Закса. Прадстаўнікі яго сям’і ў свой час сабралі значную калекцыю, якая цяпер захоўваецца ў Швейцарыі, але актыўна прэзентуецца па свеце. Паколькі продкі Закса паходзілі з беларускага Палесся, не дзіўна, што ён усталяваў цесныя стасункі з мясцовымі спецыялістамі. Упершыню творы з калекцыі пад назвай “Авангардныя салоны” дэманстраваліся ў Беларусі некалькі год таму ў Нацыянальным гістарычным музеі. Наступным крокам стаў праект “Беларусі — з любоўю”, які прыняў Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Падчас яго адкрыцця Леанід Закс перадаў у падарунак установе 21 графічны твор. Менавіта тады і нарадзілася ідэя пра працяг супрацоўніцтва, якая ажыццявілася сёлета ў Музеі кнігі.

Паводле слоў арганізатараў, праект “Авангард — Кнізе” быў задуманы як цыкл невялікіх выставак графікі мастакоў-наватараў. Яго асноўнай мэтай было нагадаць наведвальнікам пра пачатак XX стагоддзя, калі Беларусь праз дзейнасць “віцебскай школы” стала месцам ці не самых дзёрзкіх пошукаў у гісторыі мастацтва. Стваральнікі выстаўкі на чале з яе куратарам Ларысай Міхневіч паспрабавалі распавесці пра ўзаемадачыненні феномена авангарда і кнігі.

Першая выстаўка праекта мае назву “Іван Клюн, Пётра Львоў і Ніна Хлебнікава” і складаецца з 17 акварэляў і малюнкаў, створаных у 1909 — 1936 гг.. Шырэй прадстаўлены тут Клюн, адзін з найболыш яркіх прадстаўнікоў рускага авангарда, які сябраваў з Казіміраам Малевічам. Львоў прадстаўлены архітэктурным накідам, а Хлебнікава — профільным партрэтам Маякоўскага і двума супрэматычнымі творамі.

Кнігі, аформленыя мастакамі авангарда ў пачатку XX стагоддзя, былі маленькімі па памеры і выдаваліся накладамі 100 – 300 асобнікаў на газетнай паперы. Ды і лозунг, пад якім кнігі прыходзілі да чытача, гучаў адпаведна: “Пагля́дзі і выкідвай”. Відаць, большасць зразумела яго літаральна, бо да нашага часу дайшло даволі мала асобнікаў. Тыя ж, што захаваліся ў калекцыі Леаніда Закса, наведвальнікі Музея кнігі змогуць убачыць на выстаўцы, якая працуе да снежня 2010 года.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# О творцах и о творчестве

Все знают имена Титанов Возрождения и назовут по крайней мере одну их работу. Любой образованный человек хоть раз в жизни слышал слово "импрессионизм" и если не знает точного его значения, то хотя бы догадывается. Все в юности читали о Крестовых походах и наверняка слышали о Грюнвальдской битве. Вниманию читателей "Кніжнага свету" мы представляем издания ООО "Харвест", которые помогут углубить знания в области искусства, отдельных направлений художественного творчества и подробнее познакомиться с историей религиозных и рыцарских орденов и обществ.


















## В XIX век через Древний Египет и Переднюю Азию

Египет — древнейшее государство мира, об истории которого сохранилось немало сведений. Именно в этой загадочной и таинственной стране фараонов родились многие виды и формы искусства, которые впоследствии получили развитие в Азии и Европе. Они послужили основой и для античной эстетики — исходной точки всех искусств нашего времени. С Древнего Египта начинается долгое и захватывающее путешествие в "Историю искусств", экскурсоводом и одновременно отличным попутчиком и собеседником в котором будет автор издания Пётр Гнедич. Он проведёт читателя через страны, искусство, быт и нравы, покажет костюмы, расскажет о традициях Передней Азии, Древней Греции и Рима, Византии, Италии, Испании, Нидерландов, Германии в эпоху Возрождения, ещё раз напомнит об истории искусства Руси; увлекательным обещает быть и путешествие в Европу и Россию XVIII — XIX вв.

Книга, написанная живо и увлекательно, с привлечением фактического материала и богато иллюстрированная, охватывает историю архитектуры, скульптуры, живописи, быта, нравов и искусства костюма народов с древнейших времён до конца XIX века. "История искусств" Петра Гнедича — одно из немногих изданий, позволяющих неспециалисту (прежде всего школьнику, который ещё только начинает постигать историю) получить достаточное представление о развитии искусства в целом. Образный, притягательный текст, богатство иллюстративного материала, утончённый авторский комментарий делают книгу настоящим подарком для всех любителей искусства.

## Титаны Ренессанса

Книги серии "Стили и жанры" "Эпоха Возрождения" и "Импрессионизм", знакомят читателя с характерными сторонами творчества художников эпохи Ренессанса и представителей такого художественного течения, как импрессионизм.

Как одна из самых значимых эпох в европейской истории, Возрождение отмечено множеством знаменательных перемен. Однако первым признаком Ренессанса, как казалось его современникам, явился расцвет искусств после долгих веков упадка, расцвет, возродивший античную художественную мудрость. К основным отличительным чертам культуры Возрождения относятся светский характер (после долгого царствования церкви над искусством), гуманистическое мировоззрение, обращение к античному культурному наследию. В это время творят настоящие титаны не только искусства, но и науки: Рафаэль, Леонардо да Винчи, Микеланджело, Тициан, а их работы и сегодня не оставляют людей равнодушными.

Книга "Эпоха Возрождения" знакомит читателя с характерными чертами творчества художников эпохи Ренессанса и с самыми известными их работами, а представленные в издании многочисленные репродукции картин дают возможность оценить вклад этих мастеров в процесс формирования мирового художественного искусства. Все произведения живописи сопровождаются подробными характеристиками, которые содержат не только название картины, но и сведения о времени написания, размере, а также о последнем месте хранения полотна. Работы и творческие биографии авторов сгруппированы по хронологическому принципу. Так, внимательный читатель и наблюдательный зритель заметит не только особенности творчества отдельного автора, но и увидит закономерности развития искусства эпохи Возрождения, исходя из особенностей его Раннего, Высокого и Позднего периодов.

## Тайны великого Леонардо

Леонардо да Винчи — ярчайший представитель итальянского Возрождения, талантливый живописец, скульптор, архитектор, инженер, музыкант, поэт и философ — родился в маленьком городке Винчи, недалеко от Флоренции, 15 апреля 1452 года. Так начинает свой рассказ о титане эпохи Ренессанса Людмила Чернышева, автор-составитель книги "Леонардо да Винчи", что увидела свет в серии "Гений мировой живописи".

Вопрос, почему Леонардо создал два варианта картины "Мадонна в скалах", занимает как поклонников творчества великого художника, так и просто любознательных. А смысл, заложенный в полотнах "Мона Лиза" и "Тайная вечеря", до сих пор остаётся загадкой. Поэтому и в XXI веке имя гения по-прежнему у всех на устах.

Альбом содержит около 25 репродукций работ мастера (с подробным их описанием, рассуждением о символичности деталей) и множество эскизов, а также фотографий макетов, выполненных по чертежам Леонардо да Винчи. Авторский текст прекрасно дополняют афористичные цитаты из записных книжек и манускриптов самого Леонардо.

## Импрессионизм на фоне эпохи

Импрессионисты не выбирали себе названия; так окрестил их в 1874 году враждебно настроенный критик. Но вскоре прозвище прочно прилепилось к группе художников, которые никогда не собирались объединяться в определённое радикальное направление, шокировать или совершать революцию в искусстве. Их связывало лишь то, что все они в начале 1860-х гг. оказались в Париже, быстро перезнакомились: одни в художественных школах, другие — просто в кафе и обнаружили взаимное стремление по-новому писать пейзажи, городские виды, картины современной жизни. Так просто и незамысловато начинается книга "Малая энциклопедия импрессионистов". Это научно-популярное издание — перевод оригинальной английской книги "The Pocket Encyclopedia of Impressionists".

Но в то же время рождение импрессионизма не было столь спонтанным. Для его развития решающими оказались несколько явлений искусства начала XIX века. В 1800-1830 гг. на французскую живопись и изобразительное искусство в целом стали оказывать воздействие голландские и английские пейзажисты. Эжен Делакруа, повлиявший на многих импрессионистов, особенно на Ренуара, привнёс в свои картины новую яркость красок и виртуозность письма. Барбизонцы были предшественниками Моне и Писсаро, на которых также оказали влияние Буден и Йонкинд — пейзажисты, работавшие на побережье Нормандии...

"Малая энциклопедия импрессионистов" в структурном плане состоит из двух частей: "История импрессионизма" (в ней рассказывается о зарождении и становлении этого художественного течения во Франции) и "Жизнь и творчество", из которой любопытный читатель узнает много интересных фактов из жизни и творческой биографии Камиля Писсаро, Эдуарда Мане, Эдгара Дега, Клода Моне, Пьера Огюста Ренуара, Альфреда Сислея. Издание богато иллюстрировано репродукциями картин, которые помогут глубже понять сущность импрессионизма и на примерах проследить творческую манеру каждого из художников.

## Психология творчества — наука?

Многие знают, что Дмитрий Менделеев увидел таблицу периодической системы химических элементов во сне, что Эдгар Алан По часто писал новеллы и стихи, находясь под воздействием спиртного. Но мало кто догадывается, что список известных писателей, композиторов, художников, учёных, чей процесс творчества можно назвать "бессознательным" (во сне или в состоянии опьянения), продолжает ещё множество имён: Вальтер Скотт, Вольтер, Луи Пастер, Бодуэн де Куртенэ, Ги де Мопассан...

Как возникает идея будущего произведения в голове творца? Какие мысли, воспоминания, ассоциации помогают ему в труде? Эти и другие вопросы, связанные с природой, истоками и непосредственно процессом творчества, всегда волновали психологов и философов. Книга Семёна Грузенберга "Гений и творчество", написанная как цикл докладов, впервые была опубликована в 1924 году, но и сегодня идеи Семёна Осиповича, его наблюдения и размышления, вызывают неподдельный интерес.

Работа состоит из шести глав, каждая из них посвящена отдельной теории творчества: эстетического восприятия, перевоплощаемости, теории катарсиса, рационалистической и мистической, теории "бессознательного творчества". Отдельная глава посвящена обоснованию методологических предпосылок психологии творчества как науки. Но действительно ли психология творчества является наукой? "Если она хочет стать таковой, — рассуждает Семён Осипович в предисловии к книге, — она должна раз и навсегда отрешиться от всяких метафизических предпосылок и строить свои положения на строго научном фундаменте". В то же время автор, ориентируясь на строгую методологию, не обходит вниманием и мистические теории творчества, при этом чётко обращая внимание на то, что они "покоятся на скрытом догматизме", а их внутренние противоречия сами в корне подрывают научный интерес к ним.

Книга примечательна не только идеями и фактами, в ней изложенными, но и самой манерой выражения мысли автором, построения им структуры собственного исследования.

## Начало — от святого Бенедектина

История искусства всегда была тесно связана с религией. Это суждение справедливо и по отношению к многочисленным и весьма влиятельным католическим орденам, чья деятельность оказала воздействие не только на искусство, но и на ход европейской истории в целом. Нужно только вспомнить Крестовые походы, деятельность ордена иезуитов во время Реформации, нападения крестоносцев на земли Великого Княжества Литовского, Грюнвальдскую битву...

Богато иллюстрированная книга Игоря Гусева "История религиозных и рыцарских орденов и обществ" знакомит читателя с историей возникновения и становления основных религиозных и военно-монашеских организаций Римско-Католической Церкви.

— Первый период в истории христианства, — начинает рассказ Игорь Евгеньевич, — завершился в первой половине IV века крещением римского императора Константина Великого из преследуемой в законную и привилегированную религиозную организацию. Принадлежность к такой организации стала обеспечивать материальную выгоду и престижное общественное положение. Героизм, самопожертвование и духовный пыл стали менее востребованными качествами христиан, тем не менее тогда, да и во все последующие века, были люди, стремившиеся жить строго "по Христу". Они оставляли мир и удалялись в безлюдные места, где вели аскетический образ жизни.

В IV-V веках монашество появляется в Западной Европе — в Италии, Галии, Ирландии, Англии, Шотландии, Германии, Испании. Основателем западного монашества является св. Бенедектин Нурсийский. Позднее образовались и получили распространение общины цистерианцев и картезианцев, францисканцев, доминиканцев и кармелитов.

Среди множества католических монашеских орденов были и общества другого типа — военно-монашеские, или духовно-рыцарские, ядро которых являли собой в одном лице и монахи, и воины-рыцари. Именно их деятельность и оказала значительное воздействие на события европейской истории.

Юзефа ВОЛК

# Навінкі кнігавыдання

## Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам

### Гігіена ў цэлым. Асабістая гігіена і здароўе

Вкусные и полезные блюда для детей / [составитель Н. П. Воробей]. — Минск: Траско, 2010. — 32 с. — 7100 экз. — ISBN 978-985-6942-83-2.

Зайцев, С. М. Физическое и психическое развитие ребенка от рождения до школы / Сергей Зайцев. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0208-0 (в пер.).

Кузнецова, Л. Ф. Здоровый образ жизни: жизненные навыки: пособие к факультативным занятиям для учащихся 5-го класса общеобразовательных учреждений / Л. Ф. Кузнецова; Министерство образования Республики Беларусь, UNICEF. — Минск: Национальный институт образования, 2010. — 141 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-465-672-4.

Ли, И. Восточная гимнастика для мозга. Энергетика здоровья / Ильчи Ли; [перевел с английского С. Э. Борич]. — Минск: Попурри, 2010. — 269 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1090-6.

Лучшие диеты / [составитель Н. П. Воробей]. — Минск: Траско, 2010. — 32 с. — 7100 экз. — ISBN 978-985-6942-84-9.

Мархоцкий, Я. Л. Валеология: учебное пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования / Я. Л. Мархоцкий. — 2-е изд. — Минск: Вышэйшая школа, 2010. — 285 с. — 1800 экз. — ISBN 978-985-06-1880-1.

Хибер, Д. Какого цвета ваша диета? / Дэвид Хибер; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2010. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1145-3.

Хибер, Д. Шейпинг-диета / Дэвид Хибер, Сьюзен Бауэрман; [перевел с английского О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2010. — 478 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1144-6.

### Грамадскае здароўе і гігіена. Санітарыя. Засцярога ад няшчасных выпадкаў і іх папярэджванне

Абраменко, М. Е. Здравоохранение Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1945 гг.): учебно-методическое пособие для студентов 1-х, 3-х курсов всех факультетов / М. Е. Абраменко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общественно-гуманитарных наук. — Гомель: ГГМУ, 2010. — 110 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-506-321-7.

Белорусское общество Красного Креста. Ежегодный отчет, 2009 / [Белорусское общество Красного Креста]. — Минск: Белсэнс, 2010. — 16 с. — 215 экз.

Калинин, М. Ю. Чрезвычайные ситуации и их последствия: мониторинг, оценка, прогноз и предупреждение / Калинин М. Ю., Волчек А. А., Шведовский П. В.; Республиканское унитарное предприятие «Центральный научно-исследовательский институт комплексного использования водных ресурсов» (РУП «ЦНИИКИВР»). — Минск: Белсэнс, 2010. — 275 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-6946-05-2.

Пожарная безопасность технологических процессов: учебное пособие для курсантов и слушателей высших учебных заведений по специальности «Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций» / [Г. Ф. Ласута и др.]; Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Командно-инженерный институт, Институт переподготовки и повышения квалификации. — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2010. — 289 с. — 510 экз. — ISBN 978-985-90175-9-9.

Районирование территории Республики Беларусь по уровням риска для населения и территорий при чрезвычайных ситуациях природного и техногенного характера / [А. Н. Кудряшов и др.]; Научно-исследовательский институт пожарной безопасности и проблем чрезвычайных ситуаций МЧС Республики Беларусь. — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2010. — 185 с. — 300 экз.

Халапсина, Т. И. Радиационная и экологическая безопасность: пособие для слушателей специальности 1-94 01 01 «Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций» факультета очного и заочного обучения : в 2 ч. / Т. И. Халапсина, Н. А. Демченко; Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Гомельский инженерный институт, Кафедра «Тактика проведения аварийно-спасательных работ и тушения пожаров». — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2010. — ISBN 978-985-6956-03-7.

Ч. 1: Экологическая безопасность. — 2010. — 113 с. — 111 экз. — ISBN 978-985-90197-8-4.

### Фармакалогія. Агульная тэрапія. Таксікалогія

Бабушкины рецепты целебных алкогольных напитков / [составитель Пышнов Иван Григорьевич]. — Минск: Современное слово, 2010. — 255 с. — Издано при участии ООО «Попурри» (Минск). — 5010 экз. — ISBN 978-985-443-657-9.

Все о йоге / [авторы-составители: Н. Н. Иванов, В. В. Петров]. — Минск: Харвест, 2009. — 607 с. — 10000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-16-4021-4 (в пер.).

Все о массаже / [автор-составитель Надеждина Вера]. — Минск: Харвест, 2009. — 607 с. — 10000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-14-1539-3 (в пер.).

Ешьте и худейте / [автор-составитель Л. Смирнова]. — Минск: Харвест, 2009. — 63 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-7631-2.

Лукомский, И. В. Физиотерапия. Лечебная физкультура. Массаж: учебник для учащихся специальности «Лечебное дело» учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / И. В. Лукомский, И. С. Сикорская, В. С. Улащик; под редакцией В. С. Улащика. — 3-е изд. — Минск: Вышэйшая школа, 2010. — 384 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-06-1886-3.

Новейший справочник современных лекарственных средств: [10 000 наименований лекарственных препаратов / автор-составитель Мирослав Вячеславович Адамчик]. — Минск: Харвест, 2010. — 639 с. — 7000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-16-7197-3 (в пер.).

Пособие по рыдающему дыханию: волшебное исцеление от всех недугов / [автор-составитель Адамчик Мирослав Вячеславович]. — Минск: Харвест, 2009. — 191 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-7196-6.

Риццо, Р. Цигун, йога и пилатес: идеальное сочетание = Weightlessness / Рэй Риццо; [перевел с английского О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2010. — 238 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1048-7.

Целебные алкогольные напитки: лечение винным спиртом, или этилотерапия, коньяк – напиток целебный, лечение вином, или энотерапия / [составитель Пышнов Иван Григорьевич]. — Минск: Современное слово, 2010. — 255 с. — Издано при участии ООО «Попурри» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-985-443-656-2.

Целительные пиявки / [автор-составитель Любовь Смирнова]. — Минск: Харвест, 2009. — 63 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-16-7669-5.

Чайный гриб / [автор-составитель Л. Смирнова]. — Москва: АСТ; Минск: Харвест, 2010. — 95 с. — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-030193-5 (АСТ). — ISBN 978-985-16-2154-1 (Харвест).

### Паталогія. Клінічная медыцына

Алгоритм диагностического применения программно-аппаратного комплекса «Омега-С» в спортивной медицине: монография / [Ю. Э. Питкевич и др.]; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Государственное учреждение «Республиканский центр спортивной медицины», Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Гомельский государственный медицинский университет. — Гомель: ГГМУ, 2010. — 158 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-506-313-2.

Зайцев, С. М. Первая медицинская помощь ребенку / Сергей Зайцев. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0209-7 (в пер.).

Лызикова, Т. В. Анестезиология и реаниматология: сборник тестов: учебно-методическое пособие для студентов 6-го курса лечебного и медико-диагностического факультетов / Т. В. Лызикова, Л. А. Алексеева; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общей и клинической фармакологии с курсом анестезиологии и реаниматологии. — Гомель: ГГМУ, 2010. — 68 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-506-322-4.

Недзьведь, М. К. Патологическая анатомия и патологическая физиология: учебник для учащихся специальности «Лечебное дело» учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / М. К. Недзьведь, Ф. И. Висмонт, Т. М. Недзьведь. — 2-е изд. — Минск: Вышэйшая школа, 2010. — 271 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-06-1875-7 (в пер.).

Хиневич, С. М. Выпрямить кривую / Славомир Хиневич; [фотографии Александра Конотопа]. — Минск: Мэджик, 2010. — 131 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6473-27-5 (в пер.).

### Паталогія і захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы

Актуальные вопросы кардиологии: сборник научных трудов, посвященный 10-летнему юбилею сотрудничества между Белорусским государственным медицинским университетом, интервенционными кардиологами университета Западного Онтарио (Канада) и кардиологами РБ / [под общей редакцией С. Л. Кабака, Н. П. Митьковской]. — Минск: Кнігазбор, 2010. — 438 с. — Резюме параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском языке. — 163 экз. — ISBN 978-985-6976-02-8.

Жерко, О. М. Ультразвуковая диагностика острых тромбозов в системе нижней полой вены: учебно-методическое пособие / О. М. Жерко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра ультразвуковой диагностики. — Минск: БелМАПО, 2010. — 38 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-499-415-4.

### Захворванні дыхальнай сістэмы

Зайцев, С. М. Советы лор-врача детям и взрослым / Сергей Зайцев. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0207-3 (в пер.).

Куницкий, В. С. Избранные лекции по оториноларингологии: учебное пособие / В. С. Куницкий; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — 2-е изд. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 88 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-466-426-2.

### Захворванні стрававальнай сістэмы

Добров, А. Диабет — не проблема / Александр Добров. — Минск: Книжный Дом, 2010. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0206-6 (в пер.).

Жерко, О. М. Ультразвуковая диагностика патологии сосудов верхних конечностей: учебно-методическое пособие / О. М. Жерко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра ультразвуковой диагностики. — Минск: БелМАПО, 2010. — 21 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-499-414-7.

### Дэрматалогія. Скурныя хваробы

Паразитарные дерматозы: пособие: в 2 ч. / В. Г. Панкратов [и др.]; Белорусский государственный медицинский университет, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Республиканский центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья. — Минск: ДокторДизайн, 2010. — ISBN 978-985-6913-16-0.

Ч. 2: Педикулез и фтириаз. — 2010. — 15 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6913-17-7.

### Неўрапаталогія. Неўралогія. Нервовая сістэма

Гончар, А. А. Дигитальная субтракционная ангиография в диагностике сосудистых поражений головного мозга / А. А. Гончар; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования. — Минск: БелМАПО, 2010. — 302 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-499-401-7.

Лазерная гемотерапия при ишемических цереброваскулярных заболеваниях (экспериментальные и клинические аспекты) / [Нечипуренко Н. И. и др.]; под редакцией Н. И. Нечипуренко. — Минск: Бизнесофсет, 2010. — 188 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6939-09-2 (в пер.).

### Гінекалогія. Акушэрства

Зайцев, В. Ф. Мастопатия, гинекомастия: аномалии развития: диагностика и лечение / В. Ф. Зайцев, Е. М. Банькова, В. В. Моисеенко. — Минск: Четыре четверти, 2010. — 109 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6981-02-2.

Кушнеров, А. И. Ультразвуковая диагностика злокачественных опухолей матки: учебно-методическое пособие / [А. И. Кушнеров, Л. Н. Васильева, О. Г. Дражина]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра ультразвуковой диагностики, Кафедра акушерства, гинекологии и репродуктивного здоровья. — Минск: БелМАПО, 2010. — 31 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-499-416-1.

Применение соногистеросальпингоскопии в диагностике причин бесплодия и невынашивания беременности: учебно-методическое пособие / [С. Л. Якутов-

## Што ядуць тышкаўцы?



Спецыялісты па беларускай этнаграфіі, даследчыкі традыцыйнага беларускага харчавання і проста аматары добра паесці атрымалі ў падарунак кнігу "Народная кухня тышкаўцоў", якая выдадзена пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза ў межах сумеснага праекта Праграмы развіцця ААН і Еўрапейскага Саюза "Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні".

Як стала магчымым такое арыгінальнае выданне? У свой час адзін з аўтараў кнігі, сённяшні загадчык кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтва гістарычнага факультэта БДУ Тадэвуш Навагродскі абараніў кандыдацкую дысертацыю па беларускай народнай кулінарыі XIX — пачатку XX стагоддзя. У апошнія гады да вывучэння праблемы харчавання далучыліся яго калегі Ірына Алюніна і Сцяпан Захаркевіч. Збор палявога матэрыялу ажыццяўляўся студэнтамі падчас правядзення традыцыйнай этнаграфічнай практыкі.

Кніга стала вынікам сумеснага праекта кафедры і Беларускага грамадскага аб'яднання "Адпачынак у вёсцы". Агульнымі намаганнямі яны заснавалі серыю "Кулінарныя традыцыі Беларускага Палесся". Сёлета адбылася прэзентацыя першай кнігі "Народная кухня маталян", створанай на аснове мінулагодняй працы ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. "Народная кухня тышкаўцоў" грунтуецца на звестках, сабраных у суседняй вёсцы Тышкавічы, і фактычна з'яўляецца працягам даследавання.

"Народная кухня тышкаўцоў" пачынаецца з дзвюх прадмоў: старшыні праўлення БГА "Адпачынак у вёсцы" Валерыі Кліцуновай і аўтараў кнігі. Завяршаецца тэкстам апытальніка, якім кіраваліся студэнты, і фотаздымкамі, сабранымі падчас палявой працы. Асноўны змест даследавання складаюць аповеды больш як васьмідзесяці жыхароў вёскі сталага ўзросту, запісаныя падчас трохтыднёвай практыкі. Прычым аўтары захавалі пры напісанні натуральную паляшуцкую гаворку. Прызнацца, апошні момант выклікае пэўныя сумненні. Фалькларыстам і лінгвістам такі прынцып несумненна будзе даспадобы. Шараговаму чытачу ён крыху ўскладніць успрыманне матэрыялу, але, упэўнены, не зможа перашкодзіць з задавальненнем пад'есці так, як харчаваліся яго прашчуры. Смачна есці!

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Хрысцінка



Юрась НЕРАТОК

## Офісная фантазія

Калі вы не рыцар, а звычайны законапаслухмяны грамадзянін, не марнуйце час на чытанне казкі. Няхай лепей яна, не абцяжараная кплівымі ханжаскімі каментарыямі, узнімецца на неба, ды там і завісне, як воблачка. Якое не абалье вас дажджом, а хоць абароніць ад спякоты. Нават калі не прачытаеце…

За трыма лясамі, за пяццю гарамі, за сямю марамі… Эх, чаго несці пустое! Тутачкі ў нас, у горадзе, усё заўсёды было, ёсць і будзе — куды падзецца?

У звычайнай сям'і, з добрымі і недурнымі бацькамі жыла дзяўчынка Хрысцінка. Прыгожае імя — маці сама выбрала. Не ў гонар Хрысціны Рычы. Тая хоць і нарадзілася трохі раней, аднак вядомасці пакуль не набыла. І бацька быў рады: "Толькі ў ЗАГС збегаў, а дачушцы як крыжык на шыйку пачапіў — такое імя прыгожае і знакавае!" Не лічыце тату за прымітыўнага чалавека — Хрысцінка ў сярэдзіне васьмідзесятых нарадзілася. Не тое, каб надта змрочны час, ды неяк не прынята было тады па храмах бегаць: дзяцей хрысціць і самім вянчацца. Ды і храмаў у горадзе менш, чым лыжак заціркі ў вядомым анекдоце…

Да трэцяга тысячагоддзя Хрысцінка авалодала толькі базавай адукацыяй — па ўзросце большае і не належала. Аднак пасля разгарнулася: па іншаземных мовах вышэйшы бал займела, а затым, калі работа ў школе не спадабалася (грошы ніякія, начальства чапляецца, дзеці — шумныя і нявыхаваныя), паспяхова скончыла сакратар-рэферэнцкія курсы. І ўладкавалася па рэкамендацыі да нафтаперагоннага магната ў дрэс-кантору на тысячу трыста чалавек. Ледзь не другой асобай у офісе была!

Ну, гэта яна так лічыла… А па фактычным раскладзе, па ўплыве на ход падзей, тым больш — па грашах, якімі рэальна даводзілася распараджацца, перад ёй тры чвэрткі арганізацыі стаяла. З улікам мантажнікаў, якімі яна чамусьці злёгку пагарджала.

Гэта не казка, а прыказка. Абставіны, завязачка. Так па літштампах належыць, каб чытача ачмурыць, за вушы прыцягнуць. Завязка-кульмінацыя-развязка, да чаго і сусветная сінема, асабліва бізнес-амерыканская, заклікае. Рускія традыцыі больш прадметныя: калі перад п'есай на сцэне дубальтоўку нават памылкова начапілі, то ў трэцім акце хоць у люстру, хоць у гледачоў карцеччу бабахні, набярыся смеласці для імправізацыі!

У нас сваё ай-кью, прашу прабачэння за паўкаламбур. Не стрэльне — і хай сабе. Абы ціха было. Няхай вісіць для антуражу!

Мала таго, што адносіны ў офісе не лепшыя, дык яшчэ некаму месца Хрысцінкі падалося цёпленькім і мёдам намазаным. Папярэдзілі, каб збіралася з рэчамі на выхад. А што нам, наёмным, збірацца? Якія ў нас рэчы? Шморгнуў носам — і да дзвярэй, астатняе не тваё — адразу папярэджвалі. Да канца не верыла Хрысцінка, усё працавала-шчыравала, спрабавала неяк перайграць ды інтрыжкі плесці. "Маўчанне ягнят" — трошкі не нашанскае, хоць бараноў у нас хапае, але часцей у пераносным сэнсе. А дзе вы бачылі, каб гаспадар адной курыцы галаву сек, а астатнія вакол сабраліся і хаця б непакоіліся? Збяруцца, вядома, потым. Вантробаў пакляваць…

І як скончыўся гадавы кантракт, заняла Хрысцінчына віп-крэсла іншая дзяўчына. Хто яна — Хрысцінка і не пацікавілася. Званілі потым, а яна выклікі скідвала, таму што нічога не хацела чуць. Бо быццам па галоўцы пыльным мехам лясянулі і памыямі аблілі. А затым нервовы псіхоз: дактары, халаты, шлёпанцы, навінкі-навіны. "Не ідэалізуйце жыццё, дзяўчына. Усё наладзіцца, па калене няўдалае… Усё перавалыцца-перамелецца, мука будзе". Ды так многа мукі і не патрэбна, здаецца…

Не зларадніча́йце, спадары, не казырцеся нервова-псіхічнай устойлівасцю! Адымі ў вас нядзельную чарку, яшчэ невядома, што з вамі стане. Усё да пары, бо за кожным плюсам мінус у дужках прытаіўся. Раскрыюцца дужкі, перамкне пераключальнік — і плюхнецеся ў лужыну. Не такіх асілкаў з ног збівала… Удумайцеся ў слова "чарка": чары — ад цёмнай энергіі.

Гэта была не мараль, а бакавое адгалінаванне, другасная лінія, каб асноўны тэкст успрымаўся аб'ёмна. А калі папросту: сказаў і сказаў!

Пасумавала пасля бальнічкі Хрысцінка з тыдзень. Усе старыя сувязі ўспомніла. А які толк? Працэнт бэйбуснасці ў равеснікаў застаўся ранейшым, толькі параспівацца паспелі многія. А мама з татам самі трасуцца, як старыя халадзільнікі: бацька — начальнік цэха на заводзе нейкіх там бульдозерных трансмісій — тры разы з сэрцам ляжаў, бо яму заўсёды неабходна зрабіць учора тое, што было патрэбна пазаўчора; маці — дацэнт псіхалогіі ва ўніверсітэце — кожны вечар на "калёсах": то паўстаўкі адабралі, то прэміяй абдзялілі, то на канферэнцыю не пусцілі. І абое на тых жа гадавых кантрактах. Гэта з іх трыццацігадовым стажам…

А затым як ажыла Хрысцінка. Праз родненькі компік рэзюме галубкамі па свеце разаслала: маўляў, такая-сякая-харошая шукае работу сакратара-рэферэнта ці перакладчыка. Пажадана, каб работа ў офісе на ўвесь працоўны дзень. Характар спакойны, ураўнаважаны. Валасы светла-русыя. Па знаку Задыяка — Шалі. Без ж/п (жыллёвых праблем, значыць).

Ох, бачылі б вы гэтыя Шалі шалёныя, калі яны ўласную маці муштравалі за перасоленую катлету! Нават бацька знямеў, хоць і сам перад з'яўленнем Хрысцінкі дзяжурна пабурчэў на якасць стратэгічнага прадукта: маўляў, раптам вайна, а я — галодны?

Не пра гэта казка. Пра катлеты — здымайце інфармацыю з тэлеперадач або кулінарных сайтаў: і пра пераселеныя, і пра перасмажаныя, і з мяса кенгуру, хоць і шкада тых скакунчыкаў. Ну, і ўсё ж ядзім братоў нашых меншых, бо біямаса ў нас велізарная — дзве траціны ад агульнапланетарнай, з улікам інфузорый у туфельках і босых. Разводзім, адкормліваем, забіваем, ядзім. І такой спіраллю — на вяршыню харчовай піраміды: фаўна — на біфштэкс, флора — на салату, хімія — на дэсерт. Во як высока ўзляцелі — тычкай не саб'еш! А хто няўежны, з таго шкуру здзяром…

Ух, разагнаўся! Заўсёды так: праўду вякнеш — ад казкі адыдзешся…

Уладкавалася на работу Хрысцінка з шостага заходу. Перадапошні раз зайшла ў офіс, а на дзвярах стужка пракурорская вісіць, хоць учора сазвоньваліся і дамовіліся быццам бы далікатна і канкрэтна. Заарыштавалі, відаць, нягоднічкаў за нешта.

Сакратаром-рэферэнтам уладкавалася, сама сябе аформіла, бо работа з кадрамі на ёй адразу і павісла.

А ў офісе ўсяго пяць чалавек. Ды дзесятак слесараў-зваршчыкаў-мантажнікаў у паўп'яным стане дзесьці за горадам штукараць дзівосы вытворчасці, якія Хрысцінка бачыць на каляровых малюнках у рэжыме слайд-шоу на компе менеджэра Юлькі. І за рэалізацыю гэтых цудаў-дзівосаў у офіс грошыкі падаюць. З іх трохі і Хрысцінцы перападае.

А тут хто? Нікога! Што тысяча трыста чалавек тады было, што пятнаццаць цяпер — нікога! Заснавальнік трэці раз жанаты — ад усіх жонак дзеці, усіх любіць, усім плаціць. Выканаўчы дырэктар, гадкоў трыццаць пяць, жанаты адзіны раз, але знаёмых маладзіц, пэўна, з паўсталіцы — амаль увесь працоўны дзень тэлефонным секс-трафікам заняты. Спрабаваў і Хрысцінцы руку на плячо пакласці — адшыла. Хаця чаёк падае…

Забеспячэнец Аляксеіч, тып за саракоўнік, пакручвае на пальцы ключы ад аўто. Зранку мычыць "Няма таго, што раньш было", а пад вечар утаропіцца ў Нэце ў эротыку і барытоніць: "Адгадаю з табой — аднаму мне не трэба! — нашы пяць нумароў з шасці!" Класна барытоніць, дарэчы. І ўсё, што з яго можна ўзяць. З жонкай пераспіць, дык фэйс шырэйшы за манітор. Бадзёры і жыццерадасны, як удачлівы купец. А вып'е з вечара трохі — зранку сумны і памяты, пра свае хваробы распавядае. Ну каму гэта цікава? У паліклініку шуруй і там расказвай!

Дызайнер Саша, што лічыцца на палову стаўкі, атрымлівае яшчэ менш, а з'яўляецца яшчэ радзей. І не робіць, можна сказаць, нічога. За апошні рэкламны буклет, акрамя намінала, запатрабаваў пятнаццаць лістоў баксавай "зелені". Пэўна, каб не палохаць заснавальніка рублёвай сумай. Хрысцінка ва ўніверсітэце, калі на платным вучылася, за тры дні падобнае рабіла. І за значна меншыя грошы. А навошта ў чужы бізнес улазіць?

Саша, можна сказаць, і нічога сабе, але да яго з парога на шыю кідаецца менеджэр Юлька. Затым яны выходзяць пакурыць і інтымна пагаварыць. Каханне там, зразумела, не начавала. У Юлькі муж — Махмуд Абасавіч, карэнны беларус. Аднак месца азначана — як бы не ўсунешся.

Тэхнолаг Андрэй Мікалаіч (за пяцьдзесят, пэўна) на дзяржпрадпрыемствах усё жыццё працаваў, а вось давялося да прыватніка "па-пластунску перапаўзці". "Чаго звольніліся?" — пытаецца Хрысцінка. "Хацелі з дзярмом зжэрці, але я выслізнуў, а дзярмо там і засталося. Няхай ядуць…" Мікалаіч кажа, што імя "Хрысціна" выдатна спалучаецца з сённяшнім статусам: "Хрыська — офісная "крыська". Святло, Інтэрнэт, туалет — неабходныя ўмовы для існавання офісных "крысек". Наш вытворчы працэс: прынтар, сканер, факс — сметніца! Аднак хто паклаў у архіў арганізацыі менш як пяць дакументаў за дзень — той лайдак і абармот! Пахаць-пахаць-пахаць! І яшчэ раз пахаць!… А што ў "Нафтахламе" не склалася — не пыхкай! Ты была безаблічным офісным планктонам, а цяпер стала Крыськай, не проста сакратаром – генеральным. Мы — канторка маленькая, у нас усе пасады знакавыя".

Знайшоў каго вучыць, паліт-інфарматар і агітатар! У мяне ўсё нумаруецца і падшываецца. А што "шарыкі" больш за цябе па маніторы ганяю — не мае праблемы: ведалі каго і навошта бралі! І вочы яшчэ — дзякуй Богу! Не тое, што ты: "Пад старасць у мартышкі вочы паслабелі…"

Бухгалтар Алена Міхайлаўна, якая прыходзіць час ад часу на палову дня, надзвычай бадзёра расказвае пра свае пяць смяротных хваробаў і пры гэтым гулліва пакручваецца перад Аляксеічам і Мікалаічам, хоць тыя да яе нічога, апроч дзяжурных кампліментаў з пазяханнямі, не маюць.

Яшчэ пра мужчын. Часам заходзіць Ігар. Здаецца, гэтая істота з нявызначанай арыентацыяй існуе ў дзесяці кантарах адразу. Дзяцей, праўда, любіць. Пры мне дзве кніжкі пляменнікам за пяцьдзесят штук купіў. Ніякі, бачна адразу, аднак на крайні выпадак падыдзе.

Прыходзіць яшчэ і перавозчык Віктар. Дакладней, гэта фірма ягоная, Віця — дырэктар. Лёгкі, спакойны чалавек, заўжды ўсміхаецца, нават калі мы не можам заплаціць яму за выкананыя перавозкі. З ім не важна, якія ў яго грошы, — важна, што ён ёсць, а грошы знойдуцца. Але ён жанаты і шчаслівы ў шлюбе, а калі меркаваць па нашай занядбанай канторы, якая яму ўвесь час вінавата, — і ў бізнесе.

Ён паважліва вітаецца за руку з Аляксеічам, калі той ёсць, і з Мікалаічам, які ёсць амаль заўсёды, мне — прыветна ўсміхаецца і ківае, менеджэра Юльку па-сяброўску буськае ў шчаку, якую яна падстаўляе (усюды гэтая Юлька). І дакументы для афармлення ёй жа перадае…. Пасля садзіцца насупраць выканаўчага дырэктара і падбароддзем з усмешачкай — уверх: маўляў, расказвай чарговую байку, годзе баб клеіць!

А Юлька, калі Віктар сыдзе, скрыпіць і крэхча, быццам ёй тону цэменту на горб ускінулі, а не тры паперкі, у якіх канцы з канцамі зводзяцца за паўгадзіны.

Праўда, ёсць яшчэ хлопец з вытворчасці: начальнік участка па штатным раскладзе. Бі-з-з-з-о-о-н! Неяк зайшоў у спартыўнай майцы па даўно зароблены грошы да заснавальніка. Цярпенне ў яго скончылася. З намі ўсміхаўся так прыгожа, гаварыў так складна і напорыста! А з заснавальнікам, калі той з'явіўся, — мур-мур-мур, сю-сю-сю, чыкі-пыкі! (З-за дзвярэй чутно было). Так ні з чым і сышоў дзівосы вытворчасці здзяйсняць. Ды яшчэ судзімасць у яго. Па бытавым артыкуле, праўда, і пагашаная. Ды ўсё роўна — адпадае без варыянтаў: мазгі, няйнакш, вараныя.

Вось і ўвесь расклад па мужчынах.

Так і жыве Хрысцінка ў офіснай норцы-канторцы. У цэнтры горада, на пятым паверсе над гандлёвым цэнтрам "Залатая капеечка". Дурні старарэжымныя яе ледзь не за "начнога матылька" лічаць, так гжэчна выглядае, калі з маршруткі на працу шпацыруе. Але ж мы з вамі Хрысцінку ведаем.

Здаецца, усё пры ёй, Хрысьцы, усе балы, што магчыма, сабрала, салярый і шэйпінг наведвае, адукацыя – вышэй няма куды, грошы нейкія больш-менш для дзяўчыны мае, а трыццатнік напаўзае… Астатняе — за вамі.

Нараджаць Хрысцінцы, рыцарства пара мужчынскае! Хопіць ёй у офісах "крысятнічаць". Самі бачыце, пра добрых людзей дзявулька пачынае блага думаць, а там і выказвацца пачне, сцярвознасць заесць! Пасля і выпіваць у адзіночку — прадказальна. Па сутнасці офісныя "крыські" ласкавыя, пяшчотныя і разумныя — ды не ўсё ж жыццё перад невядомым заказчыкам, якія і пазногціка Хрысцінчынага не вартыя, паласам персідскім рассцілацца і дэбілаватыя пісьмы – адказы на прэтэнзіі — сачыняць. Не марыце герцагіню, бо зняможа! Амлет яна гатаваць умее (а што там умець — плюхай яйкі з размаху на патэльню, толькі не прамахніся!), катлеты — мама навучыць (помню, што перасаліла — дробязі гэта). А грошы пакінеце (куды вам іх падзець — у вас фантазіі няма!), то купіць адпаведны прадукт, разагрэе мікрахвалькамі і прыгатуе вячэру, пакуль вернецеся з сур'ёзнай адказнай работы. Бо ў сапраўдных мужчын іншых работ не бывае — толькі сур'ёзныя і адказныя, хоць і аплачваюцца па-рознаму. А то і разам нешта стварыце, было б каханне. Ну, хоць пешшу, хоць падпаўзайце, быкі-мужыкі! Прыгрэе, калі спадабаецеся ды палюбіцеся, адкрыецца амаль уся, кветкай распусціцца! Адрас вы, можна сказаць, ведаеце. Ну там, над "Капеечкай" за таніраванымі шклянымі дзвярыма.

Што агітаваць, за свата сябе выдаваць? Нам здаецца, што мы жыццё разумеем, як быццам яго праект з намі Усявышні ўзгадняў. Ясна, каб былі сапраўдныя жаніхі, то і Хрысцінку ад безнадзейнасці не курчыла б. Павыбівала перабудовай, як вайной, хлапцоў: толькі параненыя ды кантужаныя засталіся. Аднак прарвёмся, інакш не бывала. Гасподзь стварыў нас не ідэальнымі, затое ўніверсальнымі. Тым і трымаемся, пакуль наш час.

Казка не гэтым павінна скончыцца. Зразумела, што шлюб павінен адбыцца, а затым — банальныя на першы несвядомы погляд будні, а насамрэч — сапраўднае жыццё. Казка канчаецца, калі рэальнае жыццё пачнецца. Прыедзе да Хрысцінкі царэвіч на белым "Бентлі" ці хоць на бэжавым "аўдзіку" (пацерпім нейкі час!), тады і казка скончыцца.

А наша справа — мёд-піва піць на вяселлі! А затым і на хрэсьбінах, калі запросяць, — не адмовімся, не святыя! За дзяцей Хрысцінчыных і пан Бог дазволіць! Калі здароўе будзе. А не — дык так пасядзім, ціха парадуемся. Клічце, радзімыя, пакуль дыхаю!



Мова джаза настолькі своеадметная, што для яе, здаецца, немагчыма знайсці асацыятыўныя паралелі ў вербальных ці візуальных відах творчасці. Джаз можна параўнаць з музыкай лірычнага верша, з тэмпераментам ліній віртуознага графічнага малюнка, з імправізацыйнай экспрэсіяй абстрактнага жывапісу або разняволенай пластыкай авангарднай скульптурнай кампазіцыі, але... Але джаз ёсць джаз. І якой жа нечаканасцю (нечаканасцю прыемнай!) сталася для яго прыхільнікаў і знаўцаў перажыванне знаёмага, ні з чым не параўнальнага, прыўзнята-ўзрушанага стану пад уражаннем чыста візуальных вобразаў. Прычым, вобразаў, створаных не з дапамогай найноўшых фота-лазерна-камп'ютарных тэхналогій, а сродкамі традыцыйнага для беларусаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.



# Музыка габелена

Выстаўку серыі габеленаў Марыі Барысенкі пад назваю "Джаз" наладзіла сталічная галерэя "Універсітэт культуры" ў межах маштабнага рэспубліканскага праекта "Зямля пад белымі крыламі". Прэм'ера незвычайнай джазавай сюіты, падтрыманая падчас вернісажу гучаннем жывой музыкі, выклікала цікавасць да творчасці аўтаркі. Марыя Барысенка — выпускніца кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва БДУКіМ, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможца Рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу ў намінацыі "Тканіны. Габелен. Мадэляванне". Творы маладой мастачкі знаходзяцца ў дзяржаўных і прыватных калекцыях Беларусі, Расіі.

Нізкай сваіх новых твораў, натхнёных любоўю да джаза, Марыя Барысенка пераканальна раскрыла неверагодную роднасць свайго такога, здавалася б, канкрэтнага, матэрыялізаванага мастацтва і надзямнога палёту эмоцый, спароджаных высокаарганізаванай музычнай імправізацыяй. "Сінкопы", "рыфы", "квадраты", "свінг", "драйв", "блюзавыя ноты" — многае з таго, што ёсць у джазе, аказваецца, можна перадаць рытмікай мудрагелістых спляценняў тканкі, стракатым каскадам ніцін, колеравымі акцэнтамі, супастаўленнем геаметрычных выяў, кантрастам фактур. Апроч традыцыйных тэхнік габелена, мастачка скарыстоўвае і сваю, аўтарскую, спалучаючы розныя віды традыцыйнай натуральнай і сучаснай сінтэтычнай пражы з абрэзкамі тканіны і футра.

"Марыя не абмінае ніводнага канцэрта джазавых выканаўцаў, што ладзяцца ў Мінску, — расказвае дырэктар галерэі "Універсітэт культуры" Дзяніс Барсукоў. — І хоць у самых назвах работ няма канкрэтных імёнаў, музыка Луі Армстранга, Рэя Чарлза, Бадзі Гая і нашага суайчынніка Аркадзя Эскіна прысутнічае ў яркіх колерах і пластычных вобразах яе габеленаў. Мастачка наўмысна не закранае гісторыю джаза, не робіць намёкаў на культавыя персоны, каб мы вастрэй адчулі пластычнае выяўленне музыкі



ды тых эмоцый, якія ўзнікаюць пад яе ўздзеяннем".

Кажуць, вучоныя вызначылі, што ў джазмена падчас імправізацыі працуе тая ж частка галаўнога мозга, якая актывізуецца ў чалавека, калі ён распавядае ўласную біяграфію. Такім чынам, джаз — аўтабіяграфічная з'ява, своеасаблівая музычная споведзь. Дык значыць, ствараючы свой бязгучна красамоўны "Джаз", Марыя Барысенка распавядала і пра сябе...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: габелены Марыі Барысенкі з серыі "Джаз".

Фота аўтара

# Шапэн сабраў сяброў

Фестываль камернай і духоўнай музыкі правёў у Жыткавіцкім раёне заслужаны калектыў краіны Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Гэта быў ужо шосты па ліку асветніцкі фэст "Тураў-2010". Прысвячаўся ён 1030-годдзю легендарнага Турава, 510-годдзю горада Жыткавічы, а таксама — сёлетняй сусветна значнай падзеі: юбілею класіка польскай музыкі, Году Фрыдэрыка Шапэна.



Традыцыйная імпрэза, якую музыканты аркестра зладкавалі ў гэтым гістарычным кутку Палесся пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта, Жыткавіцкага райвыканкама, Тураўскага гарадскога савета і Гомельскай абласной філармоніі, увайшла ў скарбонку тых падзей, якімі дзеячы айчыннага мастацтва падтрымліваюць сёлетнюю грамадска-культурную акцыю "Беларусь — гэта мы!".

У праграме доўгага фестывальнага дня былі майстар-клас для навучэнцаў Жыткавіцкай дзіцячай музычнай школы, праведзены прафесарам Мікалаем Волкавым, і прэм'ера праграмы "Палескія сустрэчы" ансамбля трубачоў "Інтрада", якім ён кіруе, а таксама прафесійныя заняткі мастакоў з юнымі тураўлянамі, якія захапляюцца маляваннем. Ладзілася выстаўка творчасці мясцовых народных умельцаў. Натхнёна выступіў заслужаны аматарскі калектыў, лаўрэат некалькіх конкурсаў і фестываляў — народны хор Тураўскага гарадскога Дома народнай творчасці пад кіраўніцтвам Васіля Птушко. Нагадаю, што гэты самабытны калектыў, якому сёлета споўнілася 65 гадоў і які захоўвае славутыя спеўныя традыцыі гомельскага Палесся, упэўнена і ярка дэбютаваў на такім фестывалі летась.

А дамінантай фестывалю, як заўсёды, сталі выступленні высакакласных музыкантаў, якія працуюць у структуры вялікага аркестра. Розныя па інструментальным складзе камерныя калектывы пад кіраўніцтвам Івана Брычыкава, Мікалая Волкава, Генадзя Забары, Антаніны Казловай, Наталлі Міхайлавай, Валерыя Сарокі, Уладзіміра Скараходава прадставілі арыгінальную праграму "Шапэн у коле беларускіх сяброў". Яна ўнесла ў атмасферу свята высокі творчы і пазнавальны дух. Нязменны навуковы каментатар асветніцкіх фестываляў Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава звяртае ўвагу на тое, што Фрыдэрык Шапэн, адметная постаць славянскага еўрапейскага свету, шчыльна звязаны са светам беларускім, бо ў сваіх творчых ідэях і жыццёвых варунках быў паяднаны з нашымі слыннымі суайчыннікамі, сярод якіх Адам Міцкевіч, Напалеон Орда, Мячыслаў Карловіч, Станіслаў Манюшка... Таму назва гэтага канцэрта можа ўспрымацца як нешта нязвыклае толькі чалавекам недасведчаным. А для аўдыторыі асветніцкіх фестываляў, якая слухае свежыя, адмысловыя аранжыроўкі твораў польскага генія ў кантэксце музыкі кампазітараў Беларусі XIX стагоддзя, у спалучэнні з даходлівым і захапляльным каментарыем вядучай, назва "Шапэн у коле беларускіх сяброў" гучыць зусім арганічна і хораша.

"Праз год старажытны Тураў, калыска беларускай культуры, высокай духоўнасці, зноў пакліча гасцей на асветніцкі фэст, — гаворыць мастацкі кіраўнік фестывалю, народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Фінберг. — Намаганнямі Нацыянальнага канцэртнага аркестра на працягу больш як 20 гадоў захоўваецца крэда нашага калектыву: адраджаць беларускую нацыянальную музычную спадчыну, вяртаць яе ў актыўны ўжытак, несці высокую музыку ў малыя гарады і пасёлкі Беларусі. Нас падтрымліваюць дзяржава, мясцовыя ўлады, усе рупліўцы айчыннай культуры. І ўсіх яднае адчуванне асаблівай адказнасці перад будучыняй за захаванне ўнікальных мастацкіх скарбаў, імкненне ўзнавіць страчаныя ці незаслужана забытыя старонкі айчыннай гісторыі, поўнай адметных здзяйсненняў у розных сферах творчай працы людзей, якія жылі на нашай, роднай і адзінай для ўсіх, беларускай зямлі".

С. Б.

На здымку: заслужаны артыст Беларусі Валерый Сарока за дырыжорскім пультам Камернага аркестра, што працуе ў структуры Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Фота Віктара Кавалёва

## Радуемся разам

Трэці тыдзень працягваюцца ў Мексіцы выступленні балетнай трупы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Гэта першыя гастролі калектыву ў далёкай лацінаамерыканскай краіне за ўсю яго гісторыю. Да 27 кастрычніка ў розных гарадах Мексікі, у больш як 20 тэатрах, беларускія артысты паказваюць спектакль "Дон Кіхот" на музыку Л. Мінкуса.

Лідар суполкі "Арцель" Рыгор Несцераў разам з калегамі-жывапісцамі прадставіў у сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва новы праект. Актуальная выстаўка пад назваю "SOS!" аб'яднала работы, наўпрост або апасродкавана звязаныя з экалагічнай праблематыкай, тэмамі абароны жывёл, аховы навакольнага свету, з гуманістычнымі матывамі — у самым шырокім сэнсе. Светлы, кранальны, безабаронны свет, увасоблены на палотнах арцелеўцаў, прасякнуты думкай пра хараство і разнастайнасць жыцця, у якім усе мы — Божыя стварэнні, роўныя перад прыродай, як дзеці перад сваёй адзінай матуляй.

XXVIII канцэртны сезон Полацкага Сафійскага сабора адкрылі госці з Мінска — Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Унікальная па акустычных вартасцях зала на 300 глядацкіх месцаў, вядомая сваім, адным з лепшых на тэрыторыі Еўропы, арганам штогод прымае праграмы лепшых музыкантаў краіны і свету. Што ж адметнага было ў сёлетнім канцэрце-адкрыцці? Упершыню знаёмыя палачанам сталічныя салісты прыехалі разам са сваім аркестрам. Яны бліскуча прадставілі прэм'еру праграмы "Чарадзейны свет аперэты", падрыхтаваную пад кіраўніцтвам дырыжора Юрыя Галяса і рэжысёра Ганны Маторнай. Прагучалі лепшыя нумары аперэтачнай класікі, неапалітанскія песні, аркестравыя п'есы Я. Штраўса. 16 лістапада гэты гала-канцэрт будзе паказаны ў Кобрыне.

"Скарбы Самурая" — назва выстаўкі, якая з 24 кастрычніка па 4 лістапада будзе працаваць у Аўтарскай галерэі Андрэя Асташова. Адзіная ў нашай краіне аўтарская галерэя скульптара, адкрытая летась у старажытным цэнтры сталіцы, гэтым разам прадставіць вынік працы вядомага творцы за год. Уключаныя ў экспазіцыю 18 скульптур — плён падарожных уражанняў А. Асташова. Ён зазначае: "Цэнтральная фігура тут — самурай-збіральнік калекцыі свайго духоўнага свету. Прадметы ў яго багажы не маюць матэрыяльнай каштоўнасці. Гэта хутчэй вытанчаныя забаўкі, якія мы зазвычай прывозім з далёкіх вандровак. Астатнія работы экспазіцыі больш дакладна раскрываюць свет уражанняў, перажыванні падзей, з якіх пэўныя адбываюцца зараз, у рэальнасці". Кампазіцыі ў бронзе, пазначаныя індывідуальным почыркам А. Асташова, заўсёды ўражваюць вытанчаным лірызмам, кранальнай чысцінёй вобразаў, глыбінёй філасофскіх падтэкстаў.



Лана ІВАНОВА

На здымку: Андрэй Асташоў "Самурайка ў шлеме".

Фота Віктара Кавалёва

# На сур'ёзнай «моладзевай хвалі»

Цудоўным падарункам да 15-гадовага юбілею спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі стаў цыкл канцэртаў, падрыхтаваны дырыжорам Вячаславам Бартноўскім пры ўдзеле стыпендыятаў і лаўрэатаў фонду. Імя Вячаслава Бартноўскага — дэкана музычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, дырыжора, педагога, члена Беларускага саюза музычных дзеячаў — добра вядомае аматарам класічнай музыкі ў нашай краіне і за яе межамі. Шмат гадоў ён актыўна ўлучае яркіх маладых таленавітых выканаўцаў у канцэртныя праграмы, адкрываючы новыя перспектывы як для саміх удзельнікаў, так і для слухачоў. Мы гутарым з маэстра як з аўтарам і арганізатарам праекта.



— Вячаслаў Віктаравіч, на ваш погляд, наколькі значная роля спецыяльных фондаў, якія падтрымліваюць маладыя таленты, у сучаснай музычнай культуры?

— Безумоўна, увага да адоранай асобы на самым высокім дзяржаўным узроўні вельмі важная. За 15 гадоў работы спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі даў магчымасць сотням маладых людзей рэалізаваць свае творчыя задумы, падтрымаў дзясяткі музычных калектываў, пачынаючы ад першых этапаў станаўлення майстэрства і да самых вяршынь прафесіяналізму.

Але ж нам ёсць чым ганарыцца! Гэта інтэлектуальны фонд айчыннай музычнай культуры і цудоўная прафесійная змена, якая расце ў нас на вачах. Поспехі адораных дзяцей і моладзі сёння ўражваюць: перамогі і дзясяткі ўзнагарод на самых прэстыжных міжнародных конкурсах, фестывалях, удзел у музычных падзеях сусветнага значэння.

— Задума вашага сумеснага з фондам праекта сапраўды ўражвае. Ахоп канцэртных пляцовак – Брэст, Магілёў, Маладзечна, Гомель, Гродна, Віцебск і Мінск, імёны выканаўцаў, разнастайнасць рэпертуару…

— Ідэя праекта заключаецца ў прыцягненні ўсіх рэгіёнаў Беларусі і стыпендыятаў фонду з самых розных куткоў Беларусі. Было вырашана правесці канцэрт у кожным абласным цэнтры, пры гэтым з салістамі выступалі як Дзяржаўны камерны аркестр, так і аркестры абласных філармоній. Я вельмі ўдзячны старшыні спецыяльнага фонду Ніне Мазай за падтрымку гэтай творчай ініцыятывы. Кульмінацыяй праекта стане снежаньскі гала-канцэрт у Белдзяржфілармоніі, у якім возьмуць удзел Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, Нацыянальная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы і лепшыя салісты, стыпендыяты і лаўрэаты фонду. Нам было вельмі важна паказаць, наколькі багата Беларусь талентамі, а гэта ж толькі малая іх частка.

— Сярод удзельнікаў юбілейнага праекта прадстаўлены як імёны ўжо добра вядомыя, так і таленты, якія толькі пачынаюць шлях.

— Сапраўды, да ўдзелу ў канцэртах былі запрошаны ўжо добра вядомыя сталічныя выканаўцы: саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Ілья Сільчукоў, скрыпачка Улада Беражная, цымбалістка Вераніка Прадзед, піяністы Павел Нетук, Аляксей Пшанічны, флейтыстка Юлія Шчасная. Але і ўсе рэгіёны прадставілі сваіх маладых музыкантаў. Кожны з іх атрымаў цудоўную магчымасць паказаць свой талент і знайсці свайго гледача, кожны канцэрт быў святам і для аматараў, і для прафесіяналаў. І думаецца, што выступленне нашых таленавітых хлопцаў і дзяўчат стала своеасаблівым імпульсам для тых, хто, можа быць, пакуль толькі марыў выступаць на сцэне, навучыцца іграць на інструменце або спяваць. Я прадбачу вялікую эстэтычную і выхаваўчую ролю гэтага праекта.

— Да таго ж, за выступленнем кожнага юнага музыкі, безумоўна, стаіць не толькі майстэрства яго педагога, але і дасягненні выканальніцкіх школ?

— Сёння, кажучы пра традыцыі айчыннай музычнай адукацыі, мы ўяўляем вялізны айсберг — плеяду выдатных педагогаў, якія выхавалі новыя імёны. Але не варта забывацца пра значнасць настаўніцкай працы не толькі ў сталічных школах, але і на перыферыі. І часта інтуітыўнае пачуццё педагога ў пошуку таленавітых дзяцей аказваецца лёсавызначальным. Неад'емнай часткай гэтага нярэдка ювелірнага працэсу з'яўляюцца творчыя сустрэчы, сумесныя канцэрты, "круглыя сталы" і іншыя формы абмену досведам. І мушу падкрэсліць, што вялікую ролю ў творчым кантактаванні музыкантаў Беларусі адыгрывае Беларускі саюз музычных дзеячаў. На працягу больш як 20 гадоў гэтае грамадскае аб'яднанне арганізоўвае канцэрты, фестывалі, музычныя вечары, якія аб'ядноўваюць сотні дзеячаў прафесійнай музычнай культуры самых розных напрамкаў.

Многія нашы слухачы памятаюць цудоўны святочны канцэрт у зале Белдзяржфілармоніі, прымеркаваны да 20-гадовага юбілею БСМД: удзельнічалі і вучні, і іх настаўнікі, прагучалі прэм'еры твораў беларускіх кампазітараў. Да таго ж, мы не павінны забывацца пра тое, што дзеячы саюза, у першую чаргу, з'яўляюцца педагогамі нашых салістаў-стыпендыятаў і лаўрэатаў фонду: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Уладзімір Няхаенка, народны артыст Беларусі прафесар Яўген Гладкоў, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар Барыс Нічкоў, прафесар Эдуард Кучынскі і шэраг іншых.

Нам ёсць чым ганарыцца! Гэта інтэлектуальны фонд айчыннай музычнай культуры і цудоўная прафесійная змена, якая расце ў нас на вачах. Поспехі адораных дзяцей і моладзі сёння ўражваюць: перамогі і дзясяткі ўзнагарод на самых прэстыжных міжнародных конкурсах, фестывалях, удзел у музычных падзеях сусветнага значэння.

— Але ж гэта не першы праект, у які вы прыцягваеце маладых выканаўцаў?

— Так, мяне заўсёды прываблівала ідэя адкрыць для слухача новыя імёны. На працягу шэрагу гадоў ужо было здзейснена некалькі праектаў. У тым ліку канцэрты ў Варшаўскай філармоніі з удзелам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі і нашых выдатных выканаўцаў трубача Андрэя Кавалінскага і піяніста Андрэя Паначэўнага. (Нагадаю, што А. Паначэўны з'яўляецца лаўрэатам конкурсу імя П. Чайкоўскага. — Н. Г.). Вялікі рэзананс атрымалі тэматычныя канцэртныя праграмы Мінскага сімфанічнага аркестра "Калегіум музыкум" пад назвай "Музычныя ансамблі ў экспазіцыях Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь", цыкл канцэртаў "Духоўнае адраджэнне на парозе трэцяга тысячагоддзя" і многія іншыя.

Не варта забывацца пра значнасць настаўніцкай працы не толькі ў сталічных школах, але і на перыферыі. І часта інтуітыўнае пачуццё педагога ў пошуку таленавітых дзяцей аказваецца лёсавызначальным. Неад'емнай часткай гэтага нярэдка ювелірнага працэсу з'яўляюцца творчыя сустрэчы, сумесныя канцэрты, "круглыя сталы" і іншыя формы абмену досведам.

— Відаць, асаблівую ролю ў гэтым працэсе адыгрывае ваша праца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў?

— Так, я з'яўляюся дэканам музычнага факультэта БДУКіМ, пастаянна працую з моладдзю. Яе праблемы і творчыя дасягненні — неад'емная частка майго жыцця. Я адчуваю сябе абсалютна на "маладзевай хвалі", ды і самі студэнты нярэдка здзіўляюцца: маўляў, адкуль вы так добра ведаеце тое, што нас хвалюе? Працуючы ва ўніверсітэце ўжо больш як 30 гадоў, я прайшоў самыя розныя этапы педагагічнай і адміністрацыйнай дзейнасці і ведаю пра розныя праблемныя сітуацыі не паводле чутак. Я прыкладаю ўвесь свой досвед, каб узняць узровень музычнага выхавання студэнтаў на патрэбную вышыню. І адным са стратэгічных кірункаў лічу ўзмацненне педагагічнага складу калектыву. У нас на факультэце працуюць яркія музыканты, выканаўцы, якія ў лепшых адукацыйных традыцыях з'яўляюцца "іграючымі трэнерамі". Мы адзіная ВНУ ў краіне, якая навучае ў галінах эстраднай музыкі і народнага мастацтва, а гэта вялізная ніша ў нацыянальнай музычнай культуры, якая вымагае высокапрафесійных кадраў.

Я перакананы, што "першая палова" высакакласнага музыканта закладаецца пры нараджэнні і далейшым выхаванні, але наступныя 50 працэнтаў з'яўляюцца вынікам працы настаўніка. Асабіста для мяне прафесійная школа, пройдзеная ў Ленінградскай дзяржаўнай кансерваторыі імя М. Рымскага-Корсакава, і веды, атрыманыя ў майго педагога, дырыжора, прафесара Г. Ярэжэмскага, аказаліся наймацнейшым падмуркам і бясконцай крыніцай, з якой я да гэтага часу атрымліваю адказы на шматлікія прафесійныя пытанні.

— Але не будзем утойваць, што ў сучасным грамадстве прафесія музыканта па-ранейшаму ўспрымаецца з насцярогай…

— Нягледзячы ні на што, я веру, што цяжкасці самага рознага паходжання можна пераадолець. Для нас, педагогаў, перш за ўсё неабходна перадаць моладзі надзею на тое, што мастацтва ратуе, што можна быць адданым прафесіі і атрымліваць ад гэтага немалыя дывідэнды, што можна любіць і не губляць захаплення штодзённай, часта вельмі нялёгкай працай. І мне б вельмі хацелася бачыць усё большую колькасць людзей самых розных сацыяльных узроўняў, уцягнутых у працэс атрымання асалоды ад музычнага мастацтва.

Нягледзячы ні на што, я веру, што цяжкасці самага рознага паходжання можна пераадолець. Для нас, педагогаў, перш за ўсё неабходна перадаць моладзі надзею на тое, што мастацтва ратуе, што можна быць адданым прафесіі і атрымліваць ад гэтага немалыя дывідэнды, што можна любіць і не губляць захаплення штодзённай, часта вельмі нялёгкай працай.

— А што для вас значыць паняцце "музыкант-прафесіянал"?

— Маё выкладчыцкае крэда заключаецца ў тым, што неабходна развіваць спачатку мастацка-вобразную галіну музіцыравання. Акрамя таго, музыкант павінен добра разбірацца ў музычных стылях, асаблівасцях музычнай формы, гармоніі… Для дырыжора — гэта абсалютнае веданне магчымасцей аркестра і любоў да музыкі, у першую чаргу, у самім сабе — больш за любоў да сябе ў музыцы. Тут можна шмат пералічваць спецыфічных кірункаў, але яшчэ важна быць высокаадукаваным чалавекам, які цікавіцца рознымі відамі мастацтва.

— Ці не маглі б вы падзяліцца сваімі марамі і прачыніць перспектывы развіцця аналагічных праектаў з удзелам маладых музыкантаў?

— Так, і гэтыя перспектывы неабдымныя. Спадзяюся, што здзейсніцца ідэя арганізаваць аб'яднаныя канцэрты ў садружнасці з фондамі па падтрымцы розных краін, шматпрофільныя праекты з прыцягненнем прафесіяналаў з самых розных галін мастацтва. Мне вельмі блізкая ідэя прадставіць на сцэне творчыя дыялогі "Настаўнік — вучань". Планаў сапраўды вельмі шмат… Ну, а наперадзе — кульмінацыя цяперашняга праекта, фінальныя фанфары маладых талентаў Беларусі ў сталічнай філармоніі.

Наталля ГАНУЛ,
кандыдат мастацтвазнаўства

На здымку: за дырыжорскім пультам — Вячаслаў Бартноўскі.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адказа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.

Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# VІТАць жыццё!

Не мной было заўважана, ды і неаднойчы паўторана, што ў сучаснай беларускай паэзіі цэнтр раўнавагі ў пазнанні свету пасунуўся ў кірунку ад пачуццяў да розуму. Аўтары лірычных тэкстаў усё часцей разважаюць над рэаліямі рэчаіснасці, першавытокамі з'яў, адметнасцямі чалавечай свядомасці, вынікамі людскіх учынкаў у будучым. Другой неад'емнай рысай сённяшняй лірыкі, дакладней, яе агульнага тону, называюць плач, енк, стогн ці, карыстаючыся літаратурнай тэрміналогіяй, "элегічнасць гучання", "трагічнасць светаадчування" чалавека мяжы тысячагоддзяў. Тым не менш варта зазначыць, што апошняе якраз неўласціва паэтам інтэлектуальна-медытатыўнага кірунку. Творчасць многіх сучасных пісьменнікаў гэтай плыні прываблівае сваім віталізмам, прагай да жыцця як першакрыніцы існага.

Адным з самых яркіх паэтаў-аптымістаў, дэвізам якога можна смела назваць: "Не згінаца перад выпрабаваннямі часу," — з'яўляецца Л. Дранько-Майсюк (зб. "Тут", "Акропаль", "Стомленасць Парыжам"). І хоць панецце шчасця, як вядома, індывідуалізаванае, тым не менш, яно мае агульныя кропкі судакранання для кожнага: жыццё – найвялікшы дар. Лірычны герой паэта-жыццялюба заклікае:

Смутак агорне — кветкі рві,
Кветак не будзе — траву;
Як выпадае, так і жыві,
І не схіляй галаву.
("Смутак агорне — кветкі рві…")

У гэтай філасофскай сентэнцыі, відавочна, заключаны вітальны сэнс. Кожны чалавек адказвае за абраны ім шлях, за тое, багаты ён ці збеднены, бо сярод тысячы сэнсаў і выбараў ёсць толькі адзін — вялікі і вечны. Лірычны герой не скараецца абставінам. Ён верыць у дапамогу звышматэрыяльнага, хоць шчырым вернікам назваць яго цяжка. Паэт даводзіць:

Трэба цешыцца з таго:
Здрада мае нюх сабачы…
Бог паможа, хоць яго
Сапраўды ніхто не бачыў.
("Трэба цешыцца з таго…")

І калі ў любоўнай лірыцы Л. Дранько-Майсюка вітальная канцэпцыя зводзіцца да сцвярджэння геданізму, то філасофская паэзія аўтара застаецца да канца шчырай, прасветленай, настроенай на чысціню і дабрыню. Маральнае не саступае месца матэрыяльнаму. Аўтар даводзіць, што вяршыняй аксіялагічнай сістэмы чалавека павінна быць душа, нятленная, вечная:

Здаецца, нічога не будзе
З таго, што ў пясок адышло, —
Хіба што душа ў перапудзе
Хоць нейкае знойдзе святло.

Несумненна, што вітальны пачатак пераважае і ў паэзіі А. Разанава. Яго імя ўжо даўно стала сімвалам эксперыментатарства і творчага пошуку. У аснову творчасці паэта пакладзена своеасаблівая гульня з тэкстам, у якім кожны мікраэлемент важны, у якім кожнае слова — адметны свет, у якім кожная рэч жывая. У паўсядзённым жыцці рэчамі прынята лічыць нешта матэрыяльнае, канкрэтнае, што мае толькі прадметнае значэнне. Але ж пад пяром А. Разанава яны паўстаюць у іншай праяве, сакралізуюцца. Да рэчаў можна аднесці і душу, і пачуцці, якімі, у сваю чаргу, надзелены ў яго мастацкім свеце і прадметы побыту:

Натура свечкі — самаахвярнасць:
Яна "нявечыцца"
дзеля бліжніх, нічога
не пакідаючы сабе, і таму ёй, як
чароўнаю кветкай
вянчаецца рэчаіснасць…
("Свечка")

Вобраз душы праз яе прадметнае ўвасабленне ў выглядзе свечкі, якая "нявечыцца дзеля бліжніх", суадносіцца са сцвярджэннем хрысціянскай маралі і сімвалізуе пакутніцтва, самаахвярнасць. Аднак канцэпцыя жыццесцвярджэння ў лірыцы А. Разанава мае не толькі біблейскія вытокі. У большай ступені тут адчуваецца ўплыў усходняй філасофіі, і не толькі праз матыў рэінкарнацыі: жывое можа страціць свае вітальныя якасці без унутранага стрыжня-душы, і, наадварот, на думку аўтара, мёртвае з цягам часу можа ажыць:

Там, дзе ён пабывае,
Жыццё адраджаецца
навать з прысаку,
Нават з жуды.
("Дождж")

Глыбокая, філасафічная лірыка Г. Дубянецкай (зб. "Анадыямена") таксама ўяўляе сабой яскравы прыклад увасаблення віталістычных матываў. Для найбольш яскравай характарыстыкі навакольнага асяроддзя аўтарка стварае ўласнае "іншабыццё", "фальшрэальнасць" ("каханне-нялюбасць", "сон-яву"). Г. Дубянецкая факусіруе свой погляд на парадаксальным каханні-нялюбасці, на перапляценні і сутыкненні эмацыйных супрацьлегласцей, нават крайнасцей, на адсутнасці сапраўднай, глыбіннай блізкасці — пры наяўнасці інтымнасці. Аўтарка асвойвае адмысловы варыянт сыходжання-разыходжання, спецыфічную разнавіднасць паводзін, феномен жыццябудавання па-за межамі матэрыяльнага жыцця, у прасторы кахання. Розныя мадыфікацыі створанай паэткай рэальнасці (свет сну, любові і інш.) чаргуюцца ў залежнасці ад наяўнага ў вершы дамінантнага эмацыйна-псіхалагічнага стану. Праз здзіўленне і ўсхваляванне, захапленне і расчараванне, здабыткі і страты лірычная гераіня прыходзіць да жаданага прасвятлення, дасягае разумення, што жыццё не вартае без кахання: "мой любы дамавіну мне зрабі // з рук тваіх".

Мэты і сэнс жыцця, карэляцыя феноменаў быцця і асобы — цэнтральныя праблемы ў інтымна-філасофскай лірыцы Г. Дубянецкай. Па сутнасці, гэта рытарычныя пытанні, якія, на думку паэткі, не маюць адназначнага, яснага адказу.

і памкнешся кудысьці
і зноўку закружаць блуканьні
і ніводны ніколі
дарэшты не спраўдзіцца сон.

Сон-мара, пра які піша Г. Дубянецкая, не спраўджваецца, бо з'яўляецца пераходнай з'явай, у аснову якой пакладзены звышматэрыяльныя характарыстыкі "іншасвету" і фізічныя характарыстыкі ўласна быцця, сапраўднай рэчаіснасці. Часам мары падмяняюць сабою думкі. Гэта пэўным чынам перашкаджае лірычнай гераіні, бо там, дзе ад яе патрабуюцца развагі, яны нярэдка саступаюць марам. Паступовасць рэальных падзей, іх будзённасць рэзка кантрастуюць з бязладдзем сну — ідылічнай сферай існавання. Яркасцю і насычанасцю гэты арэал нагадвае своеасаблівую казку: "Сьцякалі ў сон // Зьблелыя лугі…". Натуральна, што побач са скразным вобразам сну ў лірыцы Г. Дубянецкай з'яўляецца іншы — ночы. Відавочна, што ноч надзелена якасцямі ажыўляць, яна "зашэптвае мёртвыя раны". Матыў смерці-ўваскрэсення гучыць і ў вершы "Тонкаю ўсьмешкаю":

Тонкаю ўсьмешкаю
Квадра апошняя
Люстрыцца ў цемры вытокаў
Лёт засьляплёны
Між сьмерці-ўваскрошання
Жар дарагіх апёкаў.

Апошні радок яшчэ раз пацвярджае, што, аддаючыся ў палон каханню, лірычная гераіня не страшыцца пакут.

Віталізм як канцэптуальная аснова паэзіі Г. Дубянецкай не тоесны, аднак, абсалютнаму аптымізму. Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца верш "Вар'яцыя" (ужо ў назве прадэманстравана майстэрская гульня сэнсамі): "Лесьвіца вяла не да сьвятла…". Лірычная гераіня крочыць па прыступках у пошуках сапраўднасці, але не можа яе адшукаць. Увогуле, гнасеалагічныя матывы — скразныя ў лірыцы аўтаркі:

…о толькі
дзе жывое сапраўднасць адкажы
не на крыжы.

Можна ўпэўнена гаварыць, што ў сённяшняй паэзіі, і не толькі філасофскай, вітальныя матывы набываюць усё большую папулярнасць. Здольнасць часу матэрыялізавацца праз разбурэнне жывога, даводзяць аўтары, — не заканамернасць, а немагчымасць чалавека рацыянальна карыстацца жыццём.

Анатоль БАРАНОЎСКІ

## Філолагу на паліцу



Мішчанчук, М. І. Класіка — сучаснасць — перспектывы: пра літаратурны працэс ХХ стагоддзя : манаграфія / М. І. Мішчанчук; навук. рэд. З. П. Мельнікава. — Брэст : БрДУ імя А.С. Пушкіна, 2009. — 188 с.

Гісторыя беларускай літаратуры сённяшняму прафесійнаму і нават проста зацікаўленаму чытачу бачыцца гісторыяй пераадолення, якая літаральна на ўсіх этапах развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства разгортваецца строга насуперак "абставінам" (сацыякультурным, эстэтычным, мастацкім). І справа не толькі ў супрацьстаянні "знешнім" перашкодам: "Адносна беларускай літаратуры да таго ж склаўся стэрэатып пра яе фальклярызм, аднастылёвасць (рэалістычнае пісьмо), пэўную "адгароджанасць" ад еўрапейскага літаратурнага працэсу, адставанне ад слоўнага мастацтва народаў-суседзяў, асабліва рускага і польскага, у плане авалодвання прыёмамі мадэрнісцкага і постмадэрнісцкага пісьма, "адкрытага" фармальным і змястоўным пошукам", — зазначае ва "Уводзінах" да сваёй манаграфіі "Класіка — сучаснасць — перспектывы", прысвечанай літаратурнаму працэсу ХХ стагоддзя, вядомы літаратуразнаўца і педагог, доктар філалагічных навук, прафесар Мікалай Мішчанчук.

Кніга, якая пабачыла свет у мінулым годзе і традыцыйна сціплы для навуковых выданняў наклад якой (100 асобнікаў) супярэчыць яе значэнню для сучаснага беларускага літаратуразнаўства, падаецца надзвычай важкім контраргументам супраць згаданага стэрэатыпа. Змест яе чатырох раздзелаў ("Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч — святло вяршынь", "Проза Максіма Гарэцкага і Кузьмы Чорнага: сістэма эстэтычных каштоўнасцей", "Пошукі працягваюцца: жанрава-стылёвая шматграннасць паэзіі ХХ стагоддзя", "Магчымасці сатыры") дазваляе прасачыць эстэтычную і мастацкую эвалюцыю беларускай літаратуры ў ХХ стагоддзі, спецыфіку засваення класічных традыцый нацыянальнага і еўрапейскага прыгожага пісьменства, асаблівасці ўрэчаўлення прынцыпаў мадальнай паэтыкі і г.д. Плёнам творчага асэнсавання даследчыкам таго складанага шляху, які прайшла ў сваім развіцці беларуская літаратура, становіцца сцвярджэнне канцэпцыі жанрава-стылёвай поліфаніі беларускага слоўнага мастацтва ХХ стагоддзя. Паводле М. Мішчанчука, "беларуская літаратура сёння — адна з самых развітых у свеце"; пазбавіўшыся "павоя традыцыйнасці, сялянскасці, спрошчанасці", яна "авалодала прынцыпамі адкрытага пісьма — мадэрнісцкага і постмадэрнісцкага", але не ахвяравала гуманістычнай скіраванасцю, захавала гармонію думкі і пачуцця, зместу і формы: "Традыцыйнае ў ёй з'яўляецца стрымліваючым фактарам эксперымента без берагоў, грунтам з'яўлення і ўмацавання наватарскага".

У радках, якімі падсумоўваецца "Заключэнне" манаграфіі, канцэнтруецца ўнутраная перакананасць аўтара ў вітальнай сіле нацыянальнага прыгожага пісьменства, якая вызначае танальнасць кнігі ў цэлым. Ці не таму пасля знаёмства з манаграфіяй М. Мішчанчука застаецца ўражанне, што жыццёвым ды творчым аптымізмам тут змогуць наталіцца не толькі выкладчыкі, аспіранты, студэнты філалагічных факультэтаў ВНУ, настаўнікі-славеністы, але і любы homo samoticus ("чалавек самотны"), нават калі ён катэгарычна не цікавіцца праблемамі развіцця беларускай літаратуры.



Андреев, А. Н. Теория литературы: учебник. В 2 ч. / А. Н. Андреев. — Минск : Изд-во Гревцова, 2010.

Творчая актыўнасць Анатоля Андрэева — і ў якасці тэарэтыка літаратуры, і ў якасці "персанажа" літаратурнага працэсу, аўтара шэрагу раманаў, аповесцей, апавяданняў, — адных радуе, другіх бянтэжыць, трэціх падштурхоўвае да палемікі, але абыякавым не пакідае, бадай, нікога.

Калі доктар філалагічных навук, прафесар, аўтар незлічонай колькасці манаграфій, падручнікаў, артыкулаў, рэцэнзій, кідаецца на злом галавы ў вір арыгінальнай літаратурнай творчасці і паўстае перад чытачом у ролі "безабароннага" празаіка (мастака ў нас пакрыўдзіць кожны можа!), ён мусіць быць гатовы да таго, што далей дзея будзе разгортвацца паводле сцэнарыя "валачэ воўк — павалакуць і ваўка". А калі выпадзе рэдкая ўдача і ўдасца змясціць мастацкі твор аўтара ў "анатамічны тэатр" распрацаванай ім жа тэарэтыка-літаратурнай канцэпцыі, — відовішча будзе ўнікальнае!..

Наколькі можна меркаваць па новай кнізе А. Андрэева, ён з нязменнай вытрыманасцю ставіцца і да праяў унікальнасці, і да выяў банальнасці. Прычым захоўваць раўнавагу ў зносінах і з "натурай", і з "культурай" (яны паўстаюць своеасаблівымі "полюсамі" і адначасова важнейшымі вобразамі-канцэптамі не толькі ў тэарэтычных, але і ў літаратурна-крытычных працах, і нават у празаічных творах гэтага аўтара) яму дапамагаюць непахісная вера ў розум і блізкае сяброўства з парадоксам.

Так, выдадзеная не так даўно "Теория литературы" паводле фармальных і змястоўных прыкмет можа ўважацца за падручнік — адмысловы. Матэрыял у ім размеркаваны па двух частках. Першая — "Художественное произведение" — утрымлівае агульную характарыстыку асноўнай літаратуразнаўчай праблемы, аўтарскае бачанне метадалогіі цэласнага аналізу літаратурнага твора; тут дэталёва разглядаецца шматузроўневая структура твора, прапануецца арыгінальнае асэнсаванне праблем генезісу, а таксама вызначэння крытэрыя мастацкасці літаратурнага твора. Другая частка — "Художественное творчество" — змяшчае чатырнаццаць артыкулаў, размеркаваных па раздзелах "Художественное творчество как предмет научного изучения", "Объект и предмет литературы и литературоведения", якія (парадаксальным усё ж чынам!) выконваюць функцыі і "ўтылітарныя", і "эстэтычныя" з аднолькавай эфектыўнасцю. Яны з поспехам могуць выкарыстоўвацца ў якасці "практыкума", зборa ілюстрацый да тэарэтычных меркаванняў ды выснаў першай часткі. З не меншым поспехам гэтыя тэксты функцыянуюць як творы: артыкулы А. Андрэева паўстаюць "творамі-з-нагоды-твораў" і могуць смела сапернічаць з узорамі мастацкай эсэістыкі ці прозы (прынамсі, паводле арыгінальнасці сюжэтных хадоў і стылёвых знаходак): "Владимир Набоков справедливо считается одним из тех писателей, кому удалось различить Красоту со Смыслом…"; "Набоков — провозвестник и знак гибельной "культурной" ориентации. Сегодня пустота, зашифрованная под стильность и эстетику, считается собственно культурой, художественностью как таковой. Самое впечатляющее ее проявление, конечно, — это TV. <…> Элитарный Набоков как предтеча массового TV — в высшей степени актуальная тема. Набоков находится в одном ряду с "черным квадратом", только в противоположном конце этого разношерстного ряда".

Словам, "абавязкі" тэорыі і практыкі творчасці (навуковай ды мастацкай) у новай кнізе А. Андрэева размеркаваны настолькі рацыянальна, што гэты пралічаны "шлюб", як гэта ні парадаксальна, абяцае быць шчаслівым — наколькі ўвогуле "шчасце" дасягальнае для падручніка па тэорыі літаратуры.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Паходня з пірэнейскіх скал

## Перачытваючы паэму Валянціна Таўлая «Таварыш»



Хто такі Валянцін Таўлай — як паэт, як асоба — я пачаў разумець у свае васямнаццаць, студэнтам. Стаяла лета 1946 года. Як часта тады было, я сядзеў у вялізнай чытальнай зале рэспубліканскай бібліятэкі, тады яна называлася Ленінскай, месцілася ў старым будынку на Чырвонаармейскай вуліцы. Перада мной разгорнуты быў свежы нумар часопіса "Беларусь".

Сёння, мусіць, нялішне прыгадаць, што сорак шосты — першы год па заканчэнні найстрашнейшай для нашай Бацькаўшчыны вайны. За вокнамі бібліятэкі чарнелі неразабраныя яшчэ рэшткі зруйнаваных у вайну камяніц. Універсітэцкі мой прыяцель, што сядзеў поруч, апрануты быў у выгаралую вайсковую гімнасцёрку, і яе левы рукаў быў пусты, засунуты пад рамень. Усё нагадвала пра суровыя выпрабаванні. Аднак прачытанае ў часопісе развярэдзіла ўва мне пачуццё, якое хочацца назваць азначэннем з неўміручай святлоўскай "Грэнады" — "испанской грустью".

Дык вось уражаны я быў прачытанай у часопісе паэмай, герой якой, малады заходнебеларускі камуніст, у турэмным зняволенні часоў міжваеннай Польшчы, калі заходняя частка Беларусі была "ўсходнімі крэсамі" Рэчы Паспалітай, знясілены хваробай трызніць неабходнасцю і свайго ўдзелу ў баявых дзеяннях за далёкімі Пірэнеямі.

Загадай, Даларэс Ібаруры,  
каб ні кроку болей назад!..  
Я прыйду,  
я паспею да штурму  
на чале беларускіх брыгад.

Блізка дзесяці гадоў, поўных грымотных падзей, прамінула ад дзён, калі імя палымянай Далорэс Ібаруры, правадыра іспанскіх камуністаў, было на вуснах усёй планеты, да дня, калі ўпершыню прачытаў я паэму з працытаванымі радкамі. А ўзрушаны быў прачытаным, быццам хвалюючым аповедам пра нядаўняе. Сэрцасціскальнае, яно далучылася ўва мне да помнага са школьнага дзяцінства. З пары, калі прагна вышукваў у газетах тасаўскія паведамленні пад назвай "На франтах у Іспаніі". Калі насіў, як многія з дзятвы ды і дарослыя, пілотку з кутасікам, што называлася "іспанкай", бо перанята была з формы іспанскіх рэспубліканскіх ваяроў. Калі, бачачы тое з выпуску ў выпуск кінахронікі, хлапчукі і ў нас віталіся, як іспанскія антыфашысты, уздымам рукі са сціснутым кулаком і крылатымі словамі Далорэс: "Но пасаран!" — "Яны не пройдуць!".

Колькі разоў пасля таго я перачытваў паэму і заставаўся пад неаслабным уражаннем ад яе. Безыменны герой твора, які ў стане трызнення ірвецца на бой з франкісцкай фалангай "на чале беларускіх брыгад", стаў для мяне ў адзін шэраг з існымі сынамі Беларусі, што тады палічылі сябе пакліканымі Іспаніяй на дапамогу. Такімі, як, да прыкладу, услаўлены не адным пісьменніцкім пяром Мікалай Дворнікаў.

Над турмой —  
неспакойныя думы  
і мадрыдскія сны плывуць...  
Знемагае душа ад глуму —  
па-іспанску трымай галаву!

Знаўцам беларускай паэзіі зразумела: сказанае тычыцца паэмы Валянціна Таўлая "Таварыш".

Таўлая, на якога пасля знаёмства з "Таварышам" я пачаў глядзець іншымі вачыма.

А мне выпала неаднойчы зблізку яго бачыць, вітацца з ім.

У той самы год, як я стаў студэнтам універсітэцкага аддзялення журналістыкі, пачаўся і мой рабочы журналісцкі стаж. Пашанцавала быць узятым на працу ў рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва". Пры пасляваеннай паўразбуранасці горада рэдакцыя тулілася ў адзіным пакоі ў тагачасным будынку радыёкамітэта на Рэвалюцыйнай вуліцы. І да каго б з супрацоўнікаў ні заходзіў наведнік, ён бываў у полі зроку ўсіх, хто знаходзіўся ў пакоі.

Таўлай забягаў сюды як жаданы аўтар. Менавіта забягаў, заўсёды спяшаючыся некуды яшчэ. Ён намеснічаў тады ва Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, жонкі вялікага песняра, дырэктаркі на той час новага, падсуседжанага да ўстаноў у ацалелым чатырохпавярховіку на плошчы Свабоды, музея Янкі Купалы. Цёця Уладзя, як называлі яе ў пісьменніцкім асяроддзі, была жанчынай найдабрэйшай, клапатлівай, але дырэктаркай трошкі аўтарытарнай. Не падабалася ёй, калі бачыла ў падначаленага

Ведаючы, наколькі неспагадлівым быў да яго лёс, з прыкрасцю паціснуў плячыма, як прачытаў у адным календары "Родны край" 2004 года ў лістку за 8 лютага: "90 гадоў з дня нараджэння В. П. Таўлая (1914 — 1978), народнага паэта Беларусі". Дабрадзеі-каляндаршчыкі надалі годнасць "народнага" паэту, які насамрэч пры жыцці не ўбачыў выдадзенай ніводнай сваёй кніжкі — тая, якую сам падрыхтаваў да выдання, выйшла з друку пасля яго смерці.

яшчэ які, апроч музейнага, рабочы інтарэс. А Валянцін Паўлавіч актыўна пісаў літаратурна-крытычныя артыкулы, публіцыстыку, перакладаў на беларускую мову паэзію — з рускай, з польскай. І, натуральна, быў звязаны з рэдакцыямі выданняў, у якіх публікаваўся, адлучаўся са службы. Вось і бывала, што, ведучы ў нас дзелавую размову наконт здадзенай рэцэнзіі з намеснікам рэдактара ці загадчыкам літаратурнага аддзела, не-не ды скасавурыцца на гадзіннік. Маўляў, пабурквае ўжо, мусіць, цётачка Уладзя.

Вядома, тлумачылася ягоная разнажанравая актыўнасць у адрэзку часу, які згадваю, найперш згаладаласцю па творчай рабоце на самаблізкай яму літаратурнай ніве. Але мелася гэтаму, ясная рэч, і больш празаічнае тлумачэнне: дадатковы заробак да службовага грашовага акладу быў для сям'і вельмі не лішні. Дома ж пачала тэпаць дачушка, пра што ён з пяшчотным замілаваннем неяк у нас у рэдакцыі расказаў. І наогул бестурботным у матэрыяльным сэнсе існаванне сям'і не было.

Успамінаецца ў сувязі з гэтым забаўнае. На старонках "Літаратуры і мастацтва" часам друкаваліся тады допісы пад рубрыкай "За рабочым сталом пісьменніка". Аўтары расказвалі пра тое, што новае імі напісана, або заканчваецца, дапрацоўваецца, рэдагуецца, рыхтуецца да публікацыі. Адгукнуўся на просьбу выступіць з такім словам і Таўлай. Прынёс. Паведаміў у прынесеным, што вось-вось здасць у выдавецтва рукапіс першай кніжкі. Што старанна дашліфоўвае для яе народжаныя ў розныя гады вершы, бо "...хацелася, каб яны хоць у асноўным адпавядалі нашаму сённяшняму ўзроўню паэтычнай культуры".

Фатаграфія да нататкі павінна была быць сугучнай рубрыцы. Рэдакцыйны фотакарэспандэнт Жора Бугаенка пасадзіў Валянціна Паўлавіча за лепшы са сталоў у пакоі, з другога стала пераставіў на яго прыгожы пісьмовы прыбор. А праз дзень-два пасля выхаду нумара газеты заходзіць у рэдакцыю Янка Брыль і рагоча:

— У Таўлая ж няма дома аніякага свайго стала! За тым сталом, на якім жонка гаспадыніць і яны ўсаджваюцца есці, ён па начах і варожыць над паперай!

Брыль і Таўлай суседнічалі тады ў адным доміку амаль за мяжой горада.

Дык ведаючы, наколькі неспагадлівым быў да яго лёс, з прыкрасцю паціснуў плячыма, як прачытаў у адным календары "Родны край" 2004 года ў лістку за 8 лютага: "90 гадоў з дня нараджэння В. П. Таўлая (1914 — 1978), народнага паэта Беларусі". Дабрадзеі-каляндаршчыкі надалі годнасць "народнага" паэту, які насамрэч пры жыцці не ўбачыў выдадзенай ніводнай сваёй кніжкі — тая, якую сам падрыхтаваў да выдання, выйшла з друку пасля яго смерці. І пражыты век укладальнікі календара шчодра падоўжылі яму больш як на трыццаць гадоў.

Уражаны паэмай "Таварыш", падзяліўся гэтым уражаннем з Рыгорам Смолярам, тады загадчыкам аднаго з аддзелаў нашай рэдакцыі. Падзяліўся з ім таму, што ў Рыгора Давідавіча, як і ў Таўлая, было "капэзэбоўскае" мінулае. Да ўз'яднання Заходняй Беларусі з савецкай ён быў функцыянерам тамтэйшага камуністычнага падполля. Прыходам у 1939 годзе Чырвонай Арміі быў вызвалены з нядобра слыннай віленскай турмы Лукішкі. Далейшы лёс склаўся ў яго пакручаста. З пачаткам вайны апынуўся ў створаным акупантамі Мінскім гета. Маючы вопыт падпольнай дзейнасці, стаў тут адным з арганізатараў супраціву гітлераўцам. Пасля гета і партызанства, пасля колькіх паваенных гадоў у Мінску і Маскве, дзе працаваў у неліквідаваным яшчэ яўрэйскім выдавецтве, быў запрошаны, як аўтарытэтны калісь у польскіх камуністаў-нелегалаў чалавек, на працу ў Варшаву. Вырас у сацыялістычнай Польшчы ў заўважнага грамадскага дзеяча. Ды падчас шырокай антысеміцкай кампаніі пры Гамулку быў абылганы, зняслаўлены, вымушаны эміграваць. Закончылася ягоная жыццёвая адысея ў Ізраілі.

Забягаючы ў рэдакцыю, Таўлай, здаралася, хвіліну-другую напаўголасу гаварыў пра нешта з ім. Бачна было, што абменьваюцца яны інфармацыяй, важнай і цікавай для абодвух больш, чым для каго іншага ў пакоі.

У адказ на маё захапленне Смоляр і расказаў пра Таўлая да таго мне не дужа вядомае. Што быў Валянцін Паўлавіч найпрыкметнай постаццю сярод літаратурнай брацыі, якая ў даваеннай санацыйнай Польшчы пісала па-беларуску. Што творы ягоныя былі вельмі папулярныя сярод змагароў-падпольшчыкаў, сярод палітзняволеных у турмах. Што ён і сам напоўніцу паспытаў астрожнай няволі — як Смоляр у 1939 годзе выйшаў з Лукішкаў, так Таўлай у тыя ж дні — з гродзенскай турмы. Што паэтычнае слова было ці не галоўнай зброяй Таўлая-"капэзэбоўца" — сама праўда радок з аднаго яго верша: "Пілую вершамі краты".

Пасля той размовы я і пачаў не проста глядзець на аўтара "Таварыша" — углядацца ў яго. Вось жа, зусім не асілак з выгляду, а духам — волат. Увасабленне сціпласці і далікатнасці, а бачыўся пракурору пілсудчыкаўскай Польшчы, што патрабаваў для яго як суровейшага прысуду, найнебяспечным злачынцам.

Як жа хацелася пагаварыць з ім самому. Распытаць, што навяло яго на сюжэт "Таварыша", як нараджаліся ў ім гэтая, і падобныя да гэтай, рэчы. Ды саромеўся. Спадзяваўся, надарыцца як-небудзь зручная нагода.

Не надарылася. Праз лічаныя месяцы пасля таго, як прачытаў я ў часопісе паэму, Валянціна Паўлавіча не стала.

Не скажу, што ўсё, але многае з таго, пра што думалася, ды не выпала распытаць Таўлая, я "павыпытваў" потым у ягонай літаратурнай спадчыны, апублікаванай і на той час неапублікаванай (дзякуй ёй, дазволіла пазнаёміцца з архівам удава Валянціна Паўлавіча — Лідзія Сяргееўна), з іншых крыніц, у сяброў маладосці паэта.

Пішу гэтыя старонкі, а на стале перада мной зборнік выбраных твораў Таўлая, выдадзены ў 1958 годзе, — трэці, што ўбачыў свет пасля смерці аўтара. Прадмову да зборніка напісаў тады я — замовіла выдавецтва. Напісаў на матэрыяле сваёй дыпломнай работы, абароненай пры заканчэнні ўніверсітэта і праз год пасля абароны надрукаванай артыкулам у часопісе "Полымя". Дык сёння нават дзіўлюся

Ён "шліфаваў радок, як сталь звяна". Калі зноў узяць паэму "Таварыш", то я знаёміўся з захаванымі аўтарам варыянтамі раздзелаў, строф, радкоў, і бачыў, як уедліва ішла гэтая шліфоўка, як павышалася самапатрабавальнасць паэта, як прыходзілі да яго літаратурная сталасць, майстэрства. Пачынаў працаваць над творам адзін паэт, заканчваў праз гады другі, куды вышэйшага класа.

выяўленай мной у прадмове па-інфармаванасці наконт таго, кім быў зусім малады яшчэ Таўлай для нацыянальна-вызваленчага руху ў падпольскай Заходняй Беларусі. Вядома ж пра гэта было яшчэ вельмі мала. Мой палымянскі артыкул — пры ўсім крытычным цяпер маім на яго паглядзе — быў з ліку першых, што з'явіліся на гэтую тэму.

Па выхадзе з друку той Таўлаевай кніжкі, якую ён сам падрыхтаваў, але надрукаванай не ўбачыў, я гэтак жа, як "Таварышам", быў уражаны амаль усім у ёй змешчаным. І, дазволю сабе сказаць такое, паімкнуўся ў таўлаязнаўства. Надрукаваў у "Звяздзе" рэцэнзію на кніжку. Для курсавой работы ва ўніверсітэце — вучыўся тады на трэцім ці чацвёртым курсе — дамовіўся пра тэму "Валянцін Таўлай у рэдакцыі газеты "Звязда" — гэтая работа потым таксама стала артыкулам у "Полымі".

Справа тут у тым, што ў свае шаснаццаць гадоў ужо двойчы паспытаўшы турэмнага зняволення як палітычны вязень, увосень 1930-га актывіст падпольнага заходнебеларускага камсамола Таўлай таемна пераправіўся ў БССР. У Мінску ён працаваў пасля гэтага нейкі час у "Звяздзе". Вось я і ўлез у падшыўкі "Звязды" за адпаведны перыяд. Колькі ж адкрыў для сябе напісанай ім для газеты цікавай публіцыстыкі.

Помню, прачытаў агністы ягоны нарыс "Паўстане да бою" — аповед пра вучнёўскія палітычныя хваляванні ў Віленскай беларускай гімназіі, удзельнікам якіх ён быў сам. Юных бунтаўнікоў уціхамірвала паліцыя. Арганізатары хваляванняў, у іх ліку Таўлай, былі выключаны з гімназіі, кінуты ў засценкі дэфензівы.

Чытаць нарыс у пасляваенную пару мне было цікава яшчэ таму, што дырэктарстваваў у гімназіі падчас апісаных падзей, і значыць выклікаў паліцыю на сцішэнне гімназістаў ганебнаслынны пазней Радаслаў Астроўскі — дзеяч, які ў вайну пры акупацыі Беларусі ўзначаліў калабаранцкую Беларускую цэнтральную раду. Пры тым, што калісь, як дужа "левы", ён супрацоўнічаў з ЦК КП(б)Б і КПЗБ, пераход потым у душыцелі таго, чаго раней нібыта трымаўся, даў падставу бунтоўным вучням крычаць яму ў твар: "Здрадаслаў!".

А на пятым курсе заглыбіўся я ў дыпломную работу. На памяці ў сувязі з гэтым рознае. Здзівіла, напрыклад, рэагаванне найшаноўнага Піліпа Пестрака на просьбу расказаць што можа пра Таўлая-"капэзэбоўца". Сам шматгадовы змагар у падпольскай Заходняй Беларусі, ён сядзеў у Гродзенскай турме ў адзін час з Валянцінам Паўлавічам. Але пачуўшы ад мяне, што, маўляў, так і так, пішу дыпломную работу пра Таўлая, да каго ж мне першага прыходзіць, як не да вас, з'едліва-хітравата ўсміхнуўся:

— А ты напішаш у дыпломнай, што Таўлай быў слабак?

Весці размову далей расхацелася.

Пазней давялося пачуць: хто-ніхто са зняволеных аднапартыйцаў вінаваціў у турме Таўлая ў слабасці з прычыны, што ён пасля арышту прызнаў на допыце факт свайго двухгадовага знаходжання ў СССР. Можа гэта Піліп Сямёнавіч і меў на ўвазе. Хоць як было Таўлаю адмаўляць гэта, калі перад следчым ляжала "Звязда" з яго, Таўлаевымі, публікацыямі.

Пераканаўся я, пішучы дыпломную, якая сказана Таўлаем высокая праўда пра сябе ў адным з праграмных вершаў, што ён "шліфаваў радок, як сталь звяна". Калі зноў узяць паэму "Таварыш", то я знаёміўся з захаванымі аўтарам варыянтамі раздзелаў, строф, радкоў, і бачыў, як уедліва ішла гэтая шліфоўка, як павышалася самапатрабавальнасць паэта, як прыходзілі да яго літаратурная сталасць, майстэрства. Пачынаў працаваць над творам адзін паэт, заканчваў праз гады другі, куды вышэйшага класа.

Кіраўніком маёй дыпломнай работы быў прафесар Міхась Ларчанка, апанентам пры абароне Іван Мележ, яшчэ не класік беларускай літаратуры, а празаік-пачатковец, аўтар адзінай кніжкі апавяданняў і малады ўніверсітэцкі выкладчык. Ім і было сказана, што работа вартая быць надрукаванай.

…Чытаю сабе на памяць заключныя радкі паэмы, і адчуваю тое ж, што адчуў больш за шэсць дзесяцігоддзяў таму, прачытаўшы гэты твор упершыню:

Ён ляжыць на нары халоднай,  
Малады — як ніколі раней.  
Яго сэрцу ў вятрах паходняй  
З пірэнейскіх скал палымнець.

Уладзімір МЕХАЎ

У сталічнай галерэі "Мастацтва" прайшла персанальная выстаўка вядомага беларускага пейзажыста Мікалая Цурыкава. Экспазіцыя пад адмысловай назвай "На зыходзе лета" (альбо "Прыгажосць Прыроды: Час і Мастак") прадставіла каля паўсотні палотнаў-краявідаў, створаных пад уплывам уласных назіранняў жывапісца і яго роздуму падчас шматлікіх "творчых практык" на пленэры. Больш як чвэрць стагоддзя Мікалай Яфімавіч самааддана выкладае малюнак і жывапіс для студэнтаў — будучых архітэктараў — у БНТУ, з якімі таксама выязджае на пленэры. А раней, яшчэ за савецкім часам, аб'ездзіў з творчымі вандроўкамі Карэлію, Сібір, Прыбалтыку, Украіну.

# Вучыцца ў прыроды









Атрымаўшы добрую прафесійную вышэйшую адукацыю ў колішнім Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер БДАМ), дзе яго ўлюбёным настаўнікам быў выдатны беларускі мастак, каларыст-віртуоз, Натан Воранаў, Мікалай Цурыкаў у далейшай самастойнай творчасці ніколі не губляў сакральную повязь са сваёй малой радзімай — мястэчкам Касцюковічы, што на Магілёўшчыне, наогул — з чароўнай роднай беларускай зямлёй. Праз усё жыццё пранёс ён светлыя, рамантычна-ўсхваляваныя ўражанні вясковага дзяцінства, натуральна ўвабраўшы ў сваё светаадчуванне спрадвечную народную мудрасць, менталітэт, эстэтычныя каштоўнасці бацькоў-сялян і продкаў-радзімічаў. Вось адкуль з цягам часу выкрышталізуецца яго актуальнае "метафізічна"-філасофскае крэда: "Усё навокал — Добраўпарадкаваны Разумны Сусвет!"...

Тэмы і сюжэты карцін Мікалая Цурыкава знешне немудрагелістыя і простыя. Так, гэта, як адзначаюць некаторыя айчынныя даследчыкі, — паэтычныя, лірычныя, мілагучныя "навелы-сюіты", творы пра старажытную і заўсёды прывабную, сучасную, ціхамірную, чыстую родную беларускую прыроду, пра неўрбанізаванае, ідылічнае чалавечае жыццё. У майстэрні мастака, размешчанай у гістарычным будынку — вежы на сталічнай Прывакзальнай плошчы, заўсёды гучыць гарманічная класічная музыка, а яго пейзажы, народжаныя тут, нясуць у сабе жыццесцвярджальную сутнасць, разважлівую глыбіню. Як шмат можна расказаць і перадаць у, здавалася б, такім "хатнім", звыклым, штодзённым, камерным па памерах, але разам з тым — касмічна значным, сусветна прыгожым і жыццёва праўдзівым "эцюдным" палатне!

Здзіўляе і яркая, вельмі насычаная, амаль адкрытага колеру палітра майстра, яго смелыя, лёгкія, быццам "вільготна размытыя", як у акварэлі, шырока пакладзеныя на белізну грунтаванай асновы празрыстыя, светланосныя, кантрасныя і сугучныя, лакальныя колеравыя плямы-мазкі. І ў тым своеасаблівая, адметная, ні да кога больш не падобная, індывідуальная манера-почырк гэтага таленавітага жывапісца, якая міжволі (ці ўсвядомлена) увабрала ў сябе і некаторыя рысы сенсітыўнага народнага мастацтва, і "авангарднага" абстрагавання-абагульнення (ёсць тут, відавочна, і нейкі ўплыў "навамоднага" масавага кітчу-відовішчнасці, што ўрэшце дае трапны вынік). Прытым Мікалай Цурыкаў не аддаляецца ні на крок ад сур'ёзнай інтэлектуальнасці, вонкавага рэалізму, прафесійнага акадэмізму, уважлівай трактоўкі дэталяў.

Ці ёсць шэдэўры сярод яго карцін? Безумоўна, яны вылучаліся з усёй экспазіцыі. Але ж, думаецца, такі падыход да выстаўкі не зусім карэктны. Бо ўсялякі яскравы, добра зроблены, цэласны, "поліфанічны" мастацкі твор, як і кожны чалавечы лёс, — адметная і непаўторная, унікальная праява бязмежнага свету Маці-прыроды... Менавіта пра гэта і нагадваюць пранікнёныя, чароўныя навелы-"абярэгі" — пейзажы і нацюрморты Мікалая Цурыкава, дыпламаванага народнага эстэта-самародка. Глыбінную духоўную ахову Прашчура адчуваеш у многіх яго "колеравых сюітах", сярод якіх "Раніца. Лясное возера", "Ліпень", "Стары парк", "Воблакі", "Летні вечар"...

Дэмакратычныя, цнатліва-самавітыя, аптымістычна-прыцягальныя, патрыятычныя па духу жывапіс Мікалая Цурыкава мае вялікі поспех і попыт у беларускіх дыяспарах па ўсім свеце, у суайчыннікаў-эмігрантаў, чые эпісталярныя віншавальныя водгукі часта прыходзяць у Мінск да майстра адусюль. Увасобленыя мастаком цёплыя і жывыя краявіды Бацькаўшчыны ўпрыгожваюць прыватныя зборы і музеі далёкіх і блізкіх ад Беларусі краін на розных кантынентах! Але, мабыць, больш за ўсё яны патрэбныя і карысныя будуць тут, на радзіме, бо плённая дзейнасць вось такіх крэатыўных "малапрыкметных" айчынных творцаў — непаўторны, неацэнны і пазітыўны набытак сённяшняга выяўленчага мастацтва, — па вялікім рахунку, скіраваная і ў нашу будучыню.

*Алесь РУНЕЦ*

На здымках: карціны Мікалая Цурыкава "Восеньскі прасцяг", "Адліга. Снежань", "Пасля навальніцы", "Рамонкі і садавіна".

# Вяртанне Ваньковіча



На рэспубліканскай выстаўцы "Зямля пад белымі крыламі" ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі творчасць сучасных айчынных скульптараў выглядала даволі прадстаўніча: майстры розных пакаленняў, шматстайнасць кампазіцыйных ідэй, сюжэтаў і жанраў, індывідуальная адметнасць вобразнага бачання і падыходаў да пластычнага ўвасаблення тэмы, рознасць стыляў... Экспанавалася нямала работ, пазначаных як "уласнасць аўтара", а такая спасылка, безумоўна, інтрыгуе гледача. Адразу звяртаеш увагу на год: калі твор датаваны не сёлетнім годам, значыць, у яго ўжо ёсць свая гісторыя, звязаная, хутчэй за ўсё, з няпростым лёсам гэтай станковай работы як часткі нейкага манументальнага праекта. Прынамсі, убачыўшы на тым вернісажы створаны ў 2000 годзе бронзавы бюст "Валенцій Ванькович" (уласнасць аўтара — Уладзіміра Слабодчыкава; фотаздымак гэтага скульптурнага аблічча друкаваўся ў "ЛіМе" 17.09.2010 г.), можна было здагадацца, што прызначаўся ён не для камернай атмасферы салонаў і галерэй: такому рамантычнаму вобразу патрэбна ўтульная, але разамкнёная прастора, вольнае паветра, свежы вецер, адкрытае неба — сонечнае, засмужанае, навальнічнае, зорнае...

Прысутныя на вернісажы, за малым выключэннем, не ведалі, што неўзабаве ў гістарычным квартале Мінска, на тэрыторыі філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі "Дом Ваньковічаў", паблізу сядзібы XIX стагоддзя паўстане ў бронзе — у поўны рост! — яе колішні гаспадар. Сёння на кампазіцыю "Раніца мастака", створаную скульптарам Уладзімірам Слабодчыкавым і архітэктарам Барысам Казаковым, можна падзівіцца, збочыўшы з вуліцы Інтэрнацыянальнай ва ўваходную браму Дома Ваньковічаў, узведзеную, дарэчы, не так даўно. Праца па стварэнні і ўсталяванні арыгінальнай гарадской скульптуры расцягнулася на 10 гадоў. Рэалізаваць праект удалося пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры краіны і генеральнага спонсара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі — кампаніі "Брытыш-Амерыкан Табака", якая выдаткавала на гэтую справу 30 млн. рублёў.

Нагадаю, што наш таленавіты зямляк, знаны жывапісец, прадстаўнік рамантызму, паходзіў са старажытнага беларускага роду Ваньковічаў. Плён яго дзейнасці звязаны з мастацкім жыццём Беларусі, Літвы, Польшчы. Валенцій Мельхіёравіч Ванькович (14.02.1800 або, паводле іншых звестак, 1799 г. — 12.05.1842 г.) нарадзіўся ў вёсцы Каложыца Ігуменскага павета (цяпер Бярэзінскі раён). Дзіцячыя гады прайшлі ў вёсцы Сляпянка пад Мінскам. Вучыўся В. Ванькович у Полацкім езуіцкім калегіуме, потым у Віленскім універсітэце, у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Скончыўшы навучанне, жыў у Мінску, карыстаўся майстэрняй у Сляпянцы. Сябраваў з Адамам Міцкевічам, да якога ў 1839-м выехаў за мяжу. У творчай спадчыне — малюнкі, літаграфіі (у тым ліку "Аўтапартрэт"), карціны "Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе", "Міцкевіч на скале Аюдаг", "Напалеон каля вогнішча", партрэты А. Пушкіна, А. Міцкевіча, М. Шыманоўскай, К. Ліпінскага...



Дзякуючы нашаму сучасніку Уладзіміру Слабодчыкаву мастак вярнуўся на радзіму, у сваю маладосць. Ён быццам толькі што крочыў з дому ў прахалоду свежай мінскай раніцы; трымае палітру, пэндзаль. Куды скіраваны яго позірк? Магчыма, Ванькович углядаецца ў фарбы, якія леглі на яго новае палатно. Магчыма, імкнецца ўбачыць гарадскую далячынь, якую сёння заступаюць каменныя гмахі — монстры ўрбанізацыі. А, можа, у гэтых вачах — светлая туга па мінуўшчыне і настальгія па колішнім родным кутку, які ён пакідаў назаўсёды, выпраўляючыся ў Парыж?..

*Святлана БЕРАСЦЕНЬ*

На здымках: рэпрадукцыя аўтапартрэта Валенція Ваньковіча; скульптурная кампазіцыя "Раніца мастака".

Фота аўтара



Месяц таму ў горадзе Крупкі і яго ваколіцах праходзіў пленэр “Восеньскія мелодыі” суполкі мастакоў “Традыцыя”. На адкрыцці прысутнічалі юныя мастакі — навучэнцы школ Крупскага раёна, перад якімі выступілі вядомыя беларускія творцы. Заслужаны дзеяч мастацтваў, загадчык кафедры жывапісу, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Уродніч заклікаў дзетак старанна вучыцца і ўважліва назіраць за наваколлем, занатоўваць і запамінаць убачанае і працягваць мастацкую адукацыю, настройваючыся на доўгі і нялёгкі прафесійны шлях. Мікола Мішчанка зазначыў, што таленавітыя мастакі нараджаюцца вось у такіх прыгожых куточках нашай Радзімы. Выкладчыкі Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка Святаслаў Федарэнка і Аляксей Панцюк-Жукоўскі распавялі пра асаблівасці навучання ў сваёй установе. А Віктар Барабанцаў правёў майстар-клас для юных мастакоў.





# У мастацтве не так, як у модзе

Улады раёна цёпла сустрэлі гасцей, дапамаглі ў правядзенні пленэру. Ён быў хоць і не вельмі працяглы, але запамінальны, бо на Крупшчыне шмат цікавых мясцін, тут знаходзіцца заказнік рэспубліканскага значэння з возерам Сялява — унікальны ландшафтна-азёрны комплекс з папуляцыямі рэдкіх, і занесеных у Чырвоную кнігу, відаў раслін ды жывёл. Пры канцы пленэру мастакі наладзілі ў Крупскай карціннай галерэі паказ сваіх толькі што напісаных эцюдаў, па адным падаравалі ў яе фонд.

Адзначу, што суполка “Традыцыя” за 2010 год правяла выстаўкі ў Мінску, Віцебску і Оршы, пазнаёміўшы гледачоў з творчасцю ўдзельнікаў свайго аб’яднання, якія ўласнай практыкай стараюцца захаваць рэалістычныя традыцыі станковага жывапісу, тэматычнай карціны, партрэта, пейзажу.

Пасля завяршэння пленэру зачараваныя Крупшчынай мастакі вярнуліся ў Мінск, і мы пагутарылі з кіраўніком гэтай мастацка-асветніцкай акцыі Уладзімірам Уроднічам.



— Уладзімір Васільевіч, як вы ставіцеся да творчых паездак кшталту такой, у якой пабывала нядаўна ваша група?

— У 1980-я гады ў Беларусі была слаўная традыцыя арганізоўваць сельскія карцінныя галерэі, якія фарміраваліся ў канкрэтных раёнах, населеных пунктах. Гэта служыла цудоўным дапаўненнем да выдадзеных ва ўсіх раёнах кніг “Памяць”. Але ў далейшым адбыўся сацыяльна-эканамічны злом і такія акцыі прыпыніліся. Сёння, калі агульная эканамічная сітуацыя ў краіне змянілася, мы звяртаем увагу на тое, што колішнія добрыя ідэі трэба падтрымаць і развіваць. Праз гэтыя галерэі ажыццяўляецца “прывязка” мастака да сацыяльнага комплексу, фарміраванне пэўнага ідэалагічнага складніка жыцця. У гэтай справе кожны раён зыходзіць са сваіх матэрыяльных і духоўных магчымасцей, і калі на сённяшні дзень мастацкія галерэі мала ў якіх раёнах ёсць, можна зрабіць высnову: ім, відаць, не да гэтага. Але мастакі заўжды гатовыя падтрымаць мясцовую ініцыятыву. Наша канкрэтная праца пачынаецца са знаёмства з прыродай, з наваколлем, з гісторыяй раёна. На пленэры гэта знаёмства агульнае. А гістарычная аснова жыцця рэгіёна вымагае больш уважлівага вывучэння. Пабываўшы нядаўна на Крупшчыне, мы з калегамі пераканаліся: біяграфія гэтага раёна вельмі багатая, і самі мясціны, і звязаныя з імі даты, гістарычныя падзеі вартыя таго, каб быць адлюстраванымі на палотнах і стаць арганічным выхаваўчым звяном для моладзі.

У пленэры ўдзельнічалі мастакі, адзначаныя званнямі, лаўрэацкімі прэміямі, вядомыя як педагогі. Касцяк нашага творчага аб’яднання, як вядома, складаецца з майстроў старэйшага пакалення, выхаваных на традыцыях савецкай беларускай мастацкай школы. Яны і сёння працягваюць гэтыя традыцыі, у духу якіх імкнуцца выхоўваць новае пакаленне, заклікаючы не паддавацца ўплыву модных напрамкаў, прынесеных “ветрам перабудовы”. Сёння шмат навацый у розных сферах жыцця. Але ўспомнім вядомую мудрасць: “Усё новае — гэта добра забытае старое”. І чарговыя пакаленні цяпер атрымліваюць магчымасць паўдзельнічаць у той высакароднай справе, што мы ініцыіравалі ў свой час: несці духоўнасць у масы, і найперш на перыферыі, дзе нас асабліва чакаюць. А паўдзельнічаць у пленэры — гэта для мастака ўсё адно, што для спартсмена — пабываць на зборах перад адказным спаборніцтвам. На пленэры мастакі размінаюцца, трэніруюцца, збіраюць матэрыял і рыхтуюцца да фундаментальнай працы, каб у майстэрні працягваць зробленае і пісаць серыі пейзажаў, кампазіцый. Такія выезды ў глыбінку — крыніца новых задум.

— Якім чынам ваша пазіцыя суадносіцца з педагагічнай працай?

— Я з’яўляюся старшынёй аб’яднання “Традыцыя”, я — вучань традыцыйнай рэалістычнай школы і па-ранейшаму абапіраюся на творчы досвед вядомых рускіх мастакоў: Сурыкава, Каровіна, Сярова. Я перакананы: навучальная мастацкая ўстанова можа ў нейкай ступені дапаўніць тое, што дала прырода маладому таленавітаму чалавеку: навучыць майстэрству, навучыць разбірацца ў філасофіі жыцця, бо толькі “падправіць” ход мастацкага мыслення студэнта, развіццё майстэрства — мала. Мы столькі гаворым пра ідэалогію, але напісанага на гэтую тэму, у дачыненні да сённяшняга дня, няма. Я, можна сказаць, прымушаю сваіх студэнтаў уважліва ўглядацца ў сённяшні дзень, аналізаваць мінулае і сучаснае. Само па сабе гэта прыходзіць ужо ў сталым узросце — гадоў у 50. У больш раннім узросце чалавеку бракуе вопыту і досведу. Маладыя мастакі, напрыклад, не набіраюць фактуру для параўнання. Я іх вучу не “раздзіраць” сённяшні час, а ўглядацца ў жыццё і не за кожнай “навацыяй” бегчы на злом галавы. У выяўленчым мастацтве зусім не так, як у модзе, і сапраўдныя мастакі ніколі не былі сезоннікамі. Мастак сваю пазіцыю фарміруе ўсё жыццё. Народныя мастакі Беларусі В. Грамыка, Г. Вашчанка, Г. Паплаўскі, М. Савіцкі, Л. Шчамялёў фарміраваліся як творчыя асобы, абапіраючыся на ўласныя грамадзянскія, жыццёвыя прынцыпы. Сваім творчым прыкладам падказвалі лепшыя рысы сучасніка, арыенціры для грамадства: любоў да Бацькаўшчыны, да родных традыцый, да чалавека, які жыве побач.

— Уладзімір Васільевіч, вы пішаце свае вялікія сюжэтна-тэматычныя карціны пра армію і пра вёску. Чаму такія прыярытэты?

— Час ваенных падзей, які забраў у мяне бацьку, назаўсёды пакінуў у душы боль. З усведамленнем свайго абавязку я адслужыў у Савецкай Арміі. На працягу стагоддзяў беларуская зямля перанесла шмат трагічных узрушэнняў, і кожны раз мы выжывалі… Тэма барацьбы за выжыванне зрабілася асноўнай у кіно, у літаратуры, у выяўленчым мастацтве нашай краіны… Што да вясковай тэмы... Думкамі я заўжды ў ёй, і кожную ноч бачу ў сне старонкі з дзяцінства. З такіх думак-успамінаў нарадзіліся карціны “Дарога майго юнацтва”, “Гоман Палесся”, “Раніца туманoвая”, “Рытмы Прыпяці”, “Чаканне”, а таксама серыя краявідаў і партрэтаў, што ўваходзяць у цыкл “Людзі Сталіншчыны”, які быў адзначаны ў 2005 годзе спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі ў намінацыі “Выяўленчае мастацтва”. Усе падзеі, якія адбываюцца на Палессі, у маёй творчасці звязаныя з рэкамі Гарынь і Прыпяць, з жыхарамі вёскі Вялікія Арлы, што на Сталіншчыне. Штогод, бываючы на малой радзіме, я размаўляю з гэтымі людзьмі і захапляюся іх мудрасцю, ветлівасцю, дабрынёй. Такімі іх і адлюстроўваю на сваіх палотнах.

— Апроч суполкі “Традыцыя”, вы аддаяце шмат увагі Студыі вайсковых мастакоў...

— З 2003 года, дзякуючы падтрымцы былога міністра абароны Беларусі Леаніда Мальцава, дзейнічае такая студыя пры Цэнтральным Доме афіцэраў. Развіваючы ваенна-патрыятычную тэматыку ў беларускім мастацтве, мы, удзельнікі студыі, па меры сваіх магчымасцей увасабляем старонкі барацьбы нашага народа за незалежнасць, адлюстроўваем складаныя крокі фарміравання сучаснай беларускай дзяржавы. У маёй творчасці гэта “Наперад, Бярзіна!”, “На магілёўскім напрамку”, “Слова Айчыне”, “Дарога да Вялікай Мядзведзіцы” ды іншыя карціны апошняга часу, у тым ліку створаная сёлета — “Час цвіцення лілей”...

— А што ў творчых планах на заўтрашні дзень?

— Прызнаюся, праз два гады мне будзе ўжо 70. І я рыхтуюся да гэтай даты.

Галія ФАТЫХАВА





На здымках: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Уродніч і яго палотны “Час цвіцення лілей”, “Партрэт Ніны Загорскай”, “Шляхам лёсу”, “Спее пшаніца”, “Напярэдадні галоўнага ўдару”.

Фота Віктара Кавалёва







# Пакінуўшы цуд на зямлі...

**Завітаўшы гэтымі днямі ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча, можна падзівіцца на ўнікальныя ўзоры традыцыйнага беларускага мастацтва выцінанкі — рукатворныя дзівосы, якія задумаў, увасобіў і пакінуў усім нам у спадчыну незабыўны Вячаслаў Дубінка (17. 12. 1941 — 10. 08. 2010). Выстаўка яго славутых выцінанак, якія шматкроць экспанаваліся ў Беларусі ды ў замежжы, называецца "Я проста ў далёкай вандроўцы..." і прысвячаецца памяці знанага майстра. У музеі яна прабудзе да 24 кастрычніка.**

Вячаслаў Андрэевіч не проста ўражваў, але і захапляў, і зараджаў людзей сваёй магутнай творчай энергіяй, прагай падарожжаў і адкрыццяў, аптымізмам, талентам радавацца жыццю, дзень пры дні чакаючы нейкага дзіва. Гэтым летам раптоўна, можна сказаць — у дарозе, абарваўся зямны маршрут нястомнага вандроўніка. Напэўна, яго шчырая няўтомная душа працягвае сваё падарожжа ў вечнасці. А тут, сярод нас, жывуць яго маляўнічыя фотанарысы і краязнаўчыя альбомы; жывуць кнігі, прасякнутыя гумарам і смакам слуцкай гаворкі, — "Паплач ля роднае крынічкі", "Браты святой ночы" , "Сіндыкат Мані Дулі"... Жывуць непаўторныя выцінанкі. Як мяркуюць даследчыкі, гэты від дэкаратыўна-прыкладной творчасці знік з побытавага ўжытку беларусаў у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. І адрадзіўся ён у нас менавіта дзякуючы В. Дубінку, дый яшчэ ўзбагаціўся, стаў своеадметным напрамкам у нашым нацыянальным мастацтве.

Свае выцінанкі (а пачыналася ўсё з традыцыйных папяровых сняжынак і дайшло да сюжэтных аплікацый) называў ён "выразаннем казак" і лічыў уцехай для душы. Сюжэты браў адусюль: натхнялі старая капліčка і дуб на ўзлеску, казачныя персанажы і героі былін, жыўнасць на вясковых падворках і "насельнікі" сялянскіх агародаў. Нават не верыцца, што калісьці яго захапленне лічылі, мякка кажучы, дзівацтвам. Вячаслаў Андрэевіч разпораз успамінаў, як праз гэты занятак, што дапамагаў яму бавіць пустыя гадзіны на вакзалах падчас камандзіровачных пераездаў ды пералётаў, "ненармальны з нажніцамі" выклікаў падазрэнне ў дзяжурнага міліцыянера і ледзь не быў затрыманы.



У адным са сваіх інтэрв'ю майстар прызнаўся, што з дзяцінства збіраў фанцікі, абгорткі ад цукерак, карцінкі з карабкоў папярос, запалкавыя налепкі, календары: "Дзякуючы калекцыянаванню паштовых марак і запалкавых налепак, я прызвычаіўся бачыць прыгожае, многа чытаў, трэніраваў зрокавую памяць, а гэта спатрэбілася ў прафесійнай фотажурналістыцы. Цацкі рабіў са школьнае пары… Сваім дзецям пры дапамозе выцінанкі майстраваў казачныя церамочкі, лялькі са скуры, а сябрам — куфэркі, нататнікі... Выцінанкі — усмешка душы. Як працую з нажніцамі — душа спявае!"

Вячаслаў Дубінка нарадзіўся ў Слуцку ў сям'і рабочага. Скончыў Чарнавіцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту. Працаваў брыгадзірам комплекснай брыгады, прарабам, начальнікам будаўнічага ўчастка ў Слуцку, фотакарэспандэнтам раённых газет у Любані, Салігорску, Лагойску, у рэспубліканскіх выданнях — "Звязда", "Чырвоная змена", "Беларусь", у студыі "Фота і жыццё" Беларускага саюза журналістаў, фатографам рэстаўрацыйнай майстэрні Мінстэрства культуры БССР, супрацоўнічаў з "ЛіМам". Аўтар фотанарысаў, фотаальбомаў "Бабруйск", "Нясвіж", "Магілёў", "Брэст", кніг публіцыстыкі, прозы. У літаральным сэнсе слова майстар на ўсе рукі (давялося рабіць мулярам і цеслем, механікам і плытагонам, кухарам і пераплётчыкам), ён рознабакова праявіў сябе і ў творчасці, быў прыняты ў некалькі саюзаў.

Сваімі выцінанкамі ілюстраваў паэтычныя кнігі, выданні казак, зборнік Артура Вольскага для дзяцей "Жывыя літары". А знаны рэжысёр-аніматар Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Міхась Тумеля працягвае ствараць на аснове работ Вячаслава Дубінкі цыкл фільмаў "Беларускія прымаўкі", першыя з якіх атрымалі міжнародныя ўзнагароды. Апошнім часам Вячаслаў Андрэевіч, сярод іншых сваіх спраў, рупіўся пра выданне альбома незабыўнага лімаўца, унікальнага фотаэлетапісца літаратурна-мастацкага жыцця Беларусі другой паловы XX стагоддзя — Уладзіміра Крука: заходзіў у рэдакцыю, звяртаўся да супрацоўнікаў па ўспаміны пра калегу.

Чарговы вернісаж Вячаслава Дубінкі адбыўся ўжо, на жаль, без самога аўтара цудоўных выцінанак... Удзел у адкрыцці выстаўкі, прысвечанай памяці гэтага таленавітага чалавека, узялі яго калегі, сябры, афіцыйныя асобы, у тым ліку намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута.

Лана ІВАНОВА

На здымках: Вячаслаў Дубінка, яго выцінанкі і госці выстаўкі.

Фота Кастуся Дробава

## У наступным нумары

У кіно заўсёды была важнаю літаратурная аснова. Усе разумеюць, што патрэбен добры літаратурны сцэнарый. Але наколькі ён запатрабаваны? Чаму прафесіяналы па-ранейшаму гавораць аб праблемах тэхнічнага і фінансавага бакоў вытворчасці кіно? Што змянілася апошнімі гадамі? Як дзяржава стварае ўмовы для творцаў у межах дзяржзаказу і чаму яна не можа ахапіць усе сегменты, у тым ліку і рынкавыя, вытворчасці кіно? Размову пра нацыянальны кінематограф і яго праблемы на старонках "ЛіМа" распачынае доктар юрыдычных навук, прафесар, пісьменнік і кінадраматург Сяргей ТРАХІМЁНАК у артыкуле "Кіно ў Беларусі. Нататкі староннага".

З глыбінкі

## Выцінанка — гэта традыцыя

Дваццаць гадоў у Дзятлаўскім доме дзіцячай творчасці працуе гурток "Беларуская выцінанка". Кіруе ім адданы і натхнёны чалавек — Алена Турчэнік. Алена Генрыхаўна з тых людзей, пра якіх кажуць: педагог ад Бога. Яна ведае, як незразумелае зрабіць звычайным, а складанае — лёгкім для выканання. А яшчэ яна вельмі любіць дзяцей. І школьнікі, якія ходзяць у Дом творчасці на заняткі, адказваюць ёй шчырай прывязанасцю. У гуртка нямала дасягненняў і перамог. Члены яго могуць пахваліцца ўзнагародамі шматлікіх конкурсаў, у якіх яны ўдзельнічалі. Свае работы хлопчыкі і дзяўчынкі дэманстравалі на фестывалі фальклору "Панямонне жыватворная крыніца", абласной выстаўцы "Саматканы цуд", рэспубліканскай "Калядная зорка".

Гуртkоўцы вучацца ствараць не толькі выцінанкі, але і маляваць на шкле, рабіць яркія пано з цеста і дэкаратыўныя кветкі з тканіны — усё гэта потым упрыгожвае дамы юных майстроў альбо становіцца незвычайным, яркім, прыгожым падарункам для блізкіх і сяброў. Аднак, майстэрства рабіць выцінанкі — галоўнае, чым імкнуцца авалодаць хлопчыкі і дзяўчынкі. Сапраўды, не любіць выцінанку нельга. Яна — частка душы беларуса. Праз выцінанку ён выказвае свае адносіны да свету, у якім жыве. Як жа заварожваюць гэтыя парныя выразаныя кветкі, дрэўцы, жывёлкі, чалавечкі! Робячы іх, нашы продкі нібыта дэкларавалі: ніхто і нішто не створана прыродай для адзіноты. Твая "другая палавінка" існуе і чакае цябе, каб злучыцца ў адно цэлае.

Прыемна назіраць, як працуюць дзеці. Над белай паперай так і мільгаюць пальчыкі, ціха "пстрыкаюць" нажніцы. І вось надыходзіць чаканы момант — і расцвітаюць дзівосныя кветкі, і высока ў неба ўзнімаюцца купалы храмаў, і ляцяць над зямлёю анёлы… Ад зусім простага да складаных сюжэтаў — такі шлях праходзяць гуртkоўцы са сваім кіраўніком Аленай Генрыхаўнай згодна са створанай ёю аўтарскай праграмай навучання. Сур'ёзна і ўмела працуюць з нажніцамі Алена Пранкевіч, Дзяніс Касцоў, Юля Цімашэвіч. А творы самой Алены Турчэнік нават надрукаваныя асобнай кнігай. Выданне стала добрым дапаможнікам для ўсіх, хто любіць народныя традыцыі і хоча авалодаць майстэрствам выцінанкі.

Іосіф ЗАЯЦ
Дзятлаўскі раён

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2974
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.10.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5078
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686